11 верасня 2020 | № 34 (693)
Выдаецца з сакавіка 2002 года
Новы час
novychas.by
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ
ISSN 2218-2144

Літаратурная Беларусь
стар. 7–18

# Праўду не схаваеш, свабоду не заб’еш

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Сотні затрыманых, сотні штрафаў, суткі, выкраданні. Так блазны ў балаклавах спрабуюць забіць наш пратэст. А яшчэ яны думаюць, што пераследам журналістаў прымусяць іх замаўчаць. Але праўду не схаваеш.**

1 верасня 6 журналістаў — Надзея Калініна і Аляксей Суднікаў (TUT.BY), Марыя Эляшэвіч, Сяргей Шчогалеў, Мікіта Дубалека («Камсамольская праўда ў Беларусі») і Андрэй Шаўлюга (БелаПАН) — былі затрыманыя падчас асвятлення студэнцкіх пратэстаў у Мінску. Усе яны былі пазначаныя ў адпаведнасці з заканадаўствам: на іх былі надзетыя сінія камізэлькі з надпісам «ПРЭСА», таксама яны мелі бэйджы з фотаздымкамі і ўказаннем СМІ, для якога працуюць. Няма ніякіх сумневаў, што журналістаў затрымлівалі мэтанакіравана, каб перашкодзіць незалежным СМІ даваць праўдзівую інфармацыю аб падзеях. 4 верасня калегі выйшлі на волю, адседзеўшы па 3 сутак арышту.

Уладам не хапіла смеласці адкрыта сказаць журналістам: шаноўныя, мы мусім вас нейтралізаваць, бо вы занадта шмат гаворыце і спараджаеце хваляванні ў народзе. Не, дзейнічалі цішком, па-бандыцку. Затрымалі з нагоды праверкі дакументаў. Потым склалі пратаколы аб удзеле ў несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах, назваўшы журналістаў каардынатарамі пратэсту. Затым адправілі справы на дапрацоўку ў РУУС. Пасля зноў судзілі, і гэта было абсалютна сюррэалістычнае відовішча з ліпавымі абвінавачваннямі і засакрэчанымі данымі і аблічвамі «сведак». Адзін з адвакатаў, Андрэй Мачалаў, назваў гэтыя судовыя працэсы «здзекам з правасуддзя».

5 верасня затрымалі журналістку «Зялёнага партала» Насту Захарэвіч, якая асвятляла жаночы марш у Мінску. 7 верасня Цэнтральны суд прызнаў яе ўдзельніцай несанкцыянаванага масавага мерапрыемства і прысудзіў да 7 сутак арышту.

6 верасня на Маршы адзінства затрыманы карэспандэнт «Радыё Рацыя» Арцём Сізінцаў, яго змясцілі ў жодзінскі ізалятар на двое сутак і выпусцілі да суда, які адбудзецца 16 верасня.

7 верасня Мінінфарм вынес другое папярэджанне парталу tut.by. Паводле Закона аб СМІ, пры вынясенні двух і больш пісьмовых папярэджанняў на працягу года доступ да сеткавага выдання можа быць абмежаваны.

А 8 верасня сілавікі ўваліліся зператрусам у кватэру рэдактаркі таго ж tut.by Галіны Уласік. Яе дачку Валерыю Уласік, якая працуе ў сферы PR, затрымалі, супраць яе завялі адміністрацыйную справу за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, а таксама крымінальную — нібыта за арганізацыю масавых беспарадкаў.

Напэўна, усё гэта павінна было выглядаць застрашліва, а атрымліваецца недарэчна, бо любыя спробы схаваць праўду, нападаючы на незалежныя СМІ, робяць яе яшчэ больш відавочнай. Служкі сістэмы думаюць, што затрыманнямі, штрафамі, арыштамі могуць кагосьці запалохаць. Яны ўпэўненыя, што, пазбавіўшы акрэдытацыі і кінуўшы ў ізалятар журналістаў, адаб’юць у іх ахвоту гаварыць, пісаць і паказваць праўду. Бо, верагодна, так адбылося б з імі самімі. Але тых, для каго найвышэйшай чалавечай каштоўнасцю з’яўляецца не наседжанае месца, а свабода, гэтым не запужаеш.

Таму што сапраўдная ўлада — у вольнага слова. А свабоду не заб’еш…

**Фота Дзмітрыя Дзмітрыева**









Фота www.tut.by










# Месяц пратэстаў у Акадэміі навук: погляд знутры

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**Калі актыўнасць па нядзелях толькі нарастае, то ў будні агульнагарадскія акцыі і пратэстная дзейнасць на асобных прадпрыемствах быццам бы згортваюцца. Ці так гэта на самай справе? Паглядзім на прыкладзе Акадэміі навук.**




Першыя дакладныя звесткі аб пратэстах паходзяць з Інстытута фізікі. 12 жніўня супрацоўнікі выйшлі ў фае з плакатамі «Спыніце гвалт!» і з надпісамі ў падтрымку нацыянальнай забастоўкі. Акцыя доўжылася з 8.30 да 10 гадзін ранку і выклікала дужа нервовую рэакцыю адміністрацыі. Потым быў складзены зварот навуковай супольнасці супраць гвалту і за вызваленне палітзняволеных. Яго падпісалі 2727 чалавек, з іх каля тысячы — супрацоўнікі Акадэміі навук, астатнія — з іншых даследчых і навучальных установ. У Акадэміі прыкладна 16 тысяч работнікаў, палова з якіх — навукоўцы. То-бок зварот адлюстроўвае пазіцыю 12% даследчыкаў з Акадэміі навук.

З 13 жніўня штодня ў абед супрацоўнікі Акадэміі навук выходзілі на ланцугі салідарнасці да прэзідыума ўстановы. Гэтыя акцыі знервавалі адміністрацыю яшчэ больш. Пачаліся «прафілактычныя гутаркі» з асобнымі работнікамі, пагрозы звальненнямі. Цяпер дакладна вядома пра двух чалавек, звольненых з Акадэміі навук за выказванне грамадзянскай пазіцыі.

27 жніўня ля прэзідыума людзі ў цывільным з аўтобуса без нумароў спрабавалі затрымаць удзельнікаў ланцуга салідарнасці. Тады пратэстоўцы вырашылі памяняць фармат акцый, і 28 жніўня зладзілі «дзень лазні»: шэсце па праспекце Незалежнасці з ручнікамі, венікамі і ў лямцавых шапачках. Удзельнікі неслі плакаты «Не адмыешся!», «Чыстая навука», «Ідзіце ў лазню!», «Мы на чыстым баку», спрабуючы паказаць, што ўлады забрудзілі сябе гвалтам і рэпрэсіямі.

Чамусьці крэатыў раз'юшыў адміністрацыю яшчэ больш. Стала вядома, што ў Інстытуце генетыкі супрацоўнікаў прымушаюць пісаць заявы на звальненне па ўласным жаданні. Тады вырашылі зладзіць акцыю салідарнасці ля гэтай установы, і 31 жніўня прыйшлі з плакатамі «Рэпрэсіі ў нас у генах?», «Рукі прэч ад генетыкаў!», «Мы будзем прыходзіць штодня, пакуль рэпрэсіі не спыняцца». Неўзабаве пасля акцыі стала вядома, што заяву супрацоўніцы Інстытута генетыкі не падпісалі, яна застаецца на працы. Праўда, праз пару дзён усё ж звольнілася іншая работніца той жа ўстановы, якая рэгулярна ўдзельнічала ў ланцугах салідарнасці: проста не змагла працаваць у цяжкой атмасферы.

У акадэмічных вулічных акцыях удзельнічала ўсё менш людзей, і стала зразумела, што трэба неяк мяняць фармат. Сваю задачу як супольнасці навукоўцы бачаць у выпрацоўцы агульнай пазіцыі па актуальных пытаннях у краіне, і каб кіраўніцтва Акадэміі выступіла з гэтай пазіцыяй. Гэта магло б стаць арыенцірам для ўсяго грамадства, сімвалічным крокам: Акадэмія навук прааналізавала сітуацыю і заклікае да дзеянняў. Да таго ж, прэцэдэнтам стала б тое, што дзяржаўная арганізацыя выказала сваё меркаванне: мы бачым мала такіх выпадкаў.

Кожную нядзелю калона ад Акадэміі навук удзельнічала ў агульнанацыянальных маршах. Аналітычная група канала «Наша навуковае меркаванне» прыйшла да высноў, што ў гарадскіх акцыях гатовы браць удзел больш людзей, чым у лакальных акадэмічных. Магчыма, гэта звязана з тым, што там лягчэй захаваць ананімнасць, меншая верагоднасць рэпрэсій.

Аналітычная група таксама ацаніла стаўленне навукоўцаў да ідэі забастоўкі. Меркаванні падзяліліся прыкладна напалову. Гэта аналітыкі тлумачаць наступным чынам:

- навукоўцам у Беларусі вельмі складана знайсці працу па-за дзяржаўнымі арганізацыямі;
- шмат супрацоўнікаў прывязана да службовага жытла: інтэрнату ці комплексу «Магістр»;
- забастоўка навукоўцаў не мае эканамічнай сілы, бо навука не прыносіць дзяржаве заўважнага прыбытку. Штаты навуковых установ у апошнія гады скарачаюць, і дзяржава можа сабе дазволіць скараціць тысячы людзей у адзін момант.

Акадэмічную акцыю «Дзень лазні» прыходзіла падтрымаць Таццяна Вадалажская, кандыдат сацыялагічных навук і кіраўнік праекта «Лятучы ўніверсітэт». Мы папрасілі яе ацаніць эфектыўнасць мірных пратэстаў у Беларусі ўвогуле і ў Акадэміі навук у прыватнасці.

Даследчыца лічыць: «Пратэсты, што ідуць цяпер, беспрэцэдэнтныя па ўсім: па масавасці, па працягласці, па геаграфічным ахопе. І яшчэ, што важна, па ўключанасці самых розных сацыяльных, прафесійных і ўзроставых груп. Іх эфектыўнасць вельмі высокая. Што можа пратэст? Зрабіць бачнай пазіцыю грамадзян і паказаць сілу ўпэўненасці ў гэтай пазіцыі. Нашы пратэсты ўсё гэта робяць. Яны нясуць абсалютна зразумелы і агульны месадж (непрызнанне выбараў, патрабаванне аб вызваленні вязняў і прыцягненні да адказнасці за гвалт). Людзі паказалі, што яны нязменна прыхільныя гэтай пазіцыі і гатовыя далей яе адстойваць. Але сам грамадскі пратэст — гэта толькі частка агульнага грамадска-палітычнага працэсу. І менавіта палітычная частка пакуль «адстае», то-бок выхад супрацьстаяння ад дэманстрацыі пазіцыі да перамоваў па выхадзе з крызісу. Пратэст ёсць умовай такога пераходу і развязання крызісу, і пакуль ён добра выконвае сваю функцыю. Асабліва калі ўлічыць пашырэнне і змену фарматаў дзеяння пратэстоўцаў, высокі ўзровень салідарнасці і падтрымкі. Калі казаць, чаго зараз не хапае, то падвышэння легітымнасці Каардынацыйнай рады, якая можа выступаць ад імя грамадзян на палітычным узроўні.

Навукоўцы, якія актыўна ўключыліся ў пратэст, — гэта вельмі добры паказчык інклюзіўнасці грамадскага дзеяння. Мэты і ідэі пратэсту адны на ўсіх грамадзян: чыгуначнікаў, студэнтаў, медыкаў, спартоўцаў, рабочых, бізнесоўцаў і навукоўцаў. То-бок няма падзелу ні па маёмасных прыкметах, ні па ладзе жыцця. Але пры гэтым навукоўцы ў гэтай сітуацыі маюць і сваё асаблівае месца. Не сакрэт, што ад самага пачатку цяперашняга рэжыму менавіта сектар навукі і адукацыі вельмі моцна «стэрылізаваўся»: звальнялі людзей з выразнай грамадскай пазіцыяй, з крытычным мысленнем. А потым і самі інстытуты мыслення падпарадкавалі патрэбам дзяржавы, а не прынцыпам нармальнага развіцця навукі. Была скасаваная выбарнасць рэктараў і кіраўнікоў акадэміі, скасаваная аўтаномія думкі ад ідэалогіі. І сёння пратэсты навукоўцаў паказваюць, што нягледзячы на тое, што адбывалася больш за 20 гадоў у сферы, там засталося жывое зерне. Працэсы, якія цяпер ідуць у Акадэміі, звязаны з вяртаннем аўтаноміі і ўсталяваннем стасункаў унутры супольнасці, яны даюць дарогу мысленню, а не падпарадкаванню. Таму гэтыя пратэсты важныя не толькі для актуальнага моманту, але і для будучыні. Бо без нармальнай інтэлектуальнай сферы грамадства не можа нармальна развівацца».

**Фота Алены Ляшкевіч**
**Інфаграфіка канала «Наша навуковае меркаванне»**






# Як патлумачыць дзецям тое, што адбываецца ў краіне?

**«Радыё Свабода» запыталіся ў актыўных бацькоў, як іх дзеці прызвычайваюцца да новай рэальнасці. А таксама даведаліся ў клінічнага псіхолага і экзістэнцыйнага тэрапеўта Ганны Бобрыкавай, як правільна размаўляць з дзецьмі пра тое, што адбываецца.**



Фота НЧ

### «Добрыя людзі хочуць, каб краінай кіраваў нехта іншы — добры»

З мастачкай Воляй Кузьміч і яе мужам Юрам Сідуном выходзіць на акцыі чатырохгадовы сын Леў. Яны ставяцца да дзіцяці як да самастойнай асобы, і таму ўсе важныя рэчы, планы і заняткі абмяркоўваюць, супольна прымаюць рашэнне. Бацькі перакананыя, што дзеці ў кожным разе адчуваюць усё і ўхопліваюць настрой дарослых. Таму стараюцца сыну ўсё тлумачыць з разуменнем, што іх рэакцыя, паводзіны і словы паўплываюць на дзіця не толькі тут і цяпер, а і будуць падмуркам для ягонага фарміравання.

«Усе гэтыя тыдні мы таксама перажываем разам. На выбарчы ўчастак хадзілі ўсёй сям'ёй. Леў разумее і кажа сваім сябрам, што добрыя людзі збіраюцца на мітынгі і акцыі, каб паказаць, як нас, добрых людзей, шмат. Каб той галоўны злодзей, які падмануў людзей, пабачыў, як шмат добрых смелых людзей у Беларусі. Бо добрыя людзі хочуць, каб краінай кіраваў нехта іншы — добры», — кажа Воля Кузьміч.

«Аднойчы мы сустрэлі людзей, якія вярталіся ў аўтобусы з праўладнага мітынгу. Мы акурат спыніліся на святлафоры, а яны з чырвона-зялёнымі сцягамі праходзілі па ходніку побач. Тады сын запытаўся, чаму яны ідуць з чужым сцягам. Сын праз вакно памахаў ім маленькім бел-чырвона-белым сцяжком. Яны моўчкі хавалі вочы. Толькі адзін мужчына сказаў: "А ў мяне сцяг большы!" — "А ў нас сэрца большае!" — такі быў адказ».

«Нядаўна Леў пабачыў, што ў людзей каля аўтазакаў ёсць зброя. На наступны мітынг сын захацеў узяць з сабой свае драўляныя рыцарскі меч і шчыт, каб абараняць нас. Але мы патлумачылі, што нам не трэба зброя і што нас большасць — важна проста паказаць гэта, праз сцяжкі, стужкі і добрыя ўчынкі. Для сына сцяг — бел-чырвона-белы, пад яго колерамі рыцары раней абаранялі нашу краіну. А чырвона-зялёны — сцяг часовы, не кепскі, але і не сцяг рыцараў і нашых продкаў. Вядома, цяпер, калі на аўтазаках у горадзе вісяць чырвона-зялёныя, то для дзіцяці гэта сцяг злодзея».

«Учора ехалі дадому, спыніліся на святлафоры: мы на машыне, побач тралейбус. Сыну ўсміхнулася дзяўчына з тралейбуса, ён у адказ паказаў ёй пальцамі "перамогу", яму ў адказ трацiна тралейбуса памахала рукой, тады ён дастаў і паказаў ім бел-чырвона-белы сцяжок, у адказ ужо ўвесь тралейбус усміхаўся і вітаў маленькага радаснага хлопчыка».

### «Яна раней пазнала, дзе праўда, а дзе падман»

Дачка спевака Пятра Клюева Вераніка-Ганна нарадзілася ў 2012-м. У свае 8 гадоў яна сама вельмі цікавіцца сітуацыяй у краіне і стараецца яе асэнсаваць. А тата апавядае і тлумачыць.

«Яна ў мяне смелая дзяўчынка. Яна раней пазнала, дзе праўда, а дзе падман, а гэта важны момант у жыцці чалавека. Я браў яе з сабою на акцыі, бо хацеў паказаць, што туды ходзяць дарослыя людзі з дзецьмі, а не толькі там супер-моладзь, хіпстары і г.д. Там людзі, якія маюць дзяцей і працягваюць род краіны, якія плацяць падаткі і з'яўляюцца адказнымі грамадзянамі. Гэта важна, бо важна паказваць прыклад», — кажа Пятро.

У Пятра яшчэ ёсць маленькі сын Адам-Бенедыкт, яму 4 месяцы. З ім у вазочку, разам з дачушкай, ды ўзяўшы сцяг, ён хадзіў на акцыі — і так паказваў прыклад грамадзянскай актыўнасці.

> **«Мы баімся, што скажам лішняе, што, замоўчваючы нейкія рэчы, мы аберагаем дзіцячую псіхіку. Але дзеці ловяць інфармацыю "з паветра", а мы можам толькі паўплываць на тое, як яны будуць яе перапрацоўваць і інтэрпрэтаваць**

«Уражанні дачушкі моцныя былі — колькі файных людзей цукеркамі частуюць на вуліцы. Бо вельмі ў нас такое салідарнае грамадства на пратэстах. Асабліва важна, што ўсе адно аднаму падаюць ваду, усе вельмі ветлівыя. Салідарнасць, адкрытасць духу і людзі вельмі добрыя».

Пятро кажа, што дачка задавала шмат пытанняў у ноч пасля выбараў.

«Калі клаў яе спаць, яна ў мяне пытала: "Што адбываецца на вуліцы?" Бо чуваць былі крыкі, нейкі ляскат... Гэта пужала. Я разумеў, што на вуліцы — бойня, арышты. І я таксама выходзіў, быў, пляскаў у далоні, нічога дрэннага не рабіў, вяртаўся і клаў спаць сваю дачульку, тлумачыў ёй, што адбываецца».

Спявак прызнаецца, што яго сям'я вельмі моцна заклапочаная драматычнымі падзеямі.

«Бо мы за праўду, за любоў, за сапраўдныя еўрапейскія каштоўнасці салідарнасці, вольнасці, калі годны чалавек мае права выказваць свае думкі і быць сабою. Наша сям'я, вядома, перажывае вялікі стрэс ад таго, што адбываецца, але я ўпэўнены, што ўсё будзе добра. І праўда за намі, таму мы пераможам».

### «Сэнс размоваў — дапамагчы дзіцяці»

Дзеці вельмі чуйныя і да інфармацыйнага поля, і да вашага настрою, і да эмацыйнага стану, кажа псіхолаг Ганна Бобрыкава. Калі вы ніяк не размаўляеце з дзіцём пра падзеі ў краіне, яно рызыкуе застацца ў разгубленасці і трывозе.

«Перадусім трэба памятаць, што сэнс такіх размоваў — дапамагчы дзіцяці зразумець сітуацыю і здабыць падмурак, а не адпрацаваць уласныя перажыванні. Інфармацыю варта падаваць порцыямі, уважліва назіраючы эмацыйную рэакцыю на яе. Варта пачаць з тых момантаў, якія, на ваш погляд, дзіця дакладна заўважае, на якіх факусуецца. Адно дзіця хутчэй зверне ўвагу на дзіўныя калоны машынак на вуліцы, другое — на натоўпы людзей са сцягамі, трэцяе — на мамчын сумны ці ўстрывожаны твар».

І аб'ём інфармацыі, і яе падача залежаць і ад узросту дзіцяці, і ад яго асаблівасцяў, і ад таго, наколькі яно ўключана ў падзеі, заўважае псіхолаг. Калі яно выходзіць з вамі на нядзельныя маршы, яму спатрэбіцца больш тлумачэнняў і, магчыма, іншага кшталту, чым калі яно бачыць пераважна вашу рэакцыю на навіны.

«Што казаць? Праўду. Тое, як вы самі бачыце сітуацыю. А форма, у якой праўда будзе пададзеная, залежыць, вядома, ад узросту і ўзроўню рэфлексіі. Каб не "нагрузіць" дзіця празмерна, варта абапірацца на яго пытанні і рэакцыі. Калі яно задае пытанні — трэба абавязкова адказваць, тлумачыць. Для малога дастаткова будзе нейкіх простых фразаў накшталт: "Нас паспрабавалі падмануць, і цяпер людзі выходзяць, каб паказаць, што гэта не ўдалося"».

### Што рабіць, калі дзіця пабачыла на вуліцы гвалт?

«Вядома, не хацелася б, каб падобнае адбывалася. І важна даць зразумець дзіцяці, што тое, што яно бачыла, — ненармальна. Менавіта, каб падобнае не паўтаралася ніколі, шмат-шмат людзей цяпер змагаюцца з гэтым, выходзяць на вуліцу, аб'ядноўваюцца, падтрымліваюць адно аднаго. Але гэтыя словы — потым. Перадусім, вядома, важна адвесці дзіця ў бяспечнае месца, супакоіць, даць перажыць любыя эмоцыі, абдымаць, паўтараць, што вы побач і гатовыя яго абараніць».

Калі дзіця пацярпела фізічна або было зусім блізка да сітуацыі жорсткага гвалту, Ганна рэкамендуе звярнуцца да дзіцячага псіхолага, бо кожны выпадак індывідуальны.

«Агульныя парады могуць тычыцца толькі аднаўлення базавага пачуцця бяспекі: даваць дзіцяці гэтулькі тактыльнага кантакту, колькі трэба, дазваляць яму спаць з вамі, калі яно просіць, прагаворваць сітуацыю столькі разоў, колькі трэба: што вы рабілі, што здарылася потым, чаму такія рэчы адбываюцца і што з гэтым можна рабіць, што цяпер усё ў парадку. Таксама з дзеткамі можна не толькі размаўляць, але і маляваць, ляпіць — гэта свайго кшталту арт-тэрапія атрыманай траўмы».

### Што казаць, калі затрымалі кагосьці з бацькоў?

«Я думаю, праўду важна казаць заўсёды, бо наша сувязь з дзецьмі трымаецца на даверы, і рызыкаваць ім не варта. "Тата з'ехаў у службовую выправу"? А чаму тады маму не пазнаць? Чаму яна вядзе дзіўныя размовы праз тэлефон? Што такое СІЗА і РАУС? А калі ён вернецца? Што наагул адбываецца? Калі дзіця не мае зразумелага яму адказу на гэтае пытанне, трывога расце. Як растлумачыць дзіцяці, што ў нас саміх не ўкладаецца ў галаве, выклікае адначасова бяссільны гнеў і ліпкі страх? Як адказаць на пытанні, адказы на большасць якіх мы самыя не ведаем? Падабраць патрэбныя словы няпроста, але гаварыць з дзіцём трэба абавязкова».

Знікненне значнага для дзіцяці дарослага — сур'ёзны стрэс, перажыванне якога можна змякчыць надзейнай сувяззю з тым, хто застаўся з дзіцём, тлумачыць псіхолаг.

«Мы часта баімся, што скажам нешта не тое, лішняе, што, замоўчваючы нейкія рэчы, мы аберагаем дзіцячую псіхіку. Але дзеці так ці інакш ловяць інфармацыю, што называецца, "з паветра", а мы можам толькі паўплываць на тое, як яны будуць яе перапрацоўваць і інтэрпрэтаваць — засцерагчы ад яе немагчыма ў прынцыпе. Гаварыць з дзіцём — не значыць апускаць яго ў свет нашай трывогі. Гэта ў першую чаргу — быць у кантакце, не даючы страшным фантазіям запаўняць сабой пустэчу, пазначаную нашым маўчаннем».

Ганна падкрэслівае, што мы не можам аберагчы дзяцей ад перажыванняў і выпрабаванняў, але можам — у тым ліку сваім прыкладам — дапамагчы ім пражыць цяжкія дні, навучыць не адчайвацца.

«Як дарослыя, мы не можам не бачыць таго, што адбываецца, у тым ліку як гуманітарную катастрофу, — кажа псіхолаг. — Як бацькі студэнтаў, школьнікаў мы бачым, як пытанні маралі выходзяць на пярэдні план, выціскаючы звычайныя клопаты пачатку навучальнага года. Але гэта — цёмны бок падзеяў. А ёсць і светлы — у адчуванні адзінства, у велізарнай колькасці новаўтвораных гарызантальных сувязяў. На гэты светлы бок і варта запрашаць дзяцей».

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Чаму дзяржава для народа супрацьстаіць народу

**Грамадзяне могуць расслабіцца: абяцанне падвоіць заработную плату так і застанецца абяцаннем**

Вялікае бачыцца на адлегласці. Простым смяротным не дадзена адэкватна ацаніць тое, што адбываецца, калі яны знаходзяцца ўнутры падзеяў. Беларускае грамадства з палітычнай спячкі, у якой яно знаходзілася з канца 1990-х гадоў, перайшло ва ўзбуджаны стан. Неразуменне прыроды гэтага пераходу, яго абмежаванасці ў часе спрыяе нараджэнню чарговых міфаў. Мабыць, самым яркім у іх шэрагу варта прызнаць міф пра нараджэнне беларускай нацыі.

Але нацыі не нараджаюцца нібы Афрадыта з пены або Афіна з галавы Зеўса. Нацыі фарміруюцца. Аднаразовыя падзеі не варта блытаць з гістарычнымі працэсамі, і не варта спрабаваць тлумачыць падзеі, якія адбываюцца на макраўзроўні, з дапамогай асабістага вопыту, атрыманага «ад жыцця».

Для разумення макрапрацэсаў патрэбныя веды. Але дзе іх узяць, калі акадэмічныя інстытуты ў Беларусі занятыя не пошукам ісціны, а пацвярджэннем правільнасці аднойчы абранага адзіным палітыкам (АП) курсу?!

Каб не быць галаслоўным, працытую цяпер ужо былога дырэктара Інстытута сацыялогіі Ігара Катлярова: «Варта асабліва падкрэсліць, што мадэль "грамадзянская супольнасць супраць дзяржавы" была пакладзена ў аснову тэхналогій так званых "каляровых рэвалюцый". Прыгадаем Варшаву, Прагу, Кіеў, Тбілісі, Бялград, Бішкек, Кішынёў». Катляроў сцвярджае, што ў грузінскай рэвалюцыі ружаў, рэвалюцыі цюльпанаў у Кыргызстане, ва ўкраінскіх рэвалюцыях — аранжавай і годнасці, у чарадзе арабскіх рэвалюцый «адчувалася дасведчаная і моцная рука лялькавода, праглядаўся адзіны сцэнар, выкарыстоўваліся адны і тыя ж добра адпрацаваныя тэхналогіі. Усё было зроблена па адных і тых жа лякалах».

Вось такое адкрыццё доктара сацыялагічных навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі было апублікавана ў артыкуле «Дзяржава vs грамадзянская супольнасць: традыцыя ці рэальнасць (сацыялагічны дыскурс)» у часопісе «Сацыялагічны альманах» (№7, 2016).

Я лічыў, што такое актыўнае выкарыстанне дзяржаўнымі прапагандыстамі слова «лялькаводы» для апісання бягучых падзей, — гэта асабістае выназходніцтва АП. Недаацаніў я патэнцыял беларускай навукі і яе ўнёсак у фарміраванне карціны свету палітычнай эліты краіны. У сувязі са зробленым ніжэй адкрыццём прапаную перайменаваць Інстытут сацыялогіі ў Інстытут канспіралогіі.




## Бяльмо на воку

Ад перамены складнікаў месцамі агульная сума не мяняецца. Але ад перастаноўкі словаў у сказе зяміцца можа многае. Звярніце ўвагу, у цытаце Катлярова гаворка ідзе пра мадэль «грамадзянская супольнасць супраць дзяржавы», але ў загалоўку артыкула «грамадзянская супольнасць» і «дзяржава» памяняліся месцамі. Дык хто супраць каго ў Беларусі?

Калі на Акрэсціна катуюць пратэстоўцаў, што выказаліся супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў, — гэта дзяржава выступае супраць (vs) грамадзянскай супольнасці або грамадзянская супольнасць імкнецца задушыць дзяржаву? Цікава, што з гэтай нагоды думаюць статусныя спецыялісты?

Канструяванне вобразаў знешніх ворагаў ажыццяўлялася ў Беларусі на працягу апошніх 26 гадоў. Мэтай гэтай карпатлівай працы з'яўляецца запаўненне ідэалагічнага вакууму, які ўзнік пасля краху камуністычнага праекта.

Прапанаваць іншую альтэрнатыву, акрамя ліберальна-дэмакратычнай, ні мысляры мясцовага разліву, ні сацыяльна блізкія ім ідэолагі з краін трэцяга свету аказаліся не ў стане. І справа тут не ў адсутнасці фантазіі яйкагаловых. Усё адначасова і складаней, і прасцей, бо іншага апраўдання аўтарытарнай уладзе на чале з моцным лідарам у нашы дні не існуе.

Што разумець пад паняццем «грамадзянская супольнасць» (ГС) — справа густу. Тым не менш па-за межамі дзяржавы для народа існуе кансенсус наконт яе базавых прыкмет. Для іх пералічэння звярнуся па дапамогу да англа-нямецкага сацыёлага Ральфа Дарэндорфа:

- разнастайнасць складнікаў;
- аўтаномія арганізацый, пад якой перш за ўсё разумеецца незалежнасць ад уладнага цэнтра;
- грамадзянская свядомасць (грамадзянін не пытаецца, што дзяржава здольная зрабіць для яго, а сам робіць нешта для іншых і дзяржавы).

**Цалкам відавочна, што для ўсіх дыктатарскіх намаганняў грамадзянская супольнасць — як бяльмо ў воку. Аўтарытарныя кіраўнікі дазваляюць ёй існаваць хіба што ў выглядзе прыватных нішаў унутранай эміграцыі**

І ў завяршэнне — цытата з класіка: «Цалкам відавочна, што для ўсіх дыктатарскіх намаганняў ГС — як бяльмо ў воку. Аўтарытарныя кіраўнікі дазваляюць ёй існаваць хіба што ў выглядзе прыватных нішаў унутранай эміграцыі. Гэта, аднак, супярэчыць публічнаму па сваёй сутнасці характару ГС. У таталітарных рэжымаў нішто не выклікае такой нянавісці, як ГС, якая супрацьстаіць іх волі».

## Універсальная праблема

Грамадзянская супольнасць — не праціўнік сучаснай дзяржавы, а процівага ёй. Што тычыцца дзяржавы несучаснай (беларускі выпадак), то для яе грамадзянін, г. зн. чалавек, які ўсведамляе свае правы і гатовы іх абараняць, уяўляе сур'ёзную пагрозу. Што тады казаць пра аб'яднанні грамадзян!

І ў гэтым сэнсе Катляроў мае рацыю: у аўтарытарна-таталітарных дзяржавах ГС заўсёды будзе супраць дзяржавы, а дзяржава — супраць ГС.

Іншая справа — арганізацыі, створаныя па ініцыятыве зверху, якія шчодра фінансуюцца з бюджэту. Пералічу іх з дапамогай АП: «У Беларусі асновай ГС з'яўляюцца Саветы дэпутатаў, прафсаюзы, грамадскія ветэранская, жаночая і моладзевая арганізацыі, а таксама "Белая Русь". Вось яна, аснова, і там прадстаўленыя ўсе».

Яны, канешне, там прадстаўленыя-прэзентаваныя, вось толькі акрамя жадання атрымліваць разнастайныя льготы, ніякіх іншых жаданняў чальцы падобных структур не дэманструюць. Каб гэта не выглядала толькі словамі, зноў звярнуся да цытавання: «Чаму ў вырашэнні такой складанай задачы (гаворка пра дыялог паміж мінчанамі і Мінскім гарадскім актывам. — **Рэд.**) не праяўляюць актыўнасць грамадскія арганізацыі? Іх наогул нідзе не відаць» (з выступу АП на нарадзе з актывам сталіцы 20 снежня 2018 года).

Пытанне наконт асабістай актыўнасці — ключавое, калі гаворка ідзе пра развіццё. Традыцыйны свет з яго дамінаваннем дзяржавы над асобай не ведаў развіцця. Таму да пачатку прамысловай рэвалюцыі (1800 г.) ВУП на душу насельніцтва ў Еўропе быў прыкладна такім жа, як і ў Рымскай імперыі.

«Кожны аднаасобны кіраўнік, — тлумачыць палітолаг Ігар Якавенка, — нават надзелены чароўным статусам, мог паспяхова кіраваць толькі пры наяўнасці кампетэнтнай кіруючай эліты. Яму патрэбныя былі не проста военачальнікі, а такія, якія былі б лепшымі ці ва ўсякім разе не горшымі, чым у іншых краінах. Тое ж самае тычыцца цывільных чыноўнікаў — унутраная і знешняя жыццяздольнасць дзяржавы заўсёды і ўсюды залежыць ад іх здольнасцяў, кваліфікацыі, умення кіраваць. Але такая мабілізацыя асобасных рэсурсаў немагчымая без моцнадзейных стымулаў у выглядзе статусных прывілеяў, г. зн. без апеляцыі да прыватных інтарэсаў».

Але эфектыўнае дзяржаўнае кіраванне — толькі адна з умоваў развіцця. Праблема спалучэння агульнай (дзяржаўнай) цікавасці з інтарэсамі прыватнымі і групавымі з'яўляецца ўніверсальнай.

Не толькі распрацоўваць кампутарныя праграмы, але і аператыўна дастаўляць піцу без уліку розных інтарэсаў немагчыма.

## Курс застаецца нязменным

2 верасня ў офісе адной з найбуйнейшых беларускіх IT-кампаніі PandaDoc прайшоў ператрус. Чацвёра супрацоўнікаў кампаніі былі затрыманыя. Падставай для «наезду» стала ініцыятыва сузаснавальніка кампаніі Мікіты Мікада па падтрымцы сілавікоў, якія захацелі б звольніцца з органаў.

Прыводжу фрагмент інтэрв'ю бізнесоўца сайту republic.ru:

***— Учора ў вашым мінскім офісе быў ператрус. Што, на вашу думку, шукалі, і наколькі складана працаваць у такіх умовах?***

— У такіх умовах працаваць немагчыма, таму што інавацыйны бізнес не развіваецца ў атмасферы страху. Прычым нам нічога не сказалі, нічога не прад'явілі — проста здарыўся рэйд. Закрылі нашых супрацоўнікаў, нікога не выпускалі, забралі кампутар і дакументы, і чацвярых людзей вывелі раніцай з хаты. Іх да гэтага часу не выпусцілі, трымаюць у Дэпартаменце па фінансавых расследаваннях і дапытваюць. Мы не ведаем, што здарылася, чаму, за што.

У чарговай кандыдацкай праграме АП эканамічны блок меў загаловак: «Ад захавання — да прымнажэння». У ліку эканамічных паказчыкаў, якія трапілі пад прымнажэнне, аказалася сярэдняя зарплата. За пяцігодку яна павінна вырасці ў два разы. Не забытыя і інвестары, перш за ўсё нацыянальныя. Ім абяцаная максімальная падтрымка.

Але абяцаць — не значыць ажаніцца. У Пасланні–2008 маецца выдатны пасаж: «На канец пяцігодкі нам трэба заработную плату давесці, баюся казаць, але да 700 долараў, нікуды не падзенемся. 500 долараў будзе мала. Трэба 700 — сярэднюю зарплату па краіне. Тады мы зможам **утрымаць стабільнасць** у нашым грамадстве (выдзелена. — **Рэд.**)».

Страхі 2008 года нарадзіліся не на пустым месцы. Ні 500, ні 700 долараў, ні стабільнасці. Інвестары пакуюць валізкі. Але курс застаецца нязменным. Усё лагічна. Калі адзінай задачай палітычнай эліты з'яўляецца ўтрыманне ўлады, то разлічваць на рост сярэдняй зарплаты, ды яшчэ ў доларавым эквіваленце, не даводзіцца.




Фота НЧ

# Разлічваць — толькі на сябе

Сяргей ПУЛЬША

**У той час, як Расія шчыруе дзеля захавання на пасадзе Лукашэнкі, дэмакратычная Еўропа, дый ЗША, паводзяць сябе ў дачыненні да Беларусі вельмі квола.**

Канешне, беларусам выказваюць падтрымку, імі захапляюцца, і ўсё такое. Але складваецца ўражанне, што за словамі не стаіць нічога. Так, правялі некалькі абмеркаванняў у ААН, АБСЕ і структурах ЕС. Так, выказалі чарговую «сур'ёзную занепакоенасць». Аднак нават меркаваныя санкцыі ў дачыненні да беларускіх чыноўнікаў, вінаватых у фальсіфікацыі выбараў, не закранулі персанальна Лукашэнку. Не кажучы ўжо пра тых, хто вінаваты ў маштабным гвалце, які працягваецца на вуліцах нашай краіны.

Той самы вярхоўны прадстаўнік Еўрасаюза па замежных справах Жазэп Барэль, які выказваў захапленне беларускімі пратэстамі, нават заявіў, што, хаця Лукашэнка і не прызнаецца легітымным кіраўніком дзяржавы, але застаецца ім «фактычна», і таму з ім і яго структурамі будуць мець справу.

Чаму Еўропа так незразумела рэагуе на сітуацыю ў Беларусі?

## Еўропа нам не дапаможа

Міжнародны аглядальнік Раман Якаўлеўскі адзначае, што «глыбокія занепакоенасці» Еўропа выказвала заўсёды. «Хіба калі-небудзь было па-іншаму? Іншых формаў абурэння ад так званага калектыўнага Захаду я не ведаю. Увесь час была «заклапочанасць». Высветлілася, што ў санкцыйны спіс, які, дарэчы, яшчэ і не прыняты, не ўвайшоў кіраўнік Беларусі. Спіс яшчэ не зацверджаны. Кажуць, што ніколі такой практыкі не было, каб кіраўнік краіны трапляў у санкцыйны спіс — за выключэннем Беларусі ў 2010 годзе», — адзначыў Якаўлеўскі.

Аднак, як ён некалькі разоў заўважыў, спіс яшчэ не прыняты.

Другая прычына, па яго меркаванні, у тым, што ў заходніх сталіцах лічаць, што ў іх сваіх праблемаў хапае, і ім не да Беларусі. «Глобус у працоўным кабінеце кіраўніка не азначае, што Беларусь — пуп зямлі. Да таго ж, краіна, што не валодае ядзернай зброяй і дзе яшчэ не запушчаная, дзякуй Богу, беларуская АЭС», — лічыць Якаўлеўскі.

Беларусь, канешне ж, выйшла ў сусветныя навіны дзякуючы народу, які выявіў сябе вельмі актыўна і культурна. Аднак гэтага наўрад ці дастаткова для рэакцыі ЕС.

«Нам унушылі, што ЕС — гэта адзінае цэлае, але, на жаль, гэта не так. Узяць хаця б чарговую заяву Барэля пра тое, што Беларусі патрабуецца агульнанацыянальны дыялог. Але пры цяперашніх паводзінах улады (менавіта ўлады) ён сёння не ўяўляецца магчымым. І паводзіны Еўрапейскага саюза моцнага аптымізму не выклікаюць. Ёсць дэкларацыі, што не заўсёды адпавядаюць рэаліям Беларусі. У большай ступені гэта тычыцца Еўрапарламента, але Еўрапарламент не мае той улады, якую мае Еўракамісія. Гэты бюракратычны лес, і мне не зусім зразумела, як Германія і Францыя прадэманстравалі, наколькі можна зразумець, «гіперпрагматызм», кажучы пра тое, што трэба размаўляць з рэальнай уладай. А пра «рэальную ўладу» сёння марыць існуючы рэжым», — адзначае аглядальнік.

## Бюракратычны лес

Не варта, па меркаванні Якаўлеўскага, спадзявацца таксама на ААН і АБСЕ. Хаця б таму, што гэтыя арганізацыі самі знаходзяцца ў крызісе.

«У ААН, напрыклад, слуханні па Беларусі былі нефармальныя, гэта не Генеральная асамблея, гэта ні да чаго не абавязваючыя слуханні. Яны, канешне, важныя для таго, каб у свеце ведалі пра Беларусь, але не больш», — зазначае аглядальнік.

Ініцыятарам гэтых слуханняў быў непастаянны член Савета Бяспекі ААН — Эстонская Рэспубліка. Дарэчы, падкрэслівае Якаўлеўскі, Беларусь дамагалася атрымаць такі ж статус непастаяннага чальца, але, праз палітыку ўладаў, безвынікова.

Што тычыцца АБСЕ, таксама не варта было б мець ілюзій. «Гэтая структура таксама знаходзіцца ў крызісе, і там важнейшы прынцып пры прыняцці рашэнняў — кансэнсус. То-бок, з рашэннем павінны быць згодныя ўсе, але гэта немагчыма. Асабліва ўлічваючы, што і Беларусь, і Расія таксама з'яўляюцца паўнавартаснымі чальцамі АБСЕ», — зазначае адмыслоўца.

«Спадзявацца на гэтыя арганізацыі не тое што не варта — нельга», — мяркуе Якаўлеўскі.

> **«Хоць не вельмі многа, але нас крэдытаваў і Еўрапейскі банк, і Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця, і іншыя міжнародныя фінансавыя інстытуты. Цяпер яны крэдытаваць нас перастануць, так патрэбныя нам валютныя рэсурсы будуць закрытыя»**

Між іншым, ён згадаў развязанне палітычнага крызісу ў Малдове, у выніку чаго алігарх Плахатнюк, які фактычна кіраваў краінай, быў вымушаны яе пакінуць. Але тую сітуацыю ён называе ўнікальнай, бо тады наконт апальнага алігарха дамовіліся Масква, Брусель і Вашынгтон. Што ж тычыцца Беларусі, то такой унікальнасці Якаўлеўскі не чакае: «Масква кажа, што ніякіх знешніх актараў (маецца на ўвазе Захад) ва ўрэгуляванні беларускай сітуацыі быць не павінна».

«Можна пагадзіцца з міністрам замежных спраў Літвы Лінкявічусам, які сказаў, што сваімі сённяшнімі паводзінамі ў дачыненні да беларускага крызісу Еўрасаюз губляе аўтарытэт», — зазначыў Якаўлеўскі.

Такім чынам, ад аб'яднанай Еўропы нам нічога, апроч слоў, чакаць не выпадае. А ад «раз'яднанай»?

## Калі не разам, то паасобку

Краіны Еўрасаюза ў той жа час маюць права і паўнамоцтвы рэагаваць на беларускую сітуацыю, сыходзячы са сваіх нацыянальных інтарэсаў. Гэтую актыўнасць сёння выявілі краіны Балтыі, якія абвясцілі Лукашэнку персонай нон-грата. Блізкая да падобнага рашэння, па меркаванні Якаўлеўскага, Польшча. «А сёння я б не забываў яшчэ і Украіну. Цяпер зусім іншыя адносіны паміж Кіевам і Мінскам. Пасля доўгіх кансультацый у Мінск вярнуўся ўкраінскі пасол. Таму тое, што мы называем дапамогай, варта чакаць і з Поўдня. У чым гэтая дапамога будзе — час пакажа», — адзначае міжнародны аглядальнік.

Якаўлеўскі не выключае таксама, што нейкія захады ў дачыненні да Лукашэнкі і яго рэжыму прыме Германія, — з-за публікацыі так званай «праслушкі» пра атручванне Навальнага. «Гэтая рэч можа абудзіць у Берліна цікаўнасць да Беларусі, хаця ў Берліна сваіх клопатаў багата», — мяркуе ён.

## ЗША — было б жаданне

Якаўлеўскі лічыць, што варта чакаць нейкіх эканамічных санкцый і ціску. Ён нагадвае, што ў ЗША ўжо не першы год дзейнічае «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі» — гэта спецыяльны закон, у якім закладзеныя магчымасці ўключэння санкцый. Яго кожны год працягвае прэзідэнт ЗША, і, як зазначае Якаўлеўскі, часткі гэтага закона могуць ужывацца ў залежнасці ад сітуацыі. «Я думаю, што сённяшнія паводзіны ўлады не дазволяць забыцца на актывізацыю гэтага закона», — лічыць ён.

Адной з самых сур'ёзных частак «Акта аб дэмакратыі ў Беларусі» Якаўлеўскі называе магчымасць замарозкі замежных рахункаў замежных установаў Беларусі. «Умоўна кажучы: Беларусь і ЗША збіраліся абмяняцца пасламі. Пры ўжыванні гэтага пункта закона ў беларускай амбасады проста не будзе фінансавых рэсурсаў для ажыццяўлення сваёй дзейнасці».

Таксама Якаўлеўскі нагадвае, што гэты закон быў прыняты адзінагалосна абедзвюма палатамі амерыканскага Кангрэса. Гэты закон не трэба спецыяльна ініцыяваць, уводзіць у дзеянне, ён ляжыць і чакае свайго часу. І ў любы момант ён можа запрацаваць.

## На парозе эканамічнага крызісу?

З іншага боку, тое, чаго «калектыўны Захад» не можа зрабіць у дыпламатычнай плыні, цалкам можа ажыццявіцца ў плыні фінансавай. Праўда, пакуль пра нейкія эканамічныя санкцыі з боку ЕС размова не ідзе, аднак яны могуць ажыццявіцца, так бы мовіць, «натуральным чынам». Прынамсі, ЕС ужо казаў пра згортванне «тэхнічнай дапамогі» рэжыму.

Эканаміст Барыс Жаліба кажа, што раней «тыя віды, якія мы мелі на крэдыты Міжнароднага валютнага фонду пры выкананні нейкіх умоў, напрыклад, перабудовы карпаратыўнага кіравання, прыватызацыі, захоўваліся». «Хоць не вельмі многа, але нас крэдытаваў і Еўрапейскі банк, і Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця, і розныя міжнародныя фінансавыя інстытуты. Цяпер яны, з вялікай доляй верагоднасці, крэдытаваць нас перастануць, так патрэбныя нам валютныя рэсурсы будуць недасяжныя», — кажа адмыслоўца.

У Беларусі застаюцца два варыянты атрымання грошай: Расія, якая ўжо заявіла пра крэдыт у мільярд долараў, і ў нейкай ступені Кітай, які адразу прызнаў вынікі беларускіх выбараў. Але праблема ў тым, што Расія, у асноўным, рэфінансуе нашыя ранейшыя пазыкі, тобок грошы пераходзяць з аднаго рахунку ў Маскве на іншы маскоўскі рахунак. Пазіцыя ж Кітая таксама вядомая: ён выдае, збольшага, так званыя «звязаныя» крэдыты на аплату паставак кітайскага абсталявання і працы кітайскіх рабочых. І атрымліваецца прыкладна, як з Масквой — грошы ўсё роўна сыходзяць у Кітай (пры тым, што Беларусь неяк прымудрылася вычапіць паўмільярда долараў у эквіваленце «гатоўкай» ад Кітайскага банку развіцця).

Паводле апошніх даных, за нестабільны жнівень Нацбанк страціў 1,4 мільярда долараў, прычым, толькі 380 мільёнаў пайшлі на сплату знешняга доўгу. Астатнія грошы — гэта інтэрвенцыі на рынак з мэтай стрымаць валютны курс. «Таму грашыма нам можа дапамагчы толькі Расія, але яна, як заўсёды, нешта за гэта запатрабуе», — кажа Жаліба.

Цяжка нам будзе і з інвестыцыямі, якія, па словах эканаміста, і без таго былі слабым месцам эканомікі. «У нас і так да 80% — гэта так званыя "рэінвестыцыі", гэта не прыходзяць новыя фірмы і кампаніі з грашыма, а ўжо існуючыя ўкладваюць грошы ў развіццё. Велізарны ўдар па эканоміцы нанясуць IT-фірмы, якія цяпер перавозяць сваіх супрацоўнікаў у іншыя краіны. Парк высокіх тэхналогій па заробленых грошах стаў выходзіць на трэцяе месца — пасля нафтапрадуктаў і калійных угнаенняў. Адток IT-сектара краіны ўжо ідзе, і мы будзем губляць і ў гэтай пазіцыі», — зазначае Жаліба.

У такіх варунках эканаміст прагназуе «вельмі цяжкі год». «Перспектывы не вясёлкавыя: як для ўлады, так і для насельніцтва», — кажа адмыслоўца.

Канешне, эканоміка, па словах Жалібы, — сістэма жывучая. Яна працавала і ў вайну, і пад акупацыяй. Але пытанне ў тым, якая гэта будзе эканоміка. І вырашэнне гэтага крызісу, па яго словах, залежыць «агульнавядома ад каго».

І, канешне ж, ад беларускага народу: наколькі ў яго хопіць запалу змагацца за свабоду ў вельмі неспрыяльных умовах.

# Давайце і камбайнеру морду наб’ём

## Міністэрства спорту нязграбна рэагуе на нязломную пазіцыю беларускіх фрыстайлістаў

Сяргей КАЙКО

**Знакаміты адкрыты ліст спартоўцаў, якія патрабуюць новых выбараў і рашуча асуджаюць зверствы сілавікоў, працягвае адчувальна нерваваць беларускую вертыкаль. Колькасць прозвішчаў пад тэкстам ужо пераваліла за 500 і па-ранейшаму расце. У спісе — алімпійскія чэмпіёны і прызёры, чэмпіёны свету і Еўропы, знакамітасці, якіх ведае кожны беларускі заўзятар. Самыя актыўныя з іх рэгулярна ўдзельнічаюць у нядзельных маршах пратэсту і нават стварылі «Свабоднае аб’яднанне спартоўцаў Беларусі». Карацей, тэма віруе і нарошчвае тэмп.**







Злева направа: Вадзім Крывашэеў, Мікалай Казека, Дзмітрый Дашчынскі

Фота www.pressball.by

Відавочна, улада мусіць нешта рабіць з нечаканай непаслухмянасцю тых, хто, здавалася б, заўсёды заставаўся ў фарватары дзяржаўнай палітыкі. Але што канкрэтна? Выглядае, што нічога новага. Крыху павагаўшыся, вычарпаўшы сродкі ўплыву на экстраных сходах і нарадах, чыноўнікі заняліся тым, што ўмеюць лепш за ўсё. У беларускім спорце пачаліся звальненні.

Пакінуў дзяржслужбу славуты дзесяціборац Андрэй Краўчанка. Няма больш у брэсцкім «Дынама» трэнера і былога варатара футбольнай зборнай Васіля Хамутоўскага. Ёсць і іншыя выпадкі.

Але ўсё гэта — побыт беларускага жыцця. Прынцыповы? Разумнейшы за іншых? Хочаш перамен? На табе перамены — забірай працоўную кніжку і валі на вуліцу. Кружэлка заезджаная, і чарговы раз уключаць стары патэфон было б, можа, і не варта. Калі б не адзін асобны прыклад, які рве шаблоны і вылучаецца нават на агульным змрочным фоне.

Справа пра фрыстайл — як жа без яго, самага «апазіцыйнага» віду спорту сучаснай Беларусі. Нязгодных з палітыкай Аляксандра Лукашэнкі там шмат. Адкрыты ліст падпісалі чэмпіёнкі Аляксандра Раманоўская і Ганна Гуськова, іх легендарны трэнер Мікалай Казека. Калег галосна падтрымаў Дзмітрый Дашчынскі — у мінулым неаднаразовы алімпійскі прызёр, а цяпер таксама трэнер зборнай. Што ні прозвішча — глыба, чапаць такіх — гэта як страляць сабе ў нагу.

Дык што ж тады зрабіла сістэма? Як адрэагавала? Амаль як у анекдоце. Памятаеце? Давайце камбайнеру морду наб’ём — камбайнераў у нас двое…

«Камбайнерам» — ці наўпрост стрэлачнікам — у беларускім фрыстайле прызначылі дырэктара адпаведнага РЦАП (Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі) Вадзіма Крывашэева. На гэтым тыдні яго заўчасна звольнілі па артыкуле. Прычына феерычная — «за дрэнную ідэалагічную працу ў калектыве». Міхаіл Жванецкі такі палёт чыноўніцкай думкі абавязкова б ацаніў.

Шкада, што ніхто сёння не можа задаць пытанне кіраўнікам Мінспорту, і асабіста міністру Сяргею Кавальчуку: а з якога ляду менаджары РЦАП павінны клапаціцца пра ўнутраны свет спартсменаў? Адсочваць іх асабістыя перакананні, кантраляваць светапогляд і грамадзянскую пазіцыю? І ўсё гэта — пад страхам звальнення. Якое немінуча адбудзецца, якія б вынікі атлеты не дэманстравалі на снежных схілах, бегавых дарожках ці на баскетбольнай пляцоўцы.

У фрыстайле з паказчыкамі ўсё цудоўна. Што ні Алімпіяда — беларусы ў трэндзе і з медалямі. Чэмпіянаты свету, этапы Кубка свету — тое ж самае. Самы паспяховы від спорту ў краіне — гэта пра яго. А не, да прыкладу, пра футбалістаў і хакеістаў, якія корпаюцца па турнірных завулках, але пры гэтым дэманструюць маўклівую лаяльнасць да дзяржаўнага цемрашальства.

Вось цікава: як звольнены Крывашэеў мусіў будаваць ідэалагічную працу з фрыстайлістамі? Настойваць, а затым правяраць, каб яны кожны вечар глядзелі «Панараму» па тэлевізары? Праводзіць урокі палітінфармацыі ў перапынках паміж трэніроўкамі? Запрашаць у каманду Мукавозчыка з «СБ. Беларусь сегодня» дзеля бескампраміснай лекцыі на тэму «Як Варшава і Берлін праплачваюць пячэнькамі беларускі пратэст»? Вазіць хлопцаў і дзяўчат у госці да амапаўцаў, каб тыя распавялі пра суполкі наркаманаў і прастытутак у шэрагах дэманстрантаў? Як?..

І потым: як увогуле можна паўплываць на светаўспрыманне Казекі? Мікалаю Іванавічу — 70 гадоў, ён бачыў на сваім доўгім шляху столькі, колькі і не снілася тыповаму байцу ідэалагічнага фронту. Сын вядомага беларускага літаратуразнаўцы, ён ведае жыццё з розных бакоў. Ён ведае свет, бо бачыў яго на ўласныя вочы, паездзіўшы за паўстагоддзя па краінах-кантынентах.

І нават пры гэтым Казека да пэўнага часу быў збольшага задаволены беларускай стабільнасцю. Нават галасаваў за дзеючага кіраўніка краіны, у чым не саромеецца прызнацца. Аднак усё ў яго галаве перавярнулася ў гарачыя паслявыбарчыя дні. Калі ён убачыў, які жудасны гвалт апанаваў краіну. З якім садызмам тыя, хто павінен бараніць, лупяць сваіх суайчыннікаў — на вуліцах, а потым у вязніцах. Як іх потым узнагароджваюць — недзе, мабыць, у той жа зале, дзе сам Казека калісьці атрымліваў Ордэн Айчыны.

Дзе ўвогуле знайсці такога геніяльнага прапагандыста, які б здолеў апраўдаць усе гэтыя жахі? І што ён мусіць сказаць таму ж Казеку, у якога ад рук сілавікоў пацярпелі сваякі? Ці той жа Аляксандры Раманоўскай, якая пра выбары ўсё зразумела — і ў голас пра гэта сказала — яшчэ ў чэрвені? Што тут можна патлумачыць з пункту гледжання афіцыйнага агітпропу? Што Бабарыка падкінуў Ціханоўскаму долары за канапу? Што ў руках амапаўцаў, якія збівалі сваіх землякоў, былі не дручкі, а гладыёлусы? Што гумавыя кулі, якія ляцелі ў дэманстрантаў, насамрэч былі пялёсткамі ружаў?

Цяжкая гэта задача — пераканаць нармальнага чалавека, што перад ім не Бармалей, а маці Тэрэза. Крывашэеў не даў рады яе вырашыць і сышоў з пасады — у душы, напэўна, выдыхнуўшы з палёгкай. Цяпер на яго месца прыйдзе нехта больш дасведчаны, імаверна, з навыкамі гіпнозу і іншай эзатэрыкі. Можа, у яго атрымаецца — і Дзмітрый Дашчынскі з Ганнай Гуськовай нарэшце праедуцца ў аўтамабільным маршы за стабільнасць поруч з міністрам Кавальчуком і «хакеістам» Баскавым.

І дарэчы. Добра, калі б зерне антыдзяржаўнага дэструктыву прарасло толькі ў фрыстайле. Ну, бывае. У кожнай бочцы мёду свая лыжка дзёгцю. Але не: шкоданоснага пустазелля сёння ў беларускім спорце хапае. У тым жа баскетболе, калі ўзяць, адшчапенцы цераз аднаго. Тут і зоркі мінулага — як Аляксандр Куль і Таццяна Троіна. І знакамітая цэнтравая Алена Леўчанка. І стрыжань сённяшняй жаночай зборнай — Кацярына Сныціна і Таццяна Ліхтаровіч. І таленавітая моладзь — Ганна Брыч і Арына Масько. І, страшна сказаць, цэлы намеснік старшыні федэрацыі — вядомы ў мінулым форвард Ягор Мешчаракоў, які да таго ж наведвае акцыі пратэсту.

Па ўсіх прыкметах, ідэалагічны падмурак беларускага «баскету» таксама прагніў наскрозь. Пільным заступнікам беларускай дзяржаўнасці самы час біць у званы і тэрмінова шукаць у гэтай епархіі свайго ахвярнага камбайнера. Зрэшты, сітуацыя падаецца крыху двухсэнсоўнай. На варце нацыянальных інтарэсаў у нашым баскетболе стаіць не хто-небудзь, а Максім Рыжанкоў — старшыня федэрацыі і, па сумяшчальніцтве, першы намеснік Адміністрацыі прэзідэнта. Як у яго пад рукой пакрысе ўтварылася такая мнагалюдная фронда, цяжка сабе ўявіць.

Але, напэўна, яны там нешта прыдумаюць. І камбайнер неўзабаве з’явіцца.

## Латвія рашуча адмаўляецца праводзіць з Беларуссю чэмпіянат свету па хакеі

**У наступным годзе, у траўні-чэрвені, мае адбыцца чарговы чэмпіянат свету па хакеі.**

Лепшыя зборныя планеты павінны вызначыць мацнейшага ў двух гарадах — Мінску і Рызе. Да 9 жніўня падрыхтоўка да буйнога форуму ішла ў адпаведнасці з планамі, але пасля прэзідэнцкіх выбараў латвійскі бок фактычна дэзавуяваў сумесны праект. Пазіцыя суседняй балтыйскай краіны: фальсіфікацыі пры падліку галасоў і наступны гвалт сілавых структур не сумяшчальныя з каштоўнасцямі Міжнароднай федэрацыі хакея (ІІХФ). Таму ўрад Латвіі заклікае ІІХФ перадаць правы на правядзенне турніру ад Беларусі якой-небудзь іншай краіне.

Пра рэакцыю Цюрыха пакуль нічога не вядома. Акрамя таго, што арганізацыя, якую ўзначальвае Рэнэ Фазель, даволі кансерватыўная і не любіць мяняць уласныя намеры. Аднак рабіць выбар усё ж давядзецца. Бо пазіцыя Рыгі выглядае рашуча: у выпадку, калі сітуацыя ў Беларусі не зменіцца да лепшага, а ІІХФ не прыслухаецца да заклікаў, Латвія можа адазваць свае гарантыі ў якасці краіны-гаспадыні ЧМ–2021.

Літаратурная Беларусь

Выпуск №9 (169)
(Верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Сцягі незалежнасці



Уладзімір ЛЯХОЎСКІ

**Узнікае адчуванне, што ў Беларусі разгараецца вексілалагічная вайна. Небывалая колькасць бел-чырвона-белых сцягоў, якія з'явіліся на вуліцах краіны, кантрастуе з цяперашнімі дзяржаўнымі штандарамі. Некаторыя ўбачылі ў гэтым проціпастаўленне. Пачалося дзяленне на «нашых» і «вашых», пошук сакральнага сэнсу і праверка сцягоў на гістарычную сталасць.**

Усім вядома, што гісторыю піша пераможца, а пераможцаў за апошние стагоддзе ў нашай краіне было нямала, і кожны хацеў расставіць неабходныя, на яго погляд, акцэнты. Пра іх мы і распыталі гісторыка, архівіста, кандыдата гістарычных навук Уладзіміра Ляхоўскага.

***— Напачатку пагаворым аб цяперашнім дзяржаўным сцягу. Як ён з'явіўся? Якую каштоўнасць уяўляе для беларусаў?***

— Сцяг з'явіўся ў 1951 годзе, калі Сталін прасунуў ідэю стварэння ў ААН дадатковых галасоў СССР. Такім чынам, разам з Савецкім Саюзам заснавальнікамі і членамі ААН сталі Украінская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка і Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. У рамках абмежаванага міжнароднага права ААН дэ-юрэ (але не дэ-факта!) названыя савецкія рэспублікі лічыліся суверэннымі дзяржавамі, якія павінны былі мець свае герб і сцяг. Быў арганізаваны конкурс — так з'явіўся ўсім нам знаёмы чырвона-зялёны сцяг з нацыянальным арнаментам. У яго стварэнні прымалі ўдзел тагачасны старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН БССР Міхаіл Кацер і мастак Міхаіл Гусеў, пра якога на сёння наогул не засталося амаль ніякіх біяграфічных дадзеных. У камісію АН БССР па стварэнні сцяга БССР уваходзілі вядомыя беларускія пісьменнікі Якуб Колас і Міхась Лынькоў, але ў яе складзе фактычна адсутнічалі прафесійныя геральдысты і вексілолагі.

***— З якімі яркімі гістарычнымі падзеямі можа быць кантэкстуальна звязаны цяперашні дзяржаўны сцяг Беларусі?***

— У першую чаргу важна падкрэсліць, што ён ніякім чынам не можа быць звязаны з падзеямі Другой сусветнай вайны. Ствараецца ўражанне, што не ўсе гэта разумеюць. Не існавала рэгулярных частак арміі пад такім сцягам, не было партызанскіх атрадаў. Таму першая знакавая падзея — гэта ўдзел у заснаванні і наступнае сяброўства нашай рэспублікі ў ААН. Акрамя гэтага, вядома, не варта забываць аб тым, што ў пасляваенны перыяд у БССР пачалася бурная індустрыялізацыя, што пацягнула за сабой стварэнне магутнай навуковай базы, росквіт нацыянальнай Акадэміі навук (хоць створана яна была яшчэ ў 1929 годзе). Ці можна назваць гэтыя падзеі дастатковымі для таго, каб напоўніць сцяг глыбокім сэнсам? У мяне з гэтай нагоды ёсць сумневы.

***— Якія гістарычныя перадумовы стварэння бел-чырвона-белага сцяга?***

— У еўрапейскай геральдычнай і вексілалагічнай традыцыі колеравая палітра сцяга павінна быць супастаўная з колерамі герба. Гэта тлумачыцца вельмі проста: у сярэднявеччы патрабавалася ідэнтыфікаваць войскі на полі бою, маляваць кожнаму салдату герб было складана, таму абыходзіліся пазнакамі, якія перадаюць колеры герба. Тры асноўныя колеры герба «Пагоня» Вялікага Княства Літоўскага — чырвоны, белы і серабрысты (трактаваны геральдыкай як белы). Таму цалкам вытлумачальна, што на сцягах «старой» Рэчы Паспалітай, у якую да канца XVIII стагоддзя ўваходзілі беларускія землі, спалучаліся белы і чырвоны колеры.

Перамесцімся бліжэй да сучаснасці. Лютаўская рэвалюцыя 1917 года стала каталізатарам не толькі сацыяльных зменаў, але і пачаткам своеасаблівай «Вясны народаў», перыядам, калі ўскрайкавыя тэрыторыі былой царскай імперыі сталі задумвацца аб сваёй самаідэнтычнасці і стварэнні сваіх нацыянальных дзяржаў. Лідэрамі такіх рухаў сталі Украіна, народы Балтыі і Закаўказзя.



Галіна Сямдзянава ўнесла сцяг у Вярхоўны Савет, 24 жніўня 1991 г.

Усё гэта так ці інакш уплывала на палітычныя настроі беларусаў, асабліва тых, хто ваяваў на франтах Першай сусветнай у царскай арміі. Гэта дало магутны штуршок росту нацыянальнай самасвядомасці. Важна таксама ўлічваць, што многія беларускія палітычныя дзеячы ў гэты перыяд сталі бежанцамі і знаходзіліся на тэрыторыі Расіі. Галоўнымі цэнтрамі палітычнай кансалідацыі былі ў той час Петраград, Масква, Кіеў і Адэса. Яшчэ з канца 1916 года яны пачалі абмяркоўваць пытанні беларускай аўтаноміі. Мяркуючы па ўсім, тады ж паўстала і пытанне стварэння ўласнай сімволікі.

Ёсць падставы меркаваць, што менавіта Беларускі вайсковы камітэт Петраградскага гарнізона прапанаваў стварыць свой праект сцяга студэнту сталічнага Горнага інстытута Клаўдзю Дуж-Душэўскаму (які пасля стане вядомым архітэктарам). Ён і прапанаваў усім нам вядомы бел-чырвона-белы сцяг, які атрымаў прызнанне і адабрэнне і ў самыя кароткія тэрміны распаўсюдзіўся як нацыянальны ідэнтыфікатар сярод беларусаў-вайскоўцаў ад Румынскага фронта да Балтыйскага флота. Яшчэ да восені 1917 года бел-чырвона-белы бант або пятліцы ўжо з'яўляліся знакамі адраджэння беларускіх вайскоўцаў на любым фронце. У канцы 1917–пачатку 1918 года пад Адэсай пачаў фармавацца 4-ы беларускі нацыянальны корпус, і ўсе вайскоўцы ў ім выкарыстоўвалі новую беларускую сімволіку ўжо не толькі ў якасці адметных знакаў на вопратцы, але і канкрэтна на сцягах.

**Усім нам вядомы бел-чырвона белы сцяг атрымаў прызнанне і адабрэнне і ў самыя кароткія тэрміны распаўсюдзіўся як нацыянальны ідэнтыфікатар сярод беларусаў-вайскоўцаў ад Румынскага фронта да Балтыйскага флота**

У снежні 1917 года склікаецца Усебеларускі кангрэс — першы агульнанацыянальны перадпарламент Беларусі. У першыя дні над трыбунай, дзе засядаў прэзідыум з'езда, яшчэ вісеў сцяг Беларускай сацыялістычнай грамады (на белым чырвонымі літарамі было напісана «Няхай жыве вольная Беларусь!»). 5 снежня там жа быў вывешаны бел-чырвона-белы сцяг.

Ужо да прыходу кайзераўскіх войскаў у Менск гэты сцяг асацыяваўся з абвешчанай Беларускай Народнай Рэспублікай, у траўні 1918-га яго ўзаконілі пастановай Рады БНР.

***— Які далейшы лёс бел-чырвона-белага сцяга?***

— Да канца 1918 года Беларуская Народная Рэспубліка была ліквідаваная бальшавікамі, але да 1925-га дзейнічаў урад БНР у выгнанні. Бел-чырвона-белая сімволіка ў эміграцыі заставалася галоўным атрыбутам прыхільнікаў беларускай незалежнасці. Акрамя гэтага, нацыянальныя беларускія сцягі пасля падпісання Рыжскага міру (да 1939 года) актыўна выкарыстоўваліся ў Заходняй Беларусі, дзе бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня» з'яўляліся афіцыйнымі сімваламі ўсіх асноўных беларускіх нацыянальных партый, грамадскіх і культурных устаноў і арганізацый, уключаючы вучнёўскія і студэнцкія гурткі ды саюзы, напрыклад, такія, як Беларускі студэнцкі саюз пры Віленскім універсітэце Стэфана Баторыя.

Таксама мы можам казаць пра эпізадычныя ўсплёскі нацыянальнай актыўнасці, якія адбываліся на тэрыторыі Савецкай Беларусі. Напрыклад, «Лістападаўская справа» 1925–1926 гадоў: за нацыянальныя погляды і выкарыстанне бел-чырвона-белай сімволікі былі асуджаныя маладыя педагогі ў Слуцку. Іх асудзілі на 7 гадоў, затым амніставалі ў 1927-м, а ў 1934–1937-м паўторна рэпрэсавалі і большасць расстралялі.

***— Падыходзім да вельмі неадназначнага перыяду, калі бел-чырвона-белы сцяг стаў сімвалам калабарацыйнага руху...***

— Трэці рэйх грунтоўна рыхтаваўся да вайны, надаючы вялікую ўвагу ідэалагічнай падрыхтоўцы.

Працяг на стар. 8 (2) »

# Сцягі незалежнасці

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1 (7)

Ужо ў 1939 годзе па ініцыятыве германскіх спецслужбаў у вольным горадзе Данцызе былі сабраныя асобныя прадстаўнікі беларускай палітычнай эліты з Заходняй Беларусі. Ідэі нацыянал-сацыялізму знайшлі пэўны станоўчы водгук у дзеячаў беларускай палітычнай «левіцы» і «правіцы»: адстаўнога афіцэра Уладзіслава Казлоўскага, педагога Альбіна Стэповіча, а таксама вядомага палітычнага авантурыста, які не раз мяняў свае палітычныя прыхільнасці, будучага лідэра Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі Фабіяна Акінчыца.

Лідэры Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (Адам Станкевіч, Адольф Клімовіч, Адам Дасюкевіч ды іншыя) засталіся на ранейшых пазіцыях, лічачы і нацызм, і сталінізм аднолькава варожымі беларускаму вызваленчаму руху. Асобныя палітычныя беларускія дзеячы (Янка Станкевіч, Вацлаў Іваноўскі ды іншыя) у барацьбе з абодвума таталітарнымі рэжымамі шукалі саюзу з польскімі дэмакратычнымі сіламі, якія дзейнічалі тады ў падполлі. Пэўныя разыходжанні мелі месца і ў асяроддзі палітычных эмігрантаў-беларусаў. Тагачасны старшыня Рады БНР у выгнанні Васіль Захарка з Прагі звярнуўся з мемарандумам да Адольфа Гітлера, просячы таго падтрымаць прыхільнікаў незалежнасці Беларусі. Малады эмігрант Лявон Рыдлеўскі ў 1940 годзе ўступіў у шэрагі французскага Замежнага легіёна, ваяваў супраць вермахта, а затым удзельнічаў у антынацысцкім супраціве.

***— Атрымліваецца, пад бел-чырвона-белым сцягам выступала адразу некалькі палітычных лагераў?***

— Менавіта так. Можна вылучыць тры групоўкі. Першая, вельмі нешматлікая, з чыста кан'юнктурных меркаванняў цалкам падтрымлівала ідэю нацыянал-сацыялізму і ў будучыні была гатова цесна супрацоўнічаць з нацысцкім рэжымам. Другая, больш шматлікая, планавала выкарыстоўваць «нямецкі фактар» у справе стварэння незалежных беларускіх нацыянальных інстытутаў (школа, тэатр, навуковыя цэнтры, органы мясцовага самакіравання і прадстаўнічы палітычны цэнтральны орган). Трэцяя, нешматлікая, але ў палітычным плане ўплывовая група, — гэта катэгарычныя праціўнікі як сталінізму, так і Трэцяга рэйха. Яны выступалі супраць супрацоўніцтва з нацысцкімі структурамі.

Усіх іх аб'ядноўваў адзін бел-чырвона-белы сцяг, і ўсе яны жадалі прыйсці да незалежнай Беларусі. Але гэтыя групы кардынальна разыходзіліся ў метадах і шляхах дасягнення гэтых мэтаў.

***— Ці моцна беларускія калабарацыйныя фарміраванні забрудзілі нацыянальную сімволіку?***



Прэзідыум Рады БНР у Вільні – пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Люты1918 г. (Нацыянальны гістарычны музей Беларусі)

— Архіўныя дакументы сведчаць, што прадстаўнікі калабаранцкай арганізацыі «Беларуская народная самапомач» у 1942–1943 гадах ажыццяўлялі працяглую перапіску з ведамствам Альфрэда Розэнберга і адміністрацыяй Остланд па пытанні афіцыйнага юрыдычнага прызнання герба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сцяга. Я магу афіцыйна дакументальна пацвердзіць, што да 1944 года дэ-юрэ беларуская нацыянальная сімволіка не была прызнаная нацысцкім рэжымам.

Да вясны 1944 года бел-чырвона-белы сцяг з'яўляўся ў Менску ды іншых гарадах акупаванай Беларусі нячаста. Толькі калі стала зразумела, што да канца акупацыі застаюцца лічаныя месяцы, нямецкае кіраўніцтва дало адмашку «нацыянальнаму адраджэнню»: пачалася спешная мабілізацыя беларускай моладзі ў шэрагі падраздзяленняў Беларускай краёвай абароны (БКА). Да святкавання гадавіны Акту 25 сакавіка 1944 года ў Менску акупацыйныя ўлады дазволілі перайменаваць асобныя сталічныя вуліцы ў гонар вядомых дзеячаў БНР: Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага, Алеся Гаруна ды іншых.

Так, беларускія падраздзяленні БКА ў складзе вермахта сапраўды ўдзельнічалі ў баях супраць савецкіх войскаў, як і на тэрыторыі Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі і Францыі. Маюцца факты ўдзелу БКА ў барацьбе з партызанамі…

***— Атрымліваецца, не падзяляючы сімволіку і кантэкст, можна прыйсці да высновы, што многія сімвалы і з'явы, агульнапрынятыя ў Беларусі і ва ўсім свеце, не маюць права на існаванне?***

— Вядома. Менавіта таму ў дачыненні да бел-чырвона-белага сцяга важна разумець кантэкст, чаму калабаранты выкарыстоўвалі яго. Мэты беларускіх нацыяналістаў, якія пагадзіліся на саюз з гітлераўскім рэжымам, не супадалі з канчатковымі планамі Трэцяга рэйха. Адны хацелі пабудаваць беларускую дзяржаву, не зважаючы на сродкі дасягнення гэтай мэты, іншы бок (нацысцкі рэжым) імкнуўся да поўнага сусветнага панавання «арыйскай» нацыі і стварэння для немцаў «жыццёвай прасторы» на ўсходзе шляхам заняволення і знішчэння «непаўнавартасных нацыяў», якія пражывалі на захопленых землях.

Частка беларускіх нацыяналістаў здзейсніла трагічную памылку, калі пайшлі на саюз з Трэцім рэйхам. Злачынныя метады, якія выкарыстоўваліся пры гэтым, ляжаць на сумленні выканаўцаў, але ніяк не на беларускім нацыянальным сцягу.

Ніхто сёння не будзе адмяняць Міжнароднае свята працы (1 мая) або сялянскае свята «Дажынкі» толькі таму, што яны афіцыйна святкаваліся пры нацыстах у гады акупацыі!

Эстонцы, латышы, літоўцы, украінцы, румыны, расійцы, балгары, італьянцы, славакі, харваты, французы, бельгійцы і іншыя народы Еўропы не адмаўляюцца ад сваёй нацыянальна-дзяржаўнай сімволікі толькі з-за таго, што частка прадстаўнікоў гэтых нацыянальнасцяў выкарыстала яе ў саюзе з гітлераўскай Нямеччынай. Ёсць агульнапрызнаныя сімвалы дзяржавы, якія атаясамліваюцца з культурнай і гістарычнай спадчынай народа, а ёсць інтарэсы асобных прадстаўнікоў палітычнай эліты, якія бессаромна выкарысталі гэтую нацыянальную атрыбутыку ў сваіх нядобрых і негуманных мэтах.

***— А як сцяг зноў з'явіўся ў нашай краіне?***

— Адраджэнне бел-чырвона-белага сцяга адбывалася на маіх вачах, я магу апісаць яго, зыходзячы ўжо з уласных адчуванняў. Усё пачалося ў 1987–1988 гадах, калі нешматлікія гурткі прыхільнікаў беларускай нацыянальнай самабытнасці, якія падтрымлівалі нацыянальную ідэю, актывізавалі сваю дзейнасць у грамадстве, пачалі актыўна пашырацца, стварылі шэраг «нефармальных» арганізацый (менскія «Талака» і «Тутэйшыя», гарадзенская «Паходня» ды іншыя).




**Гербу «Пагоня» больш за 500 гадоў, афіцыйнаму прызнанню бел-чырвона-белага сцяга больш за 100 гадоў. Гербу БССР, які стаў асновай герба сучаснай Рэспублікі Беларусь, 92 гады, сцягу БССР крыху менш за 70 гадоў**

Першы мітынг пад бел-чырвона-белым сцягам адбыўся на маіх вачах 30 лістапада 1988 года ў Курапатах. Я быў удзельнікам гэтага мітынгу, стаў сведкам таго, як яго брутальна разагналі.

А далей усё пачало нагадваць снежны камяк. Адбыліся спачатку выбары на Усесаюзны з'езд народных дэпутатаў у Маскве (1989 год), затым выбары дэпутатаў у Вярхоўны Савет (1990 год), куды прайшла цэлая група незалежных прадстаўнікоў. Нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг стаў неад'емнай часткай мітынгаў і пікетаў Беларускага Народнага Фронту. 25 жніўня 1991 года адразу пасля правалу путчу ГКЧП ён быў зацверджаны беларускім парламентам як дзяржаўны сімвал Беларусі. Такім ён заставаўся да траўня 1995 года, калі адбыўся рэферэндум, які прывёў да змены дзяржаўнай сімволікі Рэспублікі Беларусь. Як тады былі ўспрынятыя гэтыя змены? Мне здаецца, што большай часткай простага насельніцтва змена сімволікі ўспрымалася досыць індыферэнтна, супраць выступалі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і палітычнай нацыянальна арыентаванай эліты.

***— Сёння вакол «старой» і «новай» беларускай сімволікі не на жарт разгараюцца спрэчкі. Ці маюць яны пад сабой аргументаваную аснову і якім чынам нам пераадолець гэты геральдычны крызіс?***

— Вы заблыталі мяне гэтым пытаннем: якая ж з іх «старая» і якая «новая»? Пачнем з беларускай гістарычнай сімволікі. Гербу «Пагоня» больш за 500 гадоў, бел-чырвона-беламу сцягу больш за 100 гадоў. Гербу БССР, які стаў асновай герба сучаснай Рэспублікі Беларусь, 92 гады, сцягу БССР, які стаў у мадыфікаваным выглядзе афіцыйным сімвалам нашай краіны з 1995-га, крыху менш за 70 гадоў.

Я не палітык і не палітычны аналітык. Я гісторык. Таму выкажу сваё суб'ектыўнае меркаванне. Калі калі-небудзь адбудзецца змена дзяржаўнай сімволікі краіны, то гэта не павінна быць ажыццёўлена рэвалюцыйным шляхам, а павінна мець цвёрдую заканадаўчую аснову. Лепш за ўсё — праз рашэнне парламента канстытуцыйнай кваліфікаванай большасцю.

Бел-чырвона-белы сцяг, які таксама асацыюецца з незалежнасцю нашай дзяржавы, у любым выпадку павінен атрымаць прававы імунітэт ад ідэалагічнага апаганьвання і наўпроставых рэпрэсій. Ён выстаяў у інфармацыйнай барацьбе і доўгім гістарычным супрацьстаянні. На працягу 100 гадоў яго знішчалі, спальвалі, рвалі на шматкі, аблівалі брудам — а ён жывы і працягвае лунаць у небе.

onliner.by

**Пераклад з рускай мовы.**

**Друкуецца ў скароце.**

# Памяць з канверта

Жыццё, здараецца, не перастае здзіўляць. Як і гэтым разам, калі ў «Літаратурную Беларусь» патрапіў канверт з успамінамі. Правільней, яго прынёс нястомны апякун культурніцкай спадчыны Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч, які і атрымаў той канверт-рукапіс ад Ірыны Пальчынскай, даўно знаёмай яму па Клецку.

Спадарыня Ірына шчыра і дэталёва апісала гісторыю свайго радаводу і свой лёс. Нарадзілася яна 2 сакавіка 1927 года ў Клецку, закончыла медыцынскую школу ў Баранавічах (вучылася па праграме Віленскай беларускай гімназіі).«Пасля выгнання немцаў зноў вярнулася на вучобу ў Баранавічы, — згадвае спадарыня Ірына, — у фельчарска-акушэрскую школу, якую скончыла і была накіраваная на працу ў Клецак. Мела сям'ю, мужа і дачку Кацьку. Але шчасце было нядоўгім. 10.07.1951 года была арыштавана ў тых жа Баранавічах, куды паехала па медыкаменты. Асуджана за «прыналежнасць да антысавецкай арганізацыі СБМ і антысавецкую прапаганду» — сыштак з вершамі — да 10 гадоў папраўча-прымусовай калоніі і 5 гадоў пазбаўлення правоў з канфіскацыяй маёмасці. Пакаранне адбывала ў адным з лагероў на Валагодчыне, на лесапавале. Пасля смерці Сталіна ў лютым 1954-га этапавана ў лагер «Шылутэ» каля Каўнаса. Вызвалена 16.05.1955 года.

Але не толькі спавядальна-пранікнёныя ўспаміны пра сваё жыццё імкнулася засведчыць няскорная нашчадка святой Еўфрасінні Полацкай і Ларысы Геніюш — спадарыня Ірына, але вымагалася пакінуць і шчырую праўду пра нашую агульную гісторыю, праўду пра не некалі бяздушна вырваныя старонкі. Як гэтыя — пра легендарную асобу нашага мінулага, пра аднаго з першых грамадзянаў вольнай БНР, пра дужага духам і справай Клаўдыя Дуж-Душэўскага, які на падставе колераў народных строяў і арнаментаў стварыў эскіз беларускага нацыянальнага сцяга, што бела-чырвона-белым світанкам упершыню ўзняўся над Менскам падчас Усебеларускага з'езда ў 1917 годзе.

Архітэктар, выдавец, грамадскі і палітычны дзеяч, дыпламат, праўнук удзельніка вызвольнага паўстання 1830–31 гадоў, унук паўстанца 1863–64-га, Клаўдый Дуж-Душэўскі нарадзіўся 27 (ці паводле ніжэйапублікаванага сведчання — 26-га) сакавіка 1891 года ў Глыбокім. Скончыў Віленскую рэальную вучэльню. Вучыўся ў Пецярбургскім горным інстытуце. У 1921-м прыехаў у Коўна. Працаваў на розных афіцыйных і неафіцыйных пасадах: ад выкладчыка Віленскай беларускай гімназіі да дыпламатычнага прадстаўніка Беларускай Народнай Рэспублікі ў краінах Балтыі і Дзяржаўнага сакратара ва ўрадзе БНР на чале з Вацлавам Ластоўскім. Абіраўся старшынём Беларускага цэнтра ў Коўне.

Пасля далучэння Летувы да СССР Клаўдый Дуж-Душэўскі трапіў у савецкую турму. Падчас нямецкай акупацыі яго за дапамогу габрэям кінулі ў нацысцкі канцлагер. У лютым 1952-га Дуж-Душэўскі як «актыўны беларускі нацыяналіст» быў асуджаны да 25 гадоў зняволення ў канцлагерах ужо савецкіх. Дзе і пазнаёмілася з ім Ірына Пальчынская...

Спачыў Клаўдый Сцяпанавіч Дуж-Душэўскі 25 лютага 1959 года ў Вільні (паводле іншых звестак — у Коўне).

А яго бел-чырвона-белы сцяг і сёння статысячнымі выявамі непакорна лунае над абуджанай сталіцай Беларусі, яе гарадамі і вёскамі.

**А. П.**

# Мае сустрэчы з Клаўдыем Дуж-Душэўскім

Ірына ПАЛЬЧЫНСКАЯ

**Архітэктар Клаўдый Дуж-Душэўскі вядомы як актыўны сябра Рады БНР і стваральнік бел-чырвона-белага сцяга.**

З Клаўдыем Сцяпанавічам я была знаёмая асабіста. Так сталася, што мы абое апынуліся ў адным лагеры ў статусе палітвязняў і ў адзін дзень выйшлі на волю.У канцы свайго тэрміну зняволення, у 1954 годзе, я, як інвалід II групы, была пераведзена з Каргопальлага ў Літву, у лагер «Шылутэ» . Гэта быў інвалідны лагер, падзелены на мужчынскую і жаночую зоны. У жаночай зоне размяшчаўся ДМР («Дом матери и ребёнка») і, калі яго можна так назваць, радзільны дом, — маленькае памяшканне на пяць коек. Там я працавала па спецыяльнасці, акушэркай. Побач, у мужчынскай зоне, знаходзілася санітарная частка. Там і працаваў статыстам-рэгістратарам Клаўдый Дуж-Душэўскі. Быў гэта ціхі, сціплы і, як мне тады здавалася, старэнькі чалавек (яму было за 60, а мне — 25). У лагеры яго называлі айцец Клаўдыюш, таму што нечым ён быў падобны на святара. Часам мы сустракаліся ў лагеры, па працы, але не маглі пагутарыць. Усё ж такі лагер ёсць лагер, і мы былі людзьмі падканвойнымі. Тым не менш, я ведала, што ў нас з ім аднолькавыя артыкулы 58 п.10 — антысавецкая прапаганда.

Але ж так сталася, што 25 сакавіка 1955 года айцец Клаўдыюш прыйшоў у маю «рэзідэнцыю» без канвоя. Яго прывяла ў Дом маці і дзіцяці, для праверкі дакументаў, начальніца ДМР доктар Юдзіта. Вось тады мы і пазнаёміліся бліжэй. Яго твар быў такі радасны і светлы, з блакітных вачэй пад акулярамі так і сыпаліся праменьчыкі радасці. Мне так хацелася размаўляць з гэтым чалавекам! Айцец Клаўдыюш сказаў мне, што ён не святар, а палітык. Запытаўся, ці ведаю я, якое сёння свята. Я адказала, што ведаю — каталіцкае Звеставанне, і пачала, як вучаніца, расказваць, што ў гэты дзень архангел Гаўрыіл падаў вестку Дзеве Марыі, што ў яе народзіцца сын, яна ж усумнілася, бо ў яе не было мужа. Дуж-Душэўскі запытаўся, адкуль я гэта ведаю, хіба я каталічка? Я адказала, што вучыла Закон Божы, і хаця сама праваслаўная, але мой дзядуля па матчынай лініі быў каталік, і мы святкуем падвойныя святы.

Але тут Клаўдыюш спытаў, ці ведаю я, што гэта яшчэ і беларускае нацыянальнае свята: дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе.

— А ў мяне заўтра дзень нараджэння, — сказаў ён. А сёння былі госці. Меў сустрэчу з дачкой. Вось, гэта вам, — і працягнуў мне шакаладку.

Я збянтэжылася:

— Ну што вы, гэта я павінна зрабіць вам падарунак...



Але тут з'явілася доктар Юдзіта. Мы пагарталі нейкія запісы ды перадалі Дуж-Душэўскаму картку «Гісторыі хваробы», пасля чаго ён пайшоў. Так скончылася нашая першая сустрэча.

Праз некаторы час я зазірнула ў рэгістратуру санчасці, дзе Дуж-Душэўскі, як запраўскі пісар, запаўняў сваім прыгожым почыркам бланкі на «акціроўку». Я не змагла доўга размаўляць, і таму паспяшалася ўручыць яму свой падарунак у адказ. Гэта быў уціральнік-ручнічок з вышытым крыжыкам узорам у выглядзе васількоў і шлячком чырвонага колеру. Клаўдыюш узрадаваўся, падзякаваў і пацалаваў мне руку.

Наступнага разу мы ўбачыліся амаль праз месяц, 1 траўня 1955 года. Быў сонечны дзень, я сядзела каля сваёй бальніцы. Тут былі і дзве парадзіхі з дзеткамі на руках. Раптам убачыла знаёмую постаць з кіёчкам, якая ўпэўнена рухалася ад вахты — прахадной паміж мужчынскай і жаночай зонамі, у напрамку радзільнага дома. У мяне сэрца закалацілася, не ведаю — ці ад страху, ці ад радасці. Клаўдый Сцяпанавіч падышоў, па-джэнтэльменску пакланіўся. Пазабаўляў дзетак, перакінуўся парай слоў на летувіскай мове з матулямі. Пажадаў ім здароўя ды хутчэйшага вяртання дадому. Поўдзень выдаўся спякотным, і сп. Клаўдыюш папрасіў выйсці ў цень, ды і матулям з дзеткамі не раіў доўга знаходзіцца на сонцы.

Мы ўвайшлі ў мой пакой. Яго вочы асвяціліся нейкім дзіўным бляскам:

— Ірэна, мы ўжо вольныя, прыйшлі паперы. Цуд! Хутка і вы і я будзем дома! Толькі маўчыце, нікому ні слова, а то мне за парушэнне лагернага рэжыма дадуць дадатковы тэрмін. Разумееце, я раскрываю вам вялікую тайну, хутка лагер расфарміруюць. Мы будзем на волі, жывыя!

Ён усё гаварыў і гаварыў, нібыта спяваў. А я, як зачараваная, слухала і не разумела: праўда гэта ці казка. Хоць і мала яго ведала, але ў гэты момант ён быў для мяне самым блізкім чалавекам.

Праз пару дзён пасля візіту Клаўдыя Сцяпанавіча прыйшоў пасыльны з вахты і сказаў, што мяне выклікае начальнік. Я адразу ж пайшла. Сэрца калацілася, і ў вушах шумела, але я супакойвала сябе: «Спакойна, ты так шмат перажыла, перацярпела, так што баяцца няма чаго». Вось мяне павялі да самога начальніка лагера Хаменкі. Ён мне абвясціў, што прыйшлі дакументы на маё вызваленне, але ён асабіста просіць мяне застацца працаваць на два-тры месяцы. Ліквідуецца ДМР, і я буду вельмі патрэбна ў лагеры. Ён прапанаваў залічыць мяне ў штат вольнанаёмных і абяцаў выплочваць заробак «у лепшым выглядзе». Я ледзьве не абамлела. Што рабіць? І дадому ой як хочацца, і грошай зарабіць было б нядрэнна. Стаўкі тут, у сістэме МУС, нашмат большыя, чым у цывільных. Праўда, начальнік папярэдзіў, што працэдура афармлення маіх дакументаў зацягнецца не менш як на два тыдні. Для выканання гэтых працэдураў давядзецца ехаць у Вільню.

Тады я пачала выкладаць свае меркаванні. Гаварыла пра тое, што больш як чатыры гады не была дома, не бачыла дачушку, якой ужо пяць гадоў і г.д. Хаменка параіў: няхай сваякі прыедуць да вас. «Выдзелім пакой для спаткання за межамі зоны, у доме аховы. Падумайце, а заўтра дасце адказ».

Я ўзважвала ўсе «за» і «супраць». Чуткі пра тое, што нас, медыкаў, пераводзяць працаваць у сістэму МУС, ужо разнесліся па зоне. Мае калегі радаваліся таму, што будуць забяспечаны высокааплатнай працай. Я ж ніяк не магла зразумець, чаму яны цешацца. Працу ў сістэме МУС я лічыла не ганарам, а знявагай і ганьбай. Нават само гэтае слова «сістэма» здавалася ненавісным. Я разумела, што ў любым выпадку буду працаваць для людзей. Але побач з кім і пад якой шыльдай?

Хацелася пра ўсё расказаць айцу Клаўдыю, параіцца з ім, але спаткацца ў той дзень нам не ўдалося. Толькі праз пару дзён, калі назбіраліся нейкія медыцынскія паперкі, я папрасіла дазволу прайсці ў санчасць. На той момант па лагеры ўжо разнеслася вестка аб маім вызваленні, і я лічылася, так бы мовіць, напалову вольным чалавекам.

Клаўдый Сцяпанавіч нічога не параіў. «Вырашай сама», і я дала згоду затрымацца ў лагеры. Адбылося гэта 16 траўня 1955 года.

Разам з Дуж-Душэўскім мы выходзілі на волю. Спаткаліся на вахце (на прахадной). Ад лагера да горада Шылутэ было кіламетраў пяць. Нам далі машыну — «газік», каб даехаць да гарадскога аддзялення міліцыі і атрымаць пашпарты. У пашпартным стале я справілася даволі хутка. Ніякіх пытанняў да мяне не было, і я ніякіх прэтэнзій не мела. Тады я яшчэ не ведала, што ёсць пэўны шыфр, што на чалавеку і пасля вызвалення застаецца кляймо былога вязня. Адчула гэта толькі пасля.

А вось у Клаўдыя Сцяпанавіча Дуж-Душэўскага ў даведцы аб вызваленні ў графе «прозвішча» стаяла «Душаўскас», без прыстаўкі «Дуж», што азначала «Дужы». А звесткі з даведкі пераносіліся ў пашпарт. З такім напісаннем прозвішча Клаўдый Сцяпанавіч не пагадзіўся. З-за гэтага ўсчалася спрэчка. Хоць размаўлялі і па-літоўску, але я разумела сэнс гутаркі. Начальнік пашпартнага стала з нейкім сарказмам прамовіў:

— Які ж ты дужы? Можа, лепш напісаць «Стары»?

Спадар Клаўдый, аднак, адстойваў «прыстаўку» да свайго прозвішча, але так нічога і не дамогся. З міліцыі ён выйшаў увесь знерваваны, яго літаральна трэсла. Каб супакоіцца, Дуж-Душэўскі запрапанаваў пайсці ў рэстаран — выпіць віна і перакусіць.

На жаль, рэстаран быў зачынены, да яго адкрыцця заставалася яшчэ цэлая гадзіна. Мы селі на лаўку, і айцец Клаўдыюш (як я яго ўжо прывыкла называць) пачаў гаварыць пра тыя праблемы, якія нас чакаюць: «У асобных адзнаках пашпарта стаяць пэўныя зашыфраваныя лічбы. Гэта тое, што табе, дарагая Ірэна, складзе праблемы. Але, можа, Бог абнясе. Мне ўжо ўсё роўна. Працы ў іх я і так не буду прасіць. А вось свой родавы герб пастараюся адрадзіць для нашчадкаў»...

Потым пачаў расказваць пра сваё жыццё. Гаварыў пра сваю працу ў Радзе БНР у маладыя гады. Расказаў, што некалі пісаў казкі для дзетак. Пра свае тры арышты і турэмныя тэрміны, здабытыя ў розныя часы ад розных рэжымаў. Першы тэрмін атрымаў ад летувісаў у 1923 годзе, другі ад немцаў — у 1942-м; трэці — у 1947-м, за «антысавецкую прапаганду». Так, у гутарцы, незаўважна праляцела гадзіна. Адчыніўся рэстаран, і кельнер папрасіў нас заходзіць. Праўда, у рэстаране мы не затрымаліся. Спадар Клаўдыюш спяшаўся на аўтобус, а мне трэба было вяртацца да нелюбімага лагера. На развітанне выпілі трохі добрага віна, здаецца, «Вермута», закусілі і разышліся.

Я пешшу падалася на старое месца, у новае жыццё...

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (169) | 11 верасня 2020 | № 34 (693) Новы Час

# Жыве Беларусь!

Беларускія пісьменнікі ў XIX стагоддзі ажывілі светач нацыянальнага Адраджэння, а на пачатку XX-га аднымі з першых пад бел-чырвона-белымі сцягамі пачалі адбудоўваць дзяржаўную незалежнасць. Яны не толькі сягалі ва ўзвышшы творчасці, але і штодня працавалі асветнікамі, прапагандыстамі, выдаўцамі, палітыкамі, дыпламатамі, мусілі ахвяроўваць на тое свае сілы, час, а часта — свабоду і жыццё.

Яны першымі распачалі выхаванне беларускай моладзі ў нацыянальным, а не чужынскім духу: Карусь Каганец, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Вацлаў Іваноўскі, Якуб Колас, Браніслаў Тарашкевіч, Язэп Лёсік…

Яны першымі на ўвесь свет выказалі ідэю стварэння сваёй дзяржавы ды абвесцілі яе незалежнасць: браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Пётра Крэчэўскі, Алесь Гарун…

Яны былі кіраўнікамі і міністрамі першай беларускай дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі: Вацлаў Ластоўскі, Пётра Крэчэўскі, Антон Луцкевіч, Алесь Гарун, Вацлаў Іваноўскі, Язэп Лёсік, Кастусь Езавітаў…

Урэшце, яны — беларускія пісьменнікі — стварылі ўзнёслы і велічны вянок сваіх прысвячэнняў нацыянальным сімвалам і вольнасці Беларусі.

«Літаратурная Беларусь» друкуе невялікую частку гімнаў Беларускай свабоды.



## Гэта крык, што жыве Беларусь

Янка КУПАЛА

*Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,*
*Ці запеў салавей, ці загагала гусь, —*
*Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,*
*Сваю матку-зямлю — Беларусь.*

*Хоць гарыста яна, камяніста яна,*
*Вераб'ю па калена, што сею, расце,*
*Дый люблю ж я яе, шкода хаткі, гумна:*
*О, такіх няма, мусіць, нідзе!*

*З саламянай страхой мая хатка, гумно;*
*Непачэсна, што праўда, віднеюць яны,*
*Дый на іх жа сваёй клаў рукой бервяно*
*І зямлю раўнаваў пад званы!*

*З саламянай страхой мая хатка, тачок!*
*Многа чутак наводзяць і дум на душу;*
*Я ў сне бачу іх, помню кожны разок*
*І у сэрцы, як веру, нашу.*

*Хатка сведкай была, як пазнаў божы свет;*
*З хаткі бегаў да школы вучыцца чытаць;*
*Пры лучыне не раз гаварыў казкі дзед;*
*У двор з хаткі хадзіў зарабляць.*

*У тачок збожжа, сена я клаў кожны год;*
*У ім першы раз Зосі сказаў, што люблю…*
*У ім з дзеткамі после збіраў умалот,*
*І цяпер пры ім лазню таплю.*

*А хоць гора зазнаў, знікла доля навек,*
*Зося парыць зямлю, у свет дзеці пайшлі, —*
*Тут жа неяк прывык да ўсяго чалавек,*
*Прырос неяк, як корч да зямлі!..*

*Тут усякая рэч як гавора з табой:*
*І крывая бярозка, і столетні дуб,*
*Снег халодная зімой, траўка летняй парой,*
*І асвер, і абцінены зруб…*

*А бурлівы ручай і зялёненькі сад! —*
*Хоць, брат, сэрца аддай і душу хоць аддай!..*
*Сам садочак садзіў гадкоў дваццаць назад,*
*А цяпер жа вялікі, як гай!*

*З садам гэтым я зжыўся, як з хаткай сваей;*
*Знаю, колькі з яго маю яблык і сліў;*
*Ночак шмат скаратаў у ім з Зосяй даўней,*
*Шмат чаго у ім я перасніў!*

*Ой, бывала, як сонейка бліснe вясной,*
*То ж то рай, далібог! — захліпаецца дух, —*
*Як на ўсе на лады, на садок увесь той*
*Засвяргоча рой птушак-пяюх!*

*Тут кукуе зязюля, ці шмат пражыву;*
*Там чырыкае шпак, там пяе салавей;*
*Тут крычаць вераб'і і клююць крапіву;*
*А на ўсё сонца грэе цяплей і цяплей!..*

*Цяпер глянь, браце, вокам на поле, на луг,*
*На сівец-сенажаць, на вузкія шнуры,*
*Дзе свістала каса, барабаніў дзе плуг,*
*Дзе з зары працаваў да зары:*

*Тут даўгі-даўгі шнур зелянее з аўсом;*
*Бліжэй гоні адны, на іх — бульба у шар;*
*А там далей даўгі шнур віднее з жытцом;*
*А там голы, як бубен, папар.*

*Пасярэдку аўса галавісты лянок*
*Зелянее, інакш адбівае сабой;*
*Там вусаты ячмень, а там далей набок*
*Ад ячменю — дзірванчык з лазой.*

*Ды і што гаварыць! — дзе я толькі гляджу,*
*Бачу родненькі край, сваю матку-зямлю;*
*Тут і людзі... ат... што!.. аб іх потым скажу...*
*Долі іх надта ж я не люблю!..*

*А вот як не любіць гэта поле, і бор,*
*І зялёны садок, і крыклівую гусь!..*
*А што часам тут страшна заенча віхор, —*
*Гэта енк, гэта крык, што*
***Жыве Беларусь!***

**[1905–1907 гг.]**

## Пагоня

Максім БАГДАНОВІЧ

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*За краіну радзімую жах, —*
*Ўспомню Вострую Браму святую*
*І ваякаў на грозных канях.*

*Ў белай пене праносяцца коні, —*
*Рвуцца, мкнуцца і цяжка хрыпяць…*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

*У бязмерную даль вы ляціце,*
*А за вамі, прад вамі — гады.*
*Вы за кім у пагоню спяшыце?*
*Дзе шляхі вашы йдуць і куды?*

*Мо яны, Беларусь, панясліся*
*За тваімі дзяцьмі наўздагон,*
*Што забылі цябе, адракліся,*
*Прадалі і аддалі ў палон?*

*Біце ў сэрцы іх — біце мячамі,*
*Не давайце чужынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць…*

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не усцішыцца гэтакі боль…*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*

*Ўсё лятуць і лятуць тыя коні,*
*Срэбнай збруяй далёка грымяць…*
*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Не разбіць, не спыніць, не стрымаць.*

**1916 г.**

## Покліч

Уладзімір ЖЫЛКА

*Пад штандар бел-чырвона-белы*
*Гартуйся, раць, адважна, смела*
*Адважных, храбрых ваякоў!*
*І ўспомняцца старых вякоў*
*Паходы мужныя у славе,*
*Часы Альгерда, Ізяслава,*
*Грунвальдскі з немцам бой!*
*І боек даўні цяг з Масквой!*

*Пад знак Літоўскае Пагоні —*
*Абараняць краіны гоні,*
*Народ забраны вызваляць,*
*Ісці к святлу, святлом палаць —*
*Спяшайся той, хто к волі рвецца,*
*Ў кім беларуса сэрца б'ецца!*
*Збірайся — ўсе, як бы адзін, —*
*Арлы радзімых пушч, нізін!*

*Не плач, не плач па сыну, маці, —*
*Сягоння сорам быць у хаце,*
*Бо ўзнят за волю грозны меч,*
*Бо хутка будзе злая сеч,*
*Няхай і ён, юнак адважны,*
*Ідзе туды, дзе б'еца кажны*
*За волю новую без слёз,*
*За лепшы Бацькаўшчыны лёс.*

*Пад штандар кожны здатны, гожы,*
*Дось нас наезнікам варожым*
*Трымаць ў прыгоне, беднаце,*
*Смяяцца нашай цемнаце,*
*Багацце краю нішчыць, пляжыць —*
*Чужынцу годзе намі княжыць*
*І карыстаца з нашых плеч!..*
*Мы к волі йдзем — з дарогі прэч!..*

**1920 г.**

## Святая свабода

Вацлаў ЛАСТОЎСКІ

Напачатку была свабода, і свабода была ў руках народа, і народ быў свабодным. Свабода была напачатку ў руках народа. Праз народ усё сталася, і без яго нічога не сталася. Народ быў незалежны, а свабода і незалежнасць былі радасцю людзей. І памяць аб страчанай свабодзе свяціць у паняволенні нашым, і няволя не пагасіла ў нас жадання свабоды…

У імя беларускага народа, за яго славу, шчасце і свабоду. Станься.

Ойча наш, каторы ёсць у небе, вярні нам волю і валадарства на зямлі нашай, даўно і цяжка паярэмленай. Хай не адымаюць чужынцы хлеб штодзённы ад вуснаў нашых дзяцей. Адпусці грахі нашым продкам, каторыя не ўмелі абараніць сваёй і свайго патомства свабоды…

Не ўводзь нас у спакусу падлегласці тым, што паярэмілі нас, але збаў нас ад чужацкай апекі.

Святая зямелька, Маці наша! Табе ў ахвяру складаем мы ўсе сілы свае цяпер і ў момант смерці нашай.

Веру ў Бацькаўшчыну нашу Беларусь і ў Народ наш, сына яе адзінага, каторы на свет прыйшоў свабодным…

Святая свабода, выражаная дзяржаўнай самаістасцю, ты наша пацяшыцелька і надзея, адзіная мэта і праўда наша, прыйдзі, усяліся ў нас і ачысці нас ад усякага рабства і збаў нас ад няволі.

**1926 г.**

## Наш сцяг

Ларыса ГЕНІЮШ

*Не слава Краю, ўздым магутны,*
*нат не шумелі мне сцягі…*
*Заместа іх звінелі путы*
*і цёмнай ноччу ланцугі.*

*Заместа водгулля Пагоні*
*яшчэ сягоння, як крумкач,*
*у набалелым сэрцы звоне*
*жанчыны беларускай плач.*

*Дзявочы твар, бляды ад жалю,*
*дзяцей спалоханы пагляд*
*і кроў братоў, што бунтавалі, —*
*я толькі гэткі знаю стяг!..*

*За жар душы, што набалела,*
*за сэрца зораны агонь*
*я, Божа, чуць хоць раз хацела б*
*шум сцягу вольнага свайго.*

*Калі Крывіцкая Зямліца*
*мне сэрца гордае саўе,*
*а польны вецер расшуміцца,*
*на развітанне запяе, —*

*няхай разгорне свае крыллі,*
*як сторож вечнага жыцця,*
*хай зашуміць хоць на магіле*
*мне бел-чырвона-белы сцяг.*

**1942 г.**

## 25 сакавіка

Рыгор БАРАДУЛІН

*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Годны дзень*
*Беларускай дзяржавы.*
*Веснаплынных вятроў талака*
*Пыл з кароны атрэсла іржавы.*

*Шматавалі нас досыць арлы*
*І з адной, і з дзвюмя галавамі.*
*Мы не з нейкай бязроднай імглы,*
*Нас вякі як сваіх*
*Гадавалі.*

*Мы — рата́і святла,*
*Крывічы,*
*Верхачы неўміруючай Пагоні.*
*Маладзік сакалом на плячы,*
*Гартны меч у цвярдое далоні.*

*Лучыць нашыя мары рака*
*Бел-чырвона-белага сцяга.*
*Дваццаць пятага сакавіка —*
*Наша свята,*
*Пароль*
*І прысяга!*

## Хрыстос і Айчына

ЗЬНІЧ (АЛЕГ БЕМБЕЛЬ)

*Раскрыжаванне кат завершыў…*
*аблашчыў кужаль кроў Жыцця…*
*так: Плашчаніца — гэта Першы*
*мой Бел-Чырвона-Белы Сцяг!*

# Сходка нячысцікаў

Ніл ГІЛЕВІЧ


Фота www.bel.sputnik.by

## Замест прадмовы

*Што ты, брат, такі панылы?*
*Звесіў глюгу і маўчыш?*
*Белы свет табе нямілы?*
*Шмат няўдач і страціў чынш?*

*Ці застаўся без работы,*
*Без заробку на штодзень?*
*Ці душу грызуць грызоты,*
*Што на ўзлёт няма надзей?*

*Ёсць — і праца, і заробак.*
*Маеш смак. І добра спіш.*
*І парадак у вантробах.*
*Дык чаго ж тады ты скіс?*

*Ах!.. Ну, браце! Ну ніколі*
*Не падумаў бы. Дальбог,*
*З-за чаго на вольнай волі*
*Ты прычэзнуў і знямог.*

*Аж, выходзіць, з той прычыны,*
*Што, хоць плач, хоць енч-пішчы,*
*Надта многа мерцвячыны*
*Пруць у кніжачкі пісцы.*

*Акімзаюць думку-догму —*
*І шрайбуюць на пуды.*
*А карысці? Мухі дохнуць*
*Ад атрутнай іх нуды!*

*І таму — як кажа Хаім,*
*Мой дапытлівы сусед:*
*«Што мы маем?*
*Што мы маем,*
*Каб належна выйсці ў свет?*

*Што пакажаш? Доўгі шнобель,*
*Каб здзівіць і казырнуць?*
*Дык і што? За шнобель «нобель»*
*Нам у Швецыі дадуць?»*

*Рэч у тым, таварыш Хаім,*
*Як сказаў калісьці хтось, —*
*Мы і самі кепска знаем,*
*Што мы маем, што ў нас ёсць.*

*Мы не ўсё яшчэ адкрылі,*
*Што ў далёкія гады*
*Словам праведным стварылі*
*Нашы прадзеды-дзяды.*

*Хоць бы гэта вось паэма,*
*Ці, як сёння кажуць, тэкст.*
*Пяць вякоў пралежаў нема*
*Унікальны сказ-гратэск!*

*А яшчэ, таварыш Хаім,*
*Ёсць і горшая бяда:*
*Многа самі мы знішчаем*
*І не плачам: не шкада!*

*Самі! Самі! Нешта спалім,*
*Нешта выкінем, як хлам,*
*І яшчэ сябе пахвалім:*
*Больш утульна стала нам!*

*Ну а колькі, Братка Хаім,*
*Бы глузды не маюць скрэп,*
*Мы свайго чужым спіхаем —*
*Як у печ з лапаты хлеб!*

*Вось вам! Радуйцеся! Ешце!*
*Мы абыдземся і так!..*
*Ну, але скажу нарэшце,*
*Як адчуў я лёсу знак.*

*У адным з архіваў Польшчы*
*(У якім — пакуль сакрэт)*
*Мне наўрэўся, як дар Божы,*
*Неадкрыты наш паэт.*

*Я асвойтаў кніжак многа*
*З нашых даўнішніх часоў,*
*А не вычытаў нічога*
*Пра Юстына з Ліцвіной.*

*Ну, калі ўжо ён наўрэўся*
*Менавіта мне — дык я*
*Натуральна й загарэўся:*
*Значыць — місія мая!*

*Я зрабіць павінен гэта —*
*Чытачам уцеху даць:*
*Старамоўны твор паэта*
*Мовай сённяшняй падаць.*

*Захаваўшы усё, канешна,*
*Што й тады было ў цане,*
*Што было Юстыну смешна*
*У паганскай даўніне.*

*А чаму ў сваёй паэме*
*Пасяліў ён не людзей —*
*Продкаў нашанскага племя,*
*А нячысцікаў-чарцей?*

*Каб чыталі як забаўку,*
*Ён прыдумаў хітры ход,*
*Быццам піша казку-байку,*
*А не праўду пра народ.*

*Гэтай хітрасцю і сёння*
*Карыстаюцца пісцы,*
*Каб абачліва-рэзонна*
*Небяспеку абыйсці.*

**2015 г.**

## Сходка нячысцікаў

**Юстын з ліцвіноў**

***Паэма XVI-га стагоддзя***
***На сучасны беларускамоўны***
***лад перарабіў Ніл Гілевіч***

*У гнілой дзіцы, на твані,*
*Чэрці ўселіся гуртом —*
*Перад оберам па званні*
*Грозным цмокам Кадуком.*

*На чарговую нараду*
*Іх сабраў галоўны чорт,*
*Каб, з надбаўкай да акладу,*
*Надаваць і ў хвост, і ў горб.*

*Ён абвёў чарцей вачыма*
*(А ў паглядзе — люты гнеў!)*
*І, адкашляўшыся чынна, —*
*«Пачынаем! — прагрымеў. —*

*Сёння я вас, паласатых,*
*І належна паскублю,*
*І па чыну, па пасадах,*
*Перастаўчкі зраблю.*

*Вы — адрынутыя небам.*
*Я — прыгрэў вас, прытуліў.*
*Даў у лапы бохан хлеба*
*І пасадай надзяліў.*

*Да мяне вы што тут елі?*
*Церабілі шчаўе ў смак?*
*А на курава што мелі?*
*Толькі сушаны каўцяк!*
*Ну а сёння? Хай хто зманіць,*
*Што я выдаў горшы сорт.*

*Гэткіх «Мальбара» не смаліць*
*Ні адзін на свеце чорт!*

*Дзе ж аддача ваша, чэрці,*
*За спажытае дабро?*
*Я не бачу шчырай хэнці*
*Браць «тутэйшых» за рабро.*

*Наша зона — Балацянка.*
*Мы тут, мы — гаспадары!*
*Нам слугуюць, нас баяцца*
*Гэтай зоны жыхары.*

*Ды скажыце аткравенна,*
*Без ухмылак і грымас:*
*А ці ўсе слугуюць верна?*
*А ці ўсе баяцца нас?*

*Ёсць злачынная кагорта,*
*Кожны выхапень якой*
*Хоча быць хітрэй за чорта,*
*Хаб і харч мець і спакой.*

*Быць хітрэй за нас, хвастатых?*
*Но ведзь ета жа абсурд!*
*Дык чаму ж мы больш*
*заўзята*
*Не драпежым гэны гурт?*

*Ваабшчэ вы вочань плоха*
*Службу правіце ў мяне.*
*Кожны дзеіць, як прайдоха:*
*Чэсць і гонар — не ў цане.*
*<…>*

*А свядомыя занадта*
*Балацянцы гаварась:*
*«Мы так чуемся выдатна,*
*Што на ўсіх чарцей начхаць!»*

*Чулі? Ім начхаць, нікчэмцам,*
*На вялікі ўвесь наш род!*
*Грэх цярпець такое чэрцям,*
*Як вады набраўшы ў рот!*

*Калі ў пекле самы прыпар*
*І ў катлах кіпіць смала —*
*Так угневаўся Люцыпар,*
*Аж праслаў ка мне пасла.*
*<…>*

*Грозны цар мяне прымусіў*
*Меры жорсткія прыняць.*
*Хош ня хош, а я вазьмуся*
*З вас работу спаганяць.*

*Дамавік! Ты служак маеш —*
*Крыксаў, плаксаў — не злічыць.*
*Дык чаму ж не пасылаеш*
*На малых дзяцей начніц?*

*Пачаму твае красоткі*
*Не казычуць іх насмерць?*
*Правіць дзела трэба ўсё-ткі*
*Усур'ёз, а не на смех.*
*<…>*

*Вадзянік! Табе далжон я*
*Прад'явіць асобы шчот:*
*Пачаму ў нашай зоне*
*Мала топіцца народ?*
*<…>*

*Што ж ты мне за памагаты?*
*Я — Кадук ці не Кадук?*
*Пачаму ж мае загады*
*Выпаўняеш — ліш бы з рук?..*
*<…>*

*Ну а ты, хітрун Балотнік?*
*Дзе твая работа? Дзе?*
*Што паважнічаць ахвотнік,*
*Гэта знана грамадзе.*

*Начапіў сабе гірлянды*
*Багавіння, жаб, смаўжоў,*
*А на службе — сімулянт ты:*
*Павярнуўся — і пайшоў.*

*Жыцень! Я табе даверыў*
*Самы важны хлебны пост.*
*Ты ад шчасця зубы шчэрыў*
*І трымаў трубою хвост.*

*Абяцаў-суліў ізлішкі*
*З кожнай нівы і грады.*
*Дзе ж падзвіжкі? Дзе падзвіжкі?*
*Растуды тваю туды!*

*Ты, Лясун, лайдак хітрушчы,*
*Не пільнуеш лес ані.*
*Скора ўжо ад нашай пушчы*
*Застануцца толькі пні.*

*Ну дык вось маё рашэнне:*
*Годзе ў лесе лынды біць.*
*Пойдзеш, чорт, на паніжэнне:*
*Будзеш Хлеўнікам рабіць.*

*«Ну і што за стыд, што Хлеўнік?» —*
*Прашаптаў сабе Лясун. —*
*Ліш бы ў жонкі не нахлебнік!*
*Ліш бы добры быў нясун!»*

*Ну, а Хлеўніку ўжо годзе*
*Дыхаць гноем — і таму*
*Надаю, пры вашай згодзе,*
*Званне Лазніка яму!*

*Лазню топяць штосуботу,*
*Дык, схаваўшыся ў куток,*
*Хай там цешыцца ўдоволь*
*З голых бабаў і дзявок.*
*<…>*


Ілюстрацыя К.Сідарава

*Закрываючы нараду,*
*Мушу йшчэ пра тых сказаць,*
*Хто імкнецца нашу ўладу*
*Абяссіліць, падарваць.*

*Пра так званых «добрых духаў» —*
*Гэных чысценькіх, святых;*
*Каб народ тут іх не слухаў —*
*Трэба ўзяцца нам за іх.*

*Каляду, Купалку, Лёлю,*
*Ладу, Бордзю, Белуна*
*Трэба сцапаць — і ў няволю,*
*Па кадык у вонь багна!*

*Чэрці мы — ці цямці-лямці?*
*Колькі ж можна іх цярпець?*
*Колькі будуць балацянцы*
*Ім хвалу на ўзгорках пець?*

*Ну няўжэлі вам не ясна,*
*Як нам быць і што рабіць?*
*Паўсямесна і ўсёчасна*
*Трэба біць іх, біць і біць!*

*Вось і ўсё. На гэтым кропка.*
*І ніякіх больш размоў!*
*Наш дэвіз — наказ ад продкаў:*
*Болей справы — меней слоў.*

*Наша сходка — не кірмаш.*
*На работу — шагам!.. арш!*

**2000, 2015 гг.**

**Цалкам паэму «Сходка нячысцікаў» вы зможаце прачытаць у 6-ым нумары часопіса «Дзеяслоў» за 2015 год обо на сайце www.dziejaslou.by**

# Плошча

## Фрагменты аповесці пра снежань 2006 года



Барыс ПЯТРОВІЧ

Як ні стараўся Трачыла падысці да камеры ціхенька — дзяўчаты ўсё роўна яго чулі, і толькі ён прыладжваўся да «вочка» ў дзвярах, хто-небудзь падаваў голас: «Зноў прыпёрся!..».

Святло ў камеры на ноч не выключалася. Цьмяна-жоўтая «дзяжурная» лямпачка над дзвярыма — чытаць пад якой было немажліва: балелі і слязіліся вочы — тым не менш, невялікае памяшканне з незразумела-бруднага колеру сценамі асвятляла даволі ясна. Трачыла заглядваў у «вочка» і глядзеў на дзяўчат, якія спалі, зусім не думаючы, што за імі нехта будзе назіраць: у разняволеных, на колькі можна гэта на цесных нарах, паставах... Трачыла сцішваўся за дзвярыма і пачынаў тое, дзеля чаго і прыйшоў. У нейкі момант ён забываў, дзе знаходзіцца, і таму ягонае дыханне ды юрлівы шоргат аднойчы пачулі дзяўчаты, якія не спалі. Пасля гэтага яны не давалі яму мажлівасці нават прыпыніцца каля іхняй камеры. Як толькі ён падыходзіў, адразу сярод дзяўчат пачыналася гульня ў досціп.

— Зноў прыпёрся, Трачыла? А сюды, да нас, слабо?

— Пэўна, няма чым хваліцца...

— А жонка ў цябе ёсць?

— Лічыка пакажы, пакажы сваё лічыка, Трачыла, мо я цябе пакахаю?..

— Лычыка ён пакажа, лычыка... — гэта Тацянка азвалася, як заўсёды трапна. Звонкі дзявочы смех пакаціўся па камеры. Смех, які, кажуць, разбурае нават кайданы...

Так, і сёння таксама яшчэ ніхто не спаў. Як тут заснеш: заўтра на волю...

Ніколі не бачаны Трачыла, хіба толькі край галавы да правае вока, а яно адно, мо ад непрыязні да гэтага чалавека, здавалася страшна непрыгожым, свіным, з даўгімі чорнымі павекамі, не адгукаўся, моўчкі рабіў сваю справу. У першую ноч, калі яго пачулі, ён было збег, але, відаць, не ад сораму, а ад нечаканасці; жаданне, аднак, аказалася мацней, і ён вярнуўся да вакенца і больш ужо не ўцякаў, пакуль не скончваў сваю справу — толькі агідна соп ды хакаў.

Марыйцы, як і ўсім, было брыдка і гідка гэта, але яшчэ непрыемней было ёй распачынаць выкрыкі на адрас Трачылы. Для іншых дзяўчат, асабліва для старэйшых, была то яшчэ і нейкая разнастайнасць у турэмным жыцці, а яна адварочвалася да сцяны і пачынала думаць пра што-небудзь сваё ці ў думках пісаць дзённік, які яна пачала «весці» тут. Да таго неяк не заўважалася, а цяпер ляжаць ёй на голых дошках было мулка, няёмка, хацелася павярнуцца на другі бок, але яна не жадала сустрэцца позіркам з тым пахаблівым вокам Трачылы, і цярпела нязручнасць. Сон, яшчэ і праз гэта, не ішоў і яна думала, думала, думала... Гэтая ноч, потым дзень, вечар, і ёй — на волю. Дзякуй Богу, усё некалі сканчваецца, скончыцца і гэта... А вось успаміны — застануцца. І не толькі пра дні ўвязнення, але і пра тыя, незабыўныя, можна сказаць шчаслівыя дні і ночы на пляцы Каліноўскага...

Той вечар дзевятнаццатага сакавіка яна чакала. Чакала без асаблівай надзеі на нешта, але чакала. Чаму без надзеі? Ды таму, што яшчэ да пачатку было зразумела, чым скончацца чарговыя «выбары»: уладу сваю, а яна стала сапраўды «сваёй» для пэўнага кола, ніхто не аддасць, бо страта ўлады азначала б не проста гублянне імі свайго панавання, а фактычна — смерць. Для многіх не толькі палітычную, але і... Зрэшты, што цяпер пра гэта казаць: яны засталіся, зрабілі ўсё, каб застаўся іхні кумір, а значыць, нічога не зменіцца не толькі для яго, але і для ўсіх, хто вакол, хто прыжыўся і нажыўся пры ім... Бо адзінае, чаго яны баяліся і не хацелі, — гэта пераменаў.

Так, надзеі не было. Быў адчай, была горыч, што зноў падманулі. І было жаданне пайсці на плошчу. Хай і з рызыкай, што ніхто больш не прыйдзе. Бо дужа ж запалохвалі людзей па тэлевізіі перад тым. Страху на народ нагналі! Асабліва на тых, хто і не збіраўся ісці на мітынг, ды мо і не хадзіў ніколі на нейкія іншыя «несанкцыянаваныя акцыі». Марыйка заўважыла гэта і па сваіх аднакурсніках, якія яшчэ за тыдзень да таго храбрыліся-харахорыліся, а потым неяк разам замоўклі, і ёй нават няёмка было пытацца ў іх: ці пойдуць?

Яна ішла на плошчу адна, ішла не загадзя, а якраз пад прызначаны ў абвестках час: недзе без пяці сем гадзінаў вечара была ля крамы «пад гадзіннікам» насупраць КДБ. І насцярожана заўважала, што не адна яна набліжаецца да Кастрычніцкай плошчы. Ішла і думала: ці пусцяць сёння людзей на плошчу, ці мо яна акружана некалькімі шэрагамі амапаўцаў, як бывала звычайна, і людзей пачнуць хапаць ужо на падыходзе і закідваць у аўтобусы... Навучаная ранейшым досведам, міжволі ўзіралася далёка наперад, каб улавіць там нейкія рухі і перастрахавацца. Аднак нічога падазронага не было. Побач і насустрач ёй ішлі, здавалася, звычайныя мінакі. Вось і плошча: праход свабодны, міліцыянтаў не відаць, пэўна, загадзя пралічылі «пераможцы», што людзі сюды не пойдуць, пабаяцца запалохванняў. Колькі апошніх дзён па тэлевізіі круцілі выступ старшыні КДБ, які казаў, што ўсіх, хто выйдзе 19 сакавіка на менскую Кастрычніцкую плошчу, залічаць у экстрэмісты-тэрарысты, і іх чакацьме альбо пажыццёвае зняволенне ў турме, альбо... расстрэл. Так, расстрэл. І паварочваўся ж язык казаць такое да свайго народа... Але гучала гэта страшна і пераканаўча. А перад тым прайшлі арышты — прэвентыўныя — сярод актывістаў апазіцыі, тых, хто мог, нягледзячы ні на што, выйсці на плошчу: больш за сто чалавек ужо сядзелі ў турмах. І зусім смешны выпадак — тут яны перастараліся, паказалі, што і ў іх нервы здаюць: нейкі хлопец, які нібыта прайшоў навучанне ў Грузіі, каб сарваць выбары і скампраметаваць немінучую «элегантную» перамогу, расказваў з тэлеэкрана, што ў Тбілісі яго навучылі, як атруціць ваду ў менскім гарадскім вадаправодзе: злавіць пацука, забіць яго, гнаіць два тыдні ў вядры з вадой, а потым падкінуць у вадаправод і тым «дэзарганізаваць выбары прэзідэнта»...

Марыйка ўсміхнулася і цяпер, згадаўшы той выступ. Улады тут паказалі сваю слабасць і тым, мажліва, шмат у каго, хто і не збіраўся ісці на плошчу, абудзілі цікавасць...

Але смех-смехам, цікавасць-цікавасцю, а яна ішла на мітынг і сур'ёзна думала, што нікога на плошчы не будзе, а тых, хто ўсё ж пойдзе да яе, пахапаюць на падыходзе. Тым болей, што ўлады сабе рукі развязалі: ужо вядома, што перамога на іх баку і яны застаюцца яшчэ на адзін тэрмін, а значыць, можна дзейнічаць смела, бязлітасна, без аглядкі і без боязі, што за жорсткасць давядзецца адказваць. Навошта ў такім выпадку ёй ісці «пратэставаць»? Чаго тым даб'ешся, што каму дакажаш?.. Але Марыйка ішла, бо да-ста-ла ўжо, бо колькі можна дурыць народ, спадзеючыся, што ніхто не адважыцца нават пікнуць... Ішла, хутчэй, з адчаю, хоць мама і прасіла яе: не ідзі... Сяброўка маці была ў выбарчай камісіі на нядаўніх парламенцкіх выбарах і са слязамі на вачах расказвала, як прымушалі іх «правесці» патрэбнага ўладам кандыдата: давялі план загадзя, колькі працэнтаў галасоў на іхнім участку ён павінен набраць, а ў іх атрымалася, што перамог апазіцыянер, а прадстаўнік уладаў не набраў і дзесяці адсоткаў, і тыя — пры папярэднім прымусовым галасаванні... Яны падлічылі і ціха, самі сабе, парадаваліся. Старшыня камісіі павезла пратакол у раён, а сябры камісіі, як звычайна, сталі рыхтавацца адзначыць заканчэнне працы.




Фота Леаніда Варламава

Накрылі стол — торт, гарбата, кава, адкаркаванае чырвонае віно прытоена ля ножкі стала, а старшыні ўсё няма. Потым прыязджае заплаканая і кажа: дзяўчаты, трэба перапісаць пратакол, лічбы павінны быць вось такімі — і паказвае на паперцы: 90 адсоткаў за кандыдата ўладаў... А як жа нашыя падлікі? А ніяк... А як галасы людзей? Ніяк... Трэба перарабіць і ўсё: інакш на працу заўтра можна і не йсці. Ды, зрэшты, што перажываць! Усе так робяць... І ніхто ведаць не будзе, ніхто не абурыцца... А разам і бацьку не страшна біць (тут лепш сказаць — служыць...). Перапісалі, што ж рабіць... Можна з пэўнасцю сказаць, што і сапраўды, так было не на адным іхнім участку. І не толькі на тых выбарах, а і на гэтых... У Беларусі з 1995 года перамагае той, хто падлічвае галасы. Аксіёма.

Так, амапаўцаў вакол плошчы не відаць, пэўна, як звычайна, сядзяць у сваіх машынах у блізкіх, навакольных дварах, і нагняюць у сабе злосць на праклятых апазіцыянераў, што не даюць ім па гэтым холадзе быць дома, з сям'ёй, а вымушаюць сядзець у прамерзлых аўтобусах... Было і сапраўды халаднавата, хоць другая палова сакавіка, але зіма яшчэ не адступала. Пакуль ішла, Марыйка марозчыку не заўважала, а прыпынілася трохі, і шчокі прыхапіў жарсцвяны сівер. Зірнула на гадзіннік — без хвіліны дзевятнаццаць. Наперадзе, на плошчы, некалькі купак людзей — зусім мала. Сярод іх ці не большасць знаёмых ёй твараў — з папярэдніх акцыяў, з сустрэчаў на розных імпрэзах, вечарынах, — усё больш «свядомыя» са студэнтаў, пісьменнікаў, мастакоў, ёсць і незнаёмыя, але пра іх адразу можна сказаць, што то пераапранутыя стукачы. Зрэшты, і сярод гэтых было нямала ўжо знаёмых з тых жа ранейшых акцыяў. Звычайная справа: спачатку аціраюцца, прыкмячаюць актывістаў, а потым, у адзін момант, па камандзе «Начали!», накідваюцца, валяць з ног, хапаюць ды цягнуць нахабную апазіцыю ў легкавікі. І там скручваюць, збіваюць, каб больш не хацелася пратэставаць...

Марозчык на ноч узяўся няслабы, але Марыйка і Алесь не заўважалі холаду ў намёце, які стаў для іх укрыццём ад усяго на свеце, ад усяго свету. Ім трэба было пабыць адным, хай і на плошчы сярод тысячаў людзей — і намёт дазваляў гэта зрабіць. Ім шмат пра што трэба было распавесці адно аднаму. І выказаць тое, што перадаецца не словамі, а толькі праз няўлоўны поціск рук, праз позірк вочы ў вочы, і ніяк інакш... Што і казаць, Марыйка сумавала па Алесю і часта згадвала пра яго, хоць і не хацела сабе прызнавацца ў гэтым. А тым болей, відаць, — Алесь. Віна перад дзяўчынай, якую ён па-здрадніцку пакінуў некалі, не давала яму спакою. І цяпер у яго з'явілася мажлівасць выгаварыцца. Не апраўдацца, не... а проста выгаварыцца, нават без надзеі на дараванне.

Праз столь і бакавіны намёта прабівалася святло ліхтароў з плошчы, але было цёмна, і гэта таксама спрыяла шчырасці і адкрытасці. Яны бачылі толькі вочы адно аднога зусім блізка, якія гарэлі, палалі агнём, блізкасць дыхання і целаў узбуджала яшчэ больш, і Алесь зусім перастаў саромецца самога сябе, нядаўняга няўдалага кавалера і самагубцы. Ён баяўся толькі аднаго: быць няшчырым і каб гэтую, мажлівую, няшчырасць не адчула Марыйка. Ага, баяўся ён яшчэ аднаго: страціць яе зноў — цяпер ужо назаўсёды.

Марыйка бачыла гэта і слухала ўважліва, не перабівала, не перапытвала, хіба тады, калі ён расказваў, як сядзеў на краі даху і глядзеў у такі блізкі і зусім нястрашны туман, мацней сціснула ягоную руку... Ён і сапраўды шмат перадумаў і зразумеў там, у адзіноце, на даху. Чаму самагубцаў не любяць і не апраўдваюць практычна ні ў адной з рэлігіяў? Бо здаецца, скарыцца абставінам вельмі лёгка, а пераадолець іх, перамагчы — няпроста, не кожны на тое здольны. Для таго, каб засіліцца ці скочыць уніз са шматпавярховіка, мужнасці не трэба, значна цяжэй «зрабіць жыццё» (памятаеш верш Маякоўскага, прысвечаны Ясеніну? — спытаў Алесь). Шлях да ісціны палягае праз памылкі і выпрабаванні, спадзяюся першыя і самыя важныя я прайшоў, казаў Алесь. Я паглядзеў у вочы смерці і цяпер яе не баюся. Яна сама прыйдзе ў адмераны час. Аднак важна прайсці свой жыццёвы шлях, не здрадзіўшы сабе, сваім ідэалам, не схібіўшы нідзе. Тварыць дабро — вось звышзадача. Спакойна, без мітусні, без крыку. І калі хоць адзін чалавек стане лепшым, дзякуючы стасункам са мною, навучыцца заўважаць клопаты, турботы, боль іншых, як свае, калі хоць аднаму з маіх бліжніх будзе лягчэй ад таго, што я ёсць побач, — значыць, я жыву не дарэмна... А калі я дапамагу дзясяткам, сотням...

Алесь замоўк раптам, закончыўшы тым расповед, і толькі цяпер яны адчулі, што зусім замерзлі ў намёце, што закляклі іх целы і што трэба размяцца, каб не захварэць. Выйшлі на святло. Было гадзіны дзве ночы. 2.15 — дастала тэлефон і паглядзела Марыйка. (Між іншым убачыла

— мама званіла разоў дзесяць. Але тэлефанаваць ёй не стала — позна ўжо турбаваць…) Больш за дзве гадзіны праляцела для яе, як адно імгненне. Намётавае мястэчка, а яго ўжо можна было назваць так, налічвала… Марыйка адышла ўбок — раз, два, тры… васямнаццаць намётаў, з тых першых чатырох, у адным з якіх і «пасяліліся» яны з Алесем. Пасярод на дыванках было ўтворана нешта кшталту складу, куды ставілі тэрмасы з гарбатай, прадукты, цёплыя рэчы — усё гэта, аказваецца, людзі пачалі прыносіць сюды амаль адразу пасля ўсталявання першых намётаў. Значыць, яны за размовай прапусцілі шмат важнага і прыемнага. Вакол было шумна і, можна сказаць, весела. Намётавае мястэчка было абкружанае двайным колам хлопцаў і дзяўчат са сцягамі — ахова. Марыйка ўзлезла на бетонную агароджу вакол уваходу ў метро і агледзелася. Была глухая ноч, але чалавек пяцьсот заставаліся на плошчы. Міліцыянты, а яны ўжо былі тут, стаялі паводдаль. Сярод людзей Марыйцы і Алесю падалося цяплей, чым у намёце. Да іх падышоў хлопец, які, па ўсім, стаў галоўным у мястэчку, каб пазнаёміцца: хто яны і адкуль, размеркаваць абавязкі. А потым, да раніцы, каб не замерзнуць, яны прыдумлялі нейкія гульні, таньчылі, бегалі, штурхаліся, стараліся падтрымаць, падвесяліць адно аднога. Аднак гэта ўдавалася з цяжкасцю — сама атмасфера не спрыяла весялосці. Начное неба вісела нізка-нізка і ціснула на іх усім сваім целам, і ўвесь час не пакідала адчуванне, што за імі сочаць сотні вачэй…

Тое, што ўлады апамятаюцца ўрэшце рэшт і разбураць мястэчка, усе ведалі ад пачатку. Толькі калі гэта будзе? Наколькі хопіць цярпення ў міліцыянтаў, гэбістаў і ў тых (у таго), хто над імі? Бо Плошча была для ўладаў як бяльмо на воку, як пастаянны напамін, што ў краіне ёсць нязгодныя з вынікамі выбараў, а значыць, пэўна, і сапраўды нешта не так… і гэта бачыць і пра гэта задумваецца ўвесь свет. Да таго ж, наперадзе быў Дзень Волі, у які на менскія вуліцы раней штогод выходзілі дзясяткі тысячаў мітынгоўцаў, каб адзначыць Свята Волі. І гэты дзень можа даць штуршок пашырэнню пратэсту і павелічэнню намётавага лагеру. А значыць, улады не дадуць моладзеваму мястэчку даіснаваць да 25 сакавіка… І таму кожная ноч была напоўненая чаканнем штурму. Хлопцы і дзяўчаты трывожна ўслухоўваліся ў пошум, які далятаў з двароў. Напруга ўзрастала і тады, калі да ачаплення падыходзілі правакатары з бэрэсээмаўцаў ды гэбістаў. Праўда, не выключана, што часам ішлі да лагеру і звычайныя людзі, ачмураныя прапагандысцкай тэлехлуснёй пра «адмарозкаў», якім Захад плоціць грошы, каб яны падрывалі аўтарытэт прэзідэнта. Прыходзілі «лукашысты» звычайна падвыпілыя. Пэўна, для смеласці — усё ж ішлі на «подзвіг», прыходзілі і пачыналі здзеквацца з тых, хто стаяў у ланцугу аховы, абліваць слоўным брудам, матамі. А калі не знаходзілі слоў, кідаліся біцца.

Так, правакацыяў і хамства было шмат. Ноччу агрэсіўных, а ўдзень — паказных, для тэлебачання: хтосьці раптам станавіўся між камерамі і намётавым гарадком і, задраўшы галаву, піў з горла гарэлку. І гэтыя кадры ішлі ў эфір…

…Адышлі ўбок журналісты і афіцыйныя асобы з іншых краінаў: іх папрасілі гэта зрабіць міліцыянты — груба і настойліва (потым высветліцца, што пакінулі мястэчка не ўсе…). Стала зразумела: хутка пачнецца штурм. «Каліноўцы» выйшлі з намётаў, сталі вакол іх двайным-трайным ланцугом. Хтосьці скамандаваў прысесці: маўляў, так будзе цяжэй іх хапаць.

Назіраючы за манёўрамі амапаўцаў у поўным баявым абмундзіраванні, за якое іх ахрысцілі «касманаўтамі», зноў жа, экіпіравалі іх гэтак напярэдадні выбараў (во куды грошы дзяржаўныя ідуць…), хлопцы і дзяўчаты спачатку ціха, а потым усё гучней і гучней пачалі скандаваць той лозунг, які не раз гучаў над плошчай: «Міліцыя з народам! Міліцыя з народам! Міліцыя з народам!..»

Так, толькі з якім?

Пад'ехалі яшчэ машыны, амапаўцы выскачылі з іх, імкліва і шчытна акружылі мястэчка: так, каб ніхто не змог сысці. Сталі вакол метрах у трох-чатырох. Нейкі начальнік крычаў у гучнагаварыльнік, што гэта несанкцыянаванае мерапрыемства і «прасіў» разысціся. Ага, зараз… Куды ўжо тут разыдзешся… Не адыдзеш і пару крокаў, як арыштуюць. Цішком… Дык няхай лепш зробяць гэта тут — на вачах ва ўсіх і з усімі разам. Не дзеля таго мы тут збіраліся, каб разбягацца… Хлопцы і дзяўчаты яшчэ шчыльней згрупаваліся і ўзяліся за рукі. І тут некалькі чалавек выкінуліся з ланцуга і пабеглі ўбок аўтобусаў. Іх ніхто не чапаў. Потым казалі, што гэта былі «падсадныя», якія выбеглі з лагера да сваіх.

Марыйка была ў ачапленні разам з Алесем. Побач сядзелі хлопец і дзяўчына і маліліся Богу, прасілі, каб не было ахвяраў, каб злітаваўся над неразумнымі, якія не ведаюць, што робяць… Крыху далей малілася яшчэ некалькі чалавек. Музыка сціхла, мікрафон узяла прыгожая, сталая жанчына (маці-ахоўніца, падумала Марыйка), і пачала казаць да амапаўцаў, што мы адзін народ і не трэба гвалту, вы такія ж людзі, як і мы, і ў вас ёсць дзеці, каханыя… не пралівайце крыві!.. тут жа лепшыя дзеці нацыі!.. Але ніхто яе не слухаў, вочы ў амапаўцаў пад паднятымі шклінамі «шлемафонаў» былі глыбокія і страшна пустыя, глядзелі яны некуды паўзверх «каліноўцаў», стаялі моўчкі, некаторыя нават, падалося, пасміхаліся, і ў тым, як нярвова торгалі яны шчытамі і гумавымі палкамі, было відаць, што ў іх цяпер адно жаданне: накінуцца і разламаць, разбіць, разбурыць, разнесці гэта ўсё… Не дзіва, накачалі іх супраць «адмарозкаў» здорава… Марыйка падняла галаву і ўбачыла за праспектам, каля Дома афіцэраў, Паўлічэнку. Таго самага… У «крапавым» берэце… Стаіць, назірае… Усё, падумала яна, мястэчку канец…

Яна пачула яшчэ, як нехта сказаў: «Памятайце, за намі праўда!» — і ўбачыла, як да яе кіруюць два амбалы- «касманаўты», якія чамусьці вылучылі ў коле «каліноўцаў» менавіта яе. Справа і злева амапаўцы накінуліся на людзей у ачапленні, пачалі выцягваць па адным. «Местачкоўцы» не супраціўляліся, але чапляліся за сваіх да апошняга, і гэта было горш для іх, бо міліцыянты сталі раз'ярвацца і забывацца, у ход пайшла жорсткая, брутальная сіла… Тым часам амбалы («двое з ларца», падумала Марыйка) падышлі, нагнуліся, схапілі Марыйку за ногі і пацягнулі. Алесь трымаў яе за рукі, за плечы, але было дарэмна… Ён зразумеў гэта і, каб не было горш, адпусціў Марыйку, і амбалы пацягнулі яе да машыны. Краем вока Марыйка бачыла, як Алесь кінуўся ўслед за ёй і як быў звалены ўдарам «касманаўта» ў грудзі…

Ачомалася яна ўжо ў аўтазаку пад крыкі: «На пол, сволочи! Лежать, суки!», і маты, маты, маты… Грубыя, істэрычныя… Яна даўно не чула, каб людзі так лаяліся: брыдка і з такой лютасцю. Марыйка ляжала на падлозе, і на яе выцягнутую нагу нехта прысеў і ціха стагнаў…

Што сталася з Алесем, яна не ведала… Праз некалькі хвілінаў усё было скончана: шэсць брудна-зялёных «МАЗаў»-аўтазакаў, напоўненых людзьмі — усяго амапаўцы арыштавалі каля пяцісот чалавек — ад'ехалі ад плошчы…

Марыйка абаперлася на руку, каб устаць — падлога ў машыне была мокрай і ліпкай ці то ад расталага снегу, ці то ад крыві. Агледзелася: у многіх хлопцаў былі разбітыя насы, твары, значыць, можа, гэта і кроў… У цемры яна здавалася брудам на руцэ, страшным ліпкім брудам. Як у фільме жахаў…

Што з намі будзе? Куды нас вязуць?.. Марыйцы падалося — за горад. Пытанне гэтае вісела ў паветры, і нехта не вытрываў і спытаў у амапаўцаў, што сядзелі і рагаталі паперадзе, — узбуджаныя, разгарачаныя, задаволеныя. Ціха так спытаў: «Куды нас вязуць?». Не ў амапаўцаў нават спытаў, а ў паветра.

«Как куда? В Курапаты, в карьер!» — адказ у амапаўцаў быў гатовы, і яны завяліся яшчэ больш: «Молоденьких будем насиловать — радуйтесь! — а остальных так расстреляем…». І тут жа да адной дзяўчыны, што была бліжэй да іх: «Вас, девушка, где расстрелять: под сосной или под берёзой?». Дзяўчына заплакала. А амапавец не спыняўся: «Не плачь, твоя смерть будет на пользу Беларусии!». Такія жарты ў той сітуацыі нават Марыйка ўспрымала зусім не як жарты…

Прывезлі іх не ў лес, а ў сумнавядомы спецпрыёмнік-размеркавальнік на Акрэсціна, у двор. Выстраілі ў некалькі шэрагаў уздоўж доўгіх белых сценаў пад святлом сляпучых пражэктараў. «Лицом к стене! Не оборачиваться! Смотреть только вперёд! Не разговаривать!» — працягваўся той самы ўціск, каб запалохаць, асабліва моладзь, якая такой грубасці яшчэ не бачыла ні ў войску, ні ў пастарунках. «Бомжи! Шлюхи! Суки вонючие — революции им захотелось! Расстрелять вас всех мало…» Паўз шэрагі прайшлося нейкае начальства: «Отключить мобильники! Вынуть шнурки из обуви!». Потым усіх здымалі на відэа, вылучалі ў шэрагах непаўнагадовых і кудысьці адводзілі. На расстрэл? Чаго толькі не падумаеш і чаго толькі не перадумаеш за больш чым чатыры гадзіны стаяння тварам да сцяны на холадзе — з амаль чатырох гадзінаў ночы і да васьмі раніцы… Калі хто прасіўся ў прыбіральню — не пускалі. Марыйцы заставалася толькі «вывучаць» бетонную сцяну перад сабою — да кожнай драпінкі, да кожнай непрыкметнай спачатку шчылінкі, кожнай дробнай ямінкі і кожнага бугарка… Яна запомніла тую брудна-белую сцяну на ўсё астатняе жыццё. Стаяла і баялася толькі аднаго: упасці, бо бачыла, як адцягвалі за рукі некуды тых, хто падаў. Куды? Ніхто не ведаў. Добра, калі ў лазарэт, у бальніцу. Але тады гатовыя былі б упасці ўсе, а не стаяць тут, пераадольваючы стому і бяссілле… Спіна здзервянела, рукі, здаецца, прымерзлі да сцяны, не адарваць…

Нарэшце пачалі па чарзе адводзіць у кабінет і складаць пратаколы. Фармулёўка была ва ўсіх адна — паперы, спісаныя неразборлівым почыркам, ляжалі на стале перад міліцыянтамі: «Учавствовал(а) в несанкционированной акции… Выкрикивал(а) антигосударственные лозунги…» і г.д.

Менавіта так, з літаркамі «а» у дужках…

Суд быў кароткім. Пра неабходнасць выклікаць адваката нават і не спыталі, а яна не ведала, што можа патрабаваць. Суддзя, жанчына амаль сярэдніх гадоў, спытала: «На площади была?». «Была?» «Раскаиваешся?» «У чым?..» «Лозунги, как тут написано свидетелями в протоколе, выкрикивала?» «Як і ўсе…» «Десять суток ареста…», — яна нават не назвала артыкул, па якім асудзіла Марыйку.

Марыйка зірнула на яе стомленыя вочы: суддзя таксама была загнаная гэтым канвеерам ажно да абыякавасці да таго, што адбываецца, — і не стала ўдакладняць: дзесяць — дык дзесяць…

…Ішлі дні за днямі. І вось ужо заўтра, так, заўтра — на волю. Іх выпусцяць, вядома ж, ноччу, у тры гадзіны. Фармальна выканаюць закон: акурат у тры гадзіны ночы споўніцца роўна дзесяць сутак з часу арышту. Так, толькі фармальна… Бо прычына начных вызваленняў была простай: ноччу будзе меншы розгалас і не так шмат людзей прыйдзе сустракаць вязняў. А Марыйка ведала, што «каліноўцаў» з кветкамі і шампанскім па выхадзе сустракаюць дзясяткі людзей. Але што ёй тыя дзясяткі, галоўнае — яна, нарэшце, убачыць Алеся, якога таксама павінны выпусціць у гэты ж час. І маму. Яна мо ўпершыню ў жыцці засумавала па маме…

**2007 г.**

**Плошча была для ўладаў як бяльмо на воку, як пастаянны напамін, што ў краіне ёсць нязгодныя з вынікамі выбараў, а значыць, пэўна, і сапраўды нешта не так… і гэта бачыць і пра гэта задумваецца ўвесь свет**



Фота www.svaboda.org

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 9 (169) | 11 верасня 2020 | № 34 (693) Новы час

# Турма



Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

**Паэма**

**1**
Цяпер, калі ты не са мной,
Не на плячы маім, не побач,
З турмой я засынаю ў поўнач
І прачынаюся з турмой.

З турмы ў турму пішу лісты:
«Каханая мая! Святая!..».
І што не прачытала ты —
Турма ўначы са мной чытае.

Збірае ўсе да аднаго
Мае маленні, таямніцы,
І тое сніць са мной, чаго
Табе ніколі не прысніцца.

Я цалаваўся з ёю ў сне,
Яна ў маіх абдымках спала!
«Ты закахаешся ў мяне!» —
Турма мне горача шаптала.

І не было такога сна,
Каб у якой нары ваўчынай
Табой не снілася яна
І не была маёй жанчынай.

У пошуках уцех начных
Яна мяне ва ўсіх эпохах
Цягала тайна па сваіх
Скляпеннях,
сутарэннях,
лёхах.

І ўсё, што бачылі яны,
І ўсё, што чулі сярод ночы,
Турма ў мае ўплятала сны,
Якімі засціла мне вочы.

І голасам тваім турма,
Душу мне змучыўшы да болю,
Шаптала, што пішу дарма
Лісты
з няволі
у няволю.

**2**
Каханая! Цябе адну
Кахаю!.. А турма змяёю
Шыпіць, вартаючы са сну,
Дзе зноў табе я здрадзіў з ёю.

Ва ўсім падманка і падменка,
Яна спяшала ў сон: «Хутчэй!..».
І падала
твая сукенка
З яе аголеных плячэй.

Каб мне
табой
да ранку сніцца,
Яна пярсцёнак залаты
І залатыя завушніцы
Здымала, як здымаеш ты.

І кожны жэст — як твой, адзіны,
І кожны рух яе такі,
Як плаўны, лёгкі, лебядзіны,
Лятучы ўзмах тваёй рукі.

**3**
У скуры шоўкавай тваёй
Яна была! Былі на ёй
Твае пагорачкі і лункі,
І я падманваўся змяёй,
Адказваў ёй на пацалункі!
Яна, як выціскала дух,
Пятлёю абвівала цела,
І не адна — з табою ўдзвюх
Маёй каханкай быць хацела.
І блытаў я, не разбіраў
Яе, твае клубы і губы,
І чуючы твой голас любы,
Ад асалоды паміраў.
Я ў гэтай прорве асалоды
Нідзе не даставаў да дна,
І прагнучы яшчэ свабоды,
Стаў забываць:
нашто яна?

**4**
Мне ад Турмы ў турме нідзе
Няма ні сховы, ні збавення,
Паўсюль знаходзіць — і вядзе
У склепы,
лёхі,
сутарэнні.

У сутарэннях — цэлы свет:
Героі... здраднікі... сексоты...
Яны мяне пыталі: «Хто ты?»
Турма адказвала: «Паэт».

«Сексот ён,
здраднік,
ці герой? —
Пыталі здані. — Наш ён? Твой?..
А што паэт, дык нам не дзіва!»
Турма казала: «Ён са мной», —
І здані ўкленчвалі пачціва.

«Ты маніш!» — я крычаў. «Маню? —
Турма пытала. — Не мяне ты
Хіба кахаеш?.. Ах, паэты!..» —
Яна ўздыхала, і шкілеты
Ківалі, доўжылі гульню.

Іх тысячы, мільёны іх
У павуцінні, пыле, цвілі,
І ў іх патыліцах — ва ўсіх! —
Чарнелі дзіры.
Іх забілі.

«За што, Турма?..»
«Ты не ў мяне
Пытайся, а ў суддзі ці ў ката...»
І здані ўсе крычалі: «Не!
Турма ні ў чым не вінавата!»

Яны сцялілі нам кілім,
На ім, не знаючы спатолі,
Кахаўся я з Турмой і Воляй,
І ўжо не помніў:
дзе я?.. з кім?

І ўсё было мне шалу мала,
І ў шале тым у міг любві
Турма ці Воля прашаптала:
«Адна з нас лішняя. Забі!»..

**5**
Ах, Воля, Воля! Вольга, Вольга!
Як мала я цябе люляў,
Як я кахаў цябе нядоўга —
Адно жыццё ўсяго кахаў!
Як мала мела ты дарункаў
І нават абяцанкаў іх,
Як мала ласкаў, пацалункаў,
Абдымкаў дзённых і начных!
І слоў,
якіх магла ты болей
Пачуць!.. Чаму ж не рассыпаў
Я іх пярлінамі прад Воляй,
Як на пярыне з ёю спаў?
Чаму яны цяпер, на нарах
Згадаліся, калі няма
Каму сказаць іх!..
І ў кашмарах
Начных
іх слухае
турма.

**6**
Як позна!..
Божа, як шкадую!
Які на волі вецер дзьме!..
Цяпер, што хочаш, падарую
З таго,
што маю
у турме.
Лісток паперы... Скрыдлік мыла...
І нітачку... Каб ты на ёй
Той крыжык на грудзях насіла,
Які зацалаваны мной.

Каб стаўшы перад абразамі,
Ці Бога ўбачыўшы ў акне,
Ты ўспамінала ўсё, што з намі
Было і не, было і не...

**7**
А што было?
Чаго не стала?
Калі ўсяго было ў нас мала,
Дык што мы страцілі з табой?..
Нічога. Толькі ранак той
У тую тайную нядзелю,
Калі, прачнуўшыся, глядзелі
Я на цябе — ты на мяне...

Ну, што яшчэ?.. У тым акне,
У тых нябёсах зоркі тыя,
Дзве залатыя вартавыя
Той тайнай ночы, у якой
Ты ўпершыню на дотык мой
Заплюшчыла салодка вочы...

Каб нават Бог, апроч той ночы,
Нябёс, дзе зоркі запаліў,
Не даў нам болей анічога,
Дык анічога больш у Бога
Я б не прасіў і не маліў...
А ў нас яшчэ той ранак быў.

**8**
Ах, Воля, Воля! Яска, Яска!
У снах маіх струменіць ласка
Твая — між пальцамі ручай...
Прачнуся:
Ноч.
Турма.
Адчай.

І чую: «Ты не прыручай
Турму — яна цябе прыручыць!
Спачатку прадаваць навучыць,
А потым забіваць!..»
Не ты
Казала гэта, з пустаты
Быў голас, з дальніх сутарэнняў,
Дзе я блукаў між зданяў, ценяў,
Ужо прыручаны Турмой,
Якая зданям: «Ён са мной», —
Кідала, і яны кілім
Сцялілі мне, Турме і Волі...

«З Турмой ты можаш быць нікім,
Ты з ёй... ты ў ёй... таго даволі, —
Той голас доўжыў. — Век ад веку
Турма найперш у чалавеку
Ламае не хрыбет, а дух».

Я адчуваў: цяпер мы ўдвух...

«Так, — ён казаў, — я ў той праклятай
Каменнай камеры дзявятай
На верхніх нарах, як і ты,
Гібеў... Я рваўся з немаmake
З той моваю, што даў нам Бог,
Што не жыве ў нас, а начуе,
І я не вырваўся, не змог!
Ты зможаш, калі Бог пачуе,
Як знойдзеш,
што сказаць Яму...»

**9**
Тайком, на вуха, аднаму
Я ўсё сказаў Яму... Ці мала,
Раз голас той, бы ў сэрцы джала,
Не вырваць — што з ім ні рабі?
Раз Воля ці Турма сказала:
«Адна з нас лішняя. Забі!»

Каго?..

Ні мне, ні ветру ў полі
Няведама —
не знаем мы:
Навошта нам турма без волі?
Навошта воля без турмы?

Бо ёсць адно — як ёсць другое,
Як дым з агнём,
агонь з вадою,
Які шалее без вады,
Як толькі тое дарагое,
Што страчанае назаўжды.
Як тая ноч... той ранак... дотык...
Як Бога шэпт на вуха ўпотай...
Як голас, у якога: «Хто ты?» —
Пытаюся, а мне ў адказ
Ручай між пальцамі — і праз
Глухія сцены чую глуха
Не шэпты Бога мне на вуха,
А стогны з дальніх, цёмных лёхаў,
З усіх вякоў, з усіх эпохаў,
І плач, і енк,
і крык нямы
З абдымкаў волі і турмы!

**10**
Турма ў турме — і воля ў ёй.
Усе за кратамі ў краіне,
Дзе дух крывіцкі нема гіне,
Разняты з моваю сваёй.

Ён тут. Загнаны ў самы дальні
І цесны лёх, у змрочны кут,
Ён тут са мной у катавальні,
Са мной на допытах ён тут.

І калі кат мяне катуе,
І боль дратуе нажавы,
Крывіцкі дух мяне ратуе,
Хоць сам ад болю ледзь жывы.

Як ён Турме не даспадобы!
Яна каля яго заўжды
У чорным, нібы ў дзень жалобы,
Бурносе, нібы ў халады.

Змушае жыць каля парашы
На крапіве і лебядзе,
Не дакладзе паўмісы кашы,
На лусту хлеба абкрадзе.

Найлютаму аддасць канвою,
Каб той зламаў,
скруціў у рог!..
Ён дух... ён вольны... ён з Турмою,

Са мною б развітацца мог.
Але ў падменным і падманным,
Кайданным і закратаваным
Турэмным свеце, у лайне
Мой дух з хрыбтом пераламаным
Не пакідае ўсё ж мяне!

Ён сам абраў такую долю:
Цягнуць мяне з ярма, з дзярма, —
І ненавідзіць больш, чым Волю,
Яго
раўнівая Турма.

**11**
Ах, Воля, Воля! Доля, Доля!
Ты ёсць — і гэтага даволі.
Няхай турма,
няхай адчай,
Усё — між пальцамі ручай...

«Не прыручай, не прыручай,
Як кошку, волю, — чую голас. —
Няхай спазнае холад, голад,
Як рысь,
што выгнана з нары,
У высь
узвые на гары,

Напоўніцца той сілай дзікай,
Што смерчы круціць і віры —
Тады яе ў кулак збяры
І бі, як дзідаю, як пікай,
У чалавечым гушчары,
Крыві не баючыся! Тая
Кроў вольная, яна — святая,
Як на Галгофе, на крыжы...

Вось дзіда.
Бі.
І не дрыжы.
Адна з іх лішняя...»
Якая?..

**12**
І ўдарыў я! І кроў густая
Лінула з дзіды, з вастрыя!

Чыя?..

Тут здані! Тут пустая
Турма ў турме!.. «Яшчэ тут я...» —
На вастрыі змяя шыпела,
Круцілася, нібы кіпела,


Фота www.politeka.net

Спаўзала з дзіды на кілім,
І чуў я на кіліме тым:
«З Турмой ты можаш быць нікім,
А з Воляй быць героем трэба,
Чапляцца, нібы дым, за неба,
І таяць, нібы ў небе дым,
Дзе так бязмежна, так трывожна,
Дзе свет драпежны, свет варожы,
А тут ты ў цёплай агарожы,
У чэраве маім…»

Чым?..

**13**
«Чым? Чым? Чым?» —
Пытае верабейка ранкам
За кратамі.
— Ты быў каханкам
Турмы і волі, — кажа зноў
Той голас. — Ты прайшоў праз кроў.
Забіў. Ты выбраў паміж раем
І пеклам…
— Што?
— Мы выбіраем
Не волю ці турму. Любоў,
Або нянавісць — вось наш выбар.
— Тады чыё я сэрца вырваў?
З кім біўся я?.. Каго забіў?!
— Ты ўсіх забіў, каго любіў,
Бо меў да іх любоў сляпую,
Якую ты, як дзіду тую
Кідаў — а раптам пападзе!
Не ў сэрца, дык у сэрцавіну!
І дзе твае каханкі? Дзе
Твае сябры? І дзе краіна,
Якую слепа ты любіў?
І дзе народ, які ў ёй быў,
Які, як зваць яго, забыўся?..
Збылося ўсё, а ён не збыўся!
І ўжо не збудзецца…
— Чаму?
— Бо любіць волю, як турму!

**14**
О, Божа! Толькі аднаму
Табе
магу сказаць такое!
Народу — нельга! Ён — святое!
Яго нічым не зачапі!..
— Як хочаш піць — бяры і пі,
Інакшай смагу не спатоліш, —
Той голас доўжыў. — Так і з воляй!
Як хочаш волі, дык бяры
Яе абедзвюма! І рукамі ці зубамі ўсё ж
---

**14**
О, Божа! Толькі аднаму
Табе
магу сказаць такое!
Народу — нельга! Ён — святое!
Яго нічым не зачапі!..
— Як хочаш піць — бяры і пі,
Іначай смагу не спатоліш, —
Той голас доўжыў. — Так і з воляй!
Як хочаш волі, дык бяры
Яе аберуч! І памры,
Але трымай яе аберуч!
Хай рыкае драпежным зверам,
Рве жылы, пырскае крывёй —
Пі кроў яе! Яна тваёй
Крывёю стане! І ніколі
Ты ўжо не зможаш
жыць без волі!..

**15**
І піў, не знаючы спатолі,
Я кроў тваю! Кіпела ў ёй
Каханне, пырскала крывёй,
Сцякала па грудзях, якія
Я цалаваў, і па клубах,
Якія абдымаў, і ў пах
Струменіла з клубоў, і тыя,
Акругла-пругкія, літыя,
Як рыбы, то нырца давалі
Да дна жыцця, то, як дзве хвалі,
У вышыню ўздымалі, дзе
Няспраўджанае ў чарадзе
Чакае спраўджання, дзе вечны
Шлях семені, што ў небе Млечны,
А ў нетрах вулканічны шлях:
Шлях лавы, магмы, плазмы…
«Ах!..» —
Ва ўлонне!.. і глыбей!.. і болей!..
Каб Воля нарадзіла Волю!..
З крыві і болю!.. тут!.. пры мне!..

**16**
«Турма народзіцца ў турме!» —
Пачуў я голас, у абдымку
З Турмой прачнуўшыся…
— Дзяўчынку
Ты ад мяне хацеў бы мець, —
Турма натолена спытала, —
Каб Воляй я дачку назвала,
Спялюшкала яе — і ў клець?..

**17**
Ах, воля, воля! Што хацець,
Апроч цябе?.. Дальбог, нічога!

Калі ты не са мной — дарога
Ёсць да цябе, якой іду.

Я не люблю цябе:
ваду
не любяць —
проста п’юць, бо смага.

«Хіба табе са мною блага? —
Пытала голасам тваім
Турма. — Глядзі, які кілім
У нас для ўцехі… Я ж казала:
Ты закахаешся ў мяне…»
«Не!..»
«Ціха… Ціха… Праміне
Усё… На свеце ўсё мінае,
Апроч цябе, мілы, а кахае
Цябе адна Турма, яна
Адна заўжды цябе чакае
І верная табе адна
Яна… Ідзі ў яе… Ідзі…»

І да ўсявышняга суддзі
Ўзмаліў я: «Не судзі!» — і з лёхаў
Рвануўся крык з усіх эпохаў
Насустрач воклічу майму:
«Мы любім волю, як турму!
І ненавідзім так, як любім!..».

**18**
— Вунь здані… Гэта ўчора — людзі,
Што сёння ценямі снуюць, —
Казаў мне голас. — Кружаць роем
Сексоты,
здраднікі,
героі…
Якія ў іх блукаюць мроі,
Якія жарсці ў іх жывуць?
У тым?.. У гэтым?..
Гэй, шкілет,
Ты хто?..
— Паэт.
— За што ж забілі
Цябе?..
— За тое, што паэт.
За тое, што мяне любілі.
— Любілі?
— Так.
— А хто любіў?
— Усе. І тыя, хто забіў.
Яны ў турме мне волю далі.
Турма і Воля абдымалі
Мяне — і клалі на кілім,
Шапталі на кіліме тым:
«З Турмой ты можаш быць нікім,
А з Воляй быць героем трэба,
Чапляцца, нібы дым, за неба,
І таяць, нібы ў небе дым…»
— Я гэта чуў!.. Даволі! Досыць!
— Маўчу, маўчу… Калі так просяць,
Дык калі ласка… Але дзіва:
Я здань,
я прывід столькі год,
А сёння мне чамусьці дзідай
Прабілі сэрца навылёт!
І кроў лінула… з пылу… з цвілі…
Жывая… Хоць мяне забілі
Даўно…
— А хто цябе забіў?
— Мой брат, які мяне любіў.
Турэмны кат.
— Ты быў каханкам
Турмы і Волі?
— Так… І ранкам
Яны прыйшлі і павялі…
— Куды?
— Да ката…

**19**
— На зямлі,
На волі і ў турме дарога
Адна, — той голас доўжыў строга. —
У іх абдымках ты самога
Сябе не знойдзеш, будзеш тым,
Хто выбраў нары ці кілім…
Калі ты чуеш шэпты Бога,
Будзь з Ім — і болей ані з кім!

**20**
«Ты будзь маім, маім, маім,
Са мной, адзінаю, адзіным…» —
Шыпела голасам змяіным
Турма…
Дык не яна на дзідзе
Круцілася?!.
«Хай Воля прыйдзе!» —
Я крыкнуў…
І ўсю ноч Турма
Шаптала мне: «Яе няма…
Яе ніколі ўжо не будзе,
Бо ты прабіў ёй дзідай грудзі
І вырваў сэрца, выпіў кроў…
Цяпер ты вольны… Рык звяроў,
Крык птушак гэткі самы вольны,
Як ты, як дух твой неспатольны,
Што прагне волі зноў і зноў…».

**21**
«Праз волю я згубіў любоў?
Праз волю загубіў паэта?..»
«І не шкадуй, згубіўшы гэта
І ўсё, што згубіш, — доўжыў дух. —
Ніякіх страт, ніякіх скрух
Не бойся! Бо нічога болей,
Чым кроў, пралітая за волю,
Няма чысцей,
няма святсцей.
І кроў старых, і кроў дзяцей,
І кроў каханых волі варта!..»

**22**
Нябесны Ойча! Як я ўпарта
Рабіў усё, што мог зрабіць,
Каб страціць волю! Не здабыць,
А страціць!.. Як так выйшла, Ойча?..
Са мной?.. З усімі?.. Ты аднойчы
Даў волю ўсім нам! Без крыві!
Праз ласку Боскую!.. «Жыві, —
Сказаў Ты ёй, — у гэтым людзе,
Бо без цябе яго не будзе,
Бо без цябе ён прападзе!..»
Мы прападаем, Ойча!.. Дзе
Воля?!.
Як?.. Чаму згубілі
Яе мы, Ойча?..

**23**
— Не любілі,
Таму згубілі, — мовіў дух. —
Затое кожны свой катух
Займеў… Хай цесны, але з кашай
Прасянай… З нарамі, парашай:
Паеў, паспаў… Вунь і кілім
Пасцелены… Турма на ім
Гуляе ў волю, непрыкрыта
То з гэтым цешыцца, то з тым…
Народ прасеяўся праз сіта:
Пустое ўсё ва ўсім пустым.
Няўтульна з воляй вам. Не сыта.
А дзе вам сыта? Ля карыта.
А дзе карыта? Там, дзе хлеў.

**24**
І з дальніх лёхаў даляцеў
Задушны стогн, жалобны спеў
Усіх
загнаных у скляпенні,
Тых,
хто праклятый ў пакаленнях
Праклёнам даўніны сівой:
«Бадай бы вам цягаць камяні
На дом чужы, а не на свой!»/

**25**
Нябесны Ойча! Той праклён
На ўсе вякі? Такі наш кон:
Згубіць сваё і жыць з чужога?..
Такі наш лёс
па волі Бога?

Дом,
што не воляю сваёй
Пастаўлены,
стае турмой!

Турма — не сцены.
Для турмы
Не камяні сабраны. Мы.

Мы — краты і ключы астрога.

Без волі Бога быць нічога
Не можа! Волас не ўпадзе
Без волі Бога!..
На Судзе
Ахвяры злічаць, згубы, страты,
Спытаюць: «Хто ў тым вінаваты?..»
Ніхто, ніхто! Турма і каты
Не вінаваты!
Доля… Крыж…

Турмой і Воляю
паміж
Ударыў я! Паміж вякамі,
Што выціскалі волю з нас,
З якіх крывёю ліўся час
І глінай застываў, пяскамі,
Ставаў балотамі, а намі —
Ніяк,
ніяк,
ніяк,
ніяк!..
І з прорвы часу быў мне знак:
Вякі рассунуліся, як
У парадзіхі дол — і ў доле
Я ўбачыў немаўлятка:
Волю!

**26**
«Мой Ойча! Што рабіць мне з ёй?..»
«Прыняць! Яна з тваёй крывёй!
Гадуй яе! Перахварэй
На ўсе хваробы… З ёй дурэй,
З ёй весяліся, плач… Няхай
Яна палюбіць гэты край,
Ці ўзненавідзіць, як спазнае,
Што тут салодкі вінаград,
Дзе ні садзі — не выспявае,
Тут застаецца братам
брат,
Які ў патыліцу страляе!
Няхай ці добраю, ці злой
Яна ўзрасце, але сваёй
Узгадаванай зямлёй,
Не дзічкай на пустэльнай выспе,
Не рыссю, кінутай у клець,
Якую ты ў вязніцы выснііў!..

І воля ў часе мусіць выспець —
І вы для волі ў час саспець.
Прымі яе. Гадуй. Спялі.

Няхай расце. Няхай мужае.
Зямля і воля на зямлі —
Або свая, або чужая».

**27**
Сцяна між намі межавая —
Турэмная сцяна. Ах, Яска!
Даруй, даруй мне, калі ласка,
Сцяну! Вы, камяні ў сцяне,
Даруйце мне, даруйце мне!

Вы ў садзе камянёў маглі
Ляжаць — ды воля на зямлі
Альбо свая, альбо чужая!..

Яна ў вязніцы выжывае
У гэтым краі страт і скрух,
Але расце, але мужае,
І разам з ёй мужае дух,
Якому толькі воля трэба —
Нічога болей!..

Гэты дым,
Які чапляецца за неба
І растае высока ў ім…

**25–31. 12. 2010, унутраная турма КДБ**

# Загад



Міхась ЗІЗЮК

Кабінет начальніка райаддзела Сагдзевіча знаходзіўся на другім паверсе. Малады ўчастковы Корзун хуценька прабегся па затаптанай наведнікамі лесвіцы, пастукаў у дзверы і, не чакаючы адказу, увайшоў. Каля Сагдзевіча сядзелі аператыўнікі старшы лейтэнант Мыскавец і маёр Жалібоўскі з аддзялення крымінальнага вышуку. Корзун хацеў далажыць, што з'явіўся па загадзе, але начальнік спыніў яго і кіўнуў, каб ён сеў побач з аператыўнікамі.

— Значыцца так, — Сагдзевіч падцягнуў да сябе нейкую паперу. — Я вызваў вас вось чаму. Вы ведаеце, што хутка выбары. Мы павінны забяспечыць грамадскі парадак на выбарчых участках, не дапусціць зрыву выбараў. Гэта зразумела?

Падначаленыя згодна кіўнулі. Корзун таксама хітнуў галавою, хоць да яго пакуль не дайшло: куды ж хіліць сваю прамову падпалкоўнік? Вядома, міліцыя забяспечвае грамадскі парадак, міліцыянты пачалі ўжо дзяжурствы на выбарчых участках, але чаму яго выклікалі сюды? Ён і так гэта ведае. Зрэшты, Мікола тут чалавек новы, служыць толькі паўгода, можа, і пачуе штосьці спецыфічнае, міліцэйскае. Насамрэч Корзун не надта хацеў служыць у міліцыі, ды выйсця не было. Вышэйшую адукацыю атрымаў на платнай аснове, на працу нідзе не бралі — у невялікім раённым гарадку адшукаць годны заробак складана. У сталіцы ні жылля, ні радні, з працай па спецыяльнасці таксама няпроста. Дзядзька Стась, матчын брат, прапанаваў пайсці сюды, абяцаў дапамагчы. Маці ўзрадавалася: а як жа, стабільны і неблагі заробак, нейкія ільготы, дый на адзенне грошай менш пойдзе. Угаварыла яго. І вось цяпер участковы інспектар міліцыі лейтэнант Корзун сядзіць у кабінеце начальніка РАУС Сагдзевіча.

— Дык вось. З абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў прыйшла папера. У ёй нам прадпісана правесці ўсе неабходныя мерапрыемствы па недапушчэнні розных эксцэсаў, акцый пратэсту з боку так званых апазіцыянераў. У нашым горадзе знайшоўся такі, як бы гэта мовіць, «свядомы», які каламуціць і псуе нам усю справаздачу. Ён, Корзун, жыве на тваім участку. Мяркую, ты ведаеш, пра каго я?

Так, Мікола зразумеў, пра каго вядзе гаворку падпалкоўнік. На вуліцы Савецкай у шматкватэрным доме жыў былы настаўнік матэматыкі Цішынін. Некалі ён вучыў і Корзуна. Акрамя таго, што Павел Іванавіч выдатна ведаў саму матэматыку, ён так захапляльна і даступна ўмеў выкласці матэрыял, што яго разумелі нават цяжкадумы. У школе яго паважалі. З Цішыніным у Корзуна ў адзінаццатым класе адбылася адна гісторыя. А ўсё з-за дурнога дзіцяча-юнацкага «а табе слаба».

Перад дыскатэкамі, якія праходзілі па суботах у мясцовым Доме культуры, хлопцы заўсёды спрабавалі знайсці нешта для «тонусу». Калі задавальняліся півам, а калі знаходзілі і што мацнейшае. Неяк Корзун ляпнуў, што ён яшчэ той «мацак», што можа выпіць хоць паўбутэлькі і не захмялець. Дайшло да спрэчкі, прыйшлося трымаць слова. Захар Хмялеўскі (і прозвішча якраз жа ў тэму) на агульныя грошы набыў бутэльку гарэлкі. Перад дыскатэкаю Мікола выжлукціў палову. Як — і сам не разумее. Пасля пайшлі ў Дом культуры. Корзуна, канешне, хутка «разабрала», але ён трымаўся. Хвілін праз дваццаць зразумеў, што сюды хутка з'явяцца дзяжурныя педагогі і міліцыя, якія заўсёды трымалі дыскатэку пад кантролем, і ён загрыміць у міліцыю. Мікола здолеў выбрацца на вуліцу, там яго званітавала. Трапіла і на адзенне, і на чаравікі. У такім стане яго знайшоў Цішынін. Павел Іванавіч дапамог дайсці да калонкі, адмыцца, пасля адвёў да сябе, адпаіў нейкімі таблеткамі і моцнаю гарбатаю, на таксі адвёз дахаты. Больш пра тое здарэнне так ніхто і не даведаўся, нават маці нічога не зразумела, а Цішынін нікому не сказаў. Аўтарытэт Корзуна ў вачах аднакласнікаў узняўся: сапраўды «мацак», пратрымаўся.

Цішынін па нацыянальнасці рускі, некалі прыехаў сюды за жонкай, мясцовай жыхаркай. Асеў у райцэнтры, пайшоў на працу ў школу, вывучыў беларускую мову, стаў яе актыўным прыхільнікам і ўступіў у апазіцыйную партыю. Безумоўна, такога раённае кіраўніцтва дараваць не магло. Цішынін застаўся без працы. Але ён знайшоў выйсце: стаў індывідуальным прадпрымальнікам, заняўся рамонтамі, а заадно і рэпетытарствам. Цішыніна ведалі як добрага майстра, здольнага педагога, да яго ішлі і кліенты, і дзеці, таму без працы ён не сядзеў. Хапала Паўла Цішыніна і на грамадскую дзейнасць. Ён збіраў подпісы пад рознымі заявамі аб парушэнні правоў жыхароў горада, удзельнічаў у акцыях пратэста ў сталіцы, спрабаваў арганізоўваць пікеты і пратэсты ў райцэнтры. Усім гэтым ён псаваў нервы раённаму начальству, якое змянялася ў твары пры адным толькі ўспаміне аб Цішыніне.

— Дык вось, — зноў паўтарыў Сагдзевіч, павысіўшы голас, — на вас ускладаецца абавязак правесці прэвентыўнае затрыманне гэтага самага «свядомага». Да выбараў застаўся тыдзень. Цішынін павінен сесці сутак на дзесяць — тады ніхто не будзе баламуціць і падбухторваць народ. І каб камар носу не падтачыў. Гэта зразумела?

Падпалкоўнік утаропіўся ў падначаленых. Аператыўнікі згодна заківалі галовамі. Мікола не мог уцяміць: на якой падставе яны затрымаюць Цішыніна, якія доказы супраць яго прадставяць у судзе?

— Корзун у нас пакуль што малады, аператыўную абстаноўку разумее слаба. Таму старшым прызначаю капітана Жалібоўскага. Да зыходу дня далажыць мне аб выкананні. Можаце ісці.

Сагдзевіч апусціў паголеную лабатую галаву ў паперы, даючы зразумець, што інструктаж скончаны. Міліцыянты спыніліся ў прыёмным пакоі.

— Так, пайшлі на вуліцу, пакурым, там усё і абмяркуем. А то тут вушэй шмат, — буркнуў у пракураныя рудыя вусы Жалібоўскі, скіроўваючы на выхад.

Жалібоўскі быў вопытным супрацоўнікам, пачынаў з самых нізоў, пасля завочна скончыў Акадэмію МУС, на дадзены момант служыў на пасадзе старшага оперупаўнаважанага ў крымінальным вышуку. Мікола ўжо не раз перасякаўся з ім па працы. Жалібоўскі яму не падабаўся: аматар выпіць на «дурніцу», сваё не ўпусціць, скрытны, але работу аператыўніка ведаў добра. Ягор Мыскавец маладзейшы, працуе ў міліцыі таксама нядаўна. Як і Корзун, ён мясцовы, але вучыліся хлопцы ў розных школах, да таго ж Ягор старэйшы за яго на два гады. Па працы Мікола з ім перасякаўся ўсяго некалькі разоў і ведаў менш, чым Жалібоўскага.

Усе выйшлі на ганак, закурылі, моўчкі ўглядаючыся на няспешнае жыццё правінцыйнага гарадка. Па дарозе праехала некалькі легкавікоў, ляніва круцячы педалямі, прасунулася жанчына на веласіпедзе, і на нейкі час рух заціх. Насупраць, праз дарогу, франтавата пабліскваў новымі шклопакетамі будынак райвыканкама — там нядаўна скончылі рамонт. Жалібоўскі пстрыкнуў недакуркам у сметніцу, але не патрапіў.

— Так, хлопцы, загад вы зразумелі. Па-першае, нам трэба разабрацца, дзе цяпер знаходзіцца гэты Цішынін. Ведаеш, дзе ён можа быць? — звярнуўся Жалібоўскі да Корзуна.

**— Значыцца так, — Сагдзевіч падцягнуў да сябе нейкую паперу. — Я вызваў вас вось чаму. Вы ведаеце, што хутка выбары. Мы павінны забяспечыць грамадскі парадак на выбарчых участках, не дапусціць зрыву выбараў. Гэта зразумела?**

— Мяркую, што дома. Хутчэй за ўсё, будзе займацца рэпетытарствам — з дзецьмі ён займаецца ў асноўным у другой палове дня, — патлумачыў Мікола.

— Гэта добра, не трэба будзе яго адлоўліваць, як зайца, — засмяяўся Жалібоўскі. — Усё, садзімся, едзем. Ягор, паедзем на тваім аўтамабілі — менш свяціцца будзем.

Мыскавец не стаў пярэчыць старэйшаму таварышу. Корзун таксама моўчкі сеў: маёр старэйшы, добра ўсё ведае — хай кіруе. Але ўсё ж цікава — як яны будуць затрымліваць Цішыніна. Па дарозе Жалібоўскі сам раскрыў усе карты:

— Ты, Корзун, праз дамафон даведаешся, ці дома ён. Калі ў кватэры, то мы ўсе заходзім у пад'езд, ты выклікаеш яго на пляцоўку. Там мы яго пакуем і дастаўляем у аддзел. Пасля пішаш пратакол, кідаем яго да раніцы ў «малпоўнік» і дакладваем Сагдзевічу аб вырашэнні задачы. Усё зразумела?

— Не, — крыху падумаўшы, адказаў Мікола, — мне не ўсё зразумела. А за што я складу на яго пратакол?

— Малада-зелена, — паблажліва ўсміхнуўся Жалібоўскі. — Ты навічок, таму табе дарую гэтыя пытанні. Як за што — за парушэнне грамадскага парадку. Брыдка лаяўся на вуліцы, гучна крычаў, чапляўся да людзей. Для вас, участковых, самы просты артыкул.

— Дык ён жа ў кватэры будзе. Як жа напішу, што ён да некага чапляўся і лаяўся? Я не буду складаць такі пратакол.

— Ты што, тупы?! — ужо зазлаваў маёр. — Ты загад начальніка чуў? Чуў. Вось і выконвай, не задавай мне дурных пытанняў. А то пойдзеш з воўчым білетам. А што такое мець яго ў нашым горадзе, мне табе тлумачыць не трэба. Так што рыхтуй пратакол і асадку.

— Вам лёгка гаварыць, — зноў заўпарціўся Корзун, — а мне прышыюць парушэнне законнасці. Дый нядобра гэта: хлусіць, фальсіфікаваць справу, невінаватага кінуць на дзесяць сутак.

— Не хвалюйся, ніхто цябе не зачэпіць, — больш спакойна, але халодна адказаў Жалібоўскі, — за гэта толькі пахваляць. У судзе праблем не будзе — гэта дакладна. Мы з Ягорам выступім сведкамі, усё пройдзе як па маслу. Так, Ягор?

— Так, Алег Іванавіч.

Машына спынілася каля патрэбнага пад'езда.

— Ідзі, чаго сядзіш! — гукнуў маёр.

Мікола нехаця вылез з машыны. Каля пад'езда, насупраць адзін аднаго, сядзелі два каты, руды і чорны, енкатам запалохваючы суперніка. Руды спрабаваў ударыць лапаю чорнага, а той пачынаў енчыць яшчэ гучней.

Рой думак круціўся ў галаве ў Корзуна. Што ж рабіць? Адмовіцца? З'ядуць жыўцом, Жалібоўскі выдасць Сагдзевічу ўсе падрабязнасці, стоадсоткава вытураць з адпаведным запісам. Лепш сказаць, што Цішыніна няма дома — хай шукаюць. Але калі ён націснуў на кнопку дамафона, то заўважыў, што за спіною стаіць Мыскавец. Так, Жалібоўскі не дурань.

— Хто там? — адазваўся мужчынскі голас.

— Цішынін Павел Іванавіч?

— Так.

— Гэта ваш участковы Корзун. Мне патрэбна задаць вам некалькі пытанняў.

— Заходзьце.

Дзверы адчыніліся. На Міколу глядзеў хударлявы мужчына год сарака пяці з гладка паголеным тварам і ранняю сівізною на скронях.

— Слухаю вас.

— Павел Іванавіч, вам прыйдзецца праехаць з намі, — з-за спіны Корзуна выйшаў Жалібоўскі.

— Гэта з якой яшчэ нагоды? Мяне ў нечым абвінавачваюць? — спакойна і ветліва спытаў Цішынін.

— Не, мы проста павінны высветліць некаторыя пытанні, якія маюць дачыненне і да вас. Таму вы павінны праехаць з намі, — настойліва паўтарыў маёр.

— Я знаходжуся ў сваёй кватэры, нічога не парушаю. Да таго ж у дадзены момант я праводжу заняткі. На вашыя пытанні я магу адказаць у іншы час. Выпісвайце павестку, я прыйду, — гэтак жа спакойна адказаў гаспадар.

— Вы не падпарадкоўваецеся законным патрабаванням супрацоўніка міліцыі. Ягор, бранзалеты.

Мыскавец выцягнуў кайданкі і ў адно імгненне зашчапіў іх на руках Цішыніна. Той не стаў супраціўляцца, адно спакойна сказаў:

— Вы дарма так робіце. Я буду скардзіцца на вашыя дзеянні.

— Ды калі ласка, — ухмыльнуўся маёр. — Колькі заўгодна. Давай, апранайся.

Цішынін сабраўся, пазваў з пакоя напалоханую дзяўчынку, нешта шапнуў ёй на вуха, тая хуценька пачала апранацца.

Цішыніна адвялі ў кабінет Жалібоўскага. Мікола выцягнуў паперы, паклаў перад сабою.

— Афармляйце, — сказаў Жалібоўскі і некуды выйшаў.

— Можа, нарэшце вы мне ўсё патлумачыце, маладыя людзі? — Цішынін запытальна паглядзеў на міліцыянтаў.

Корзун, не падымаючы галавы, моўчкі стаў пісаць.

— Вы абвінавачваецеся ў парушэнні грамадскага парадку на вуліцы, брыдкаслоўі і непадпарадкаванні законным дзеянням супрацоўнікаў міліцыі, — адказаў Мыскавец. — Вы будзеце затрыманы да раніцы, а заўтра суд разгледзіць вашу справу.

— Вось як, — горка ўсміхнуўся Цішынін. — Няўжо вы не разумееце, хлопцы, што некалі вам давядзецца адказваць за свае дзеянні? А табе, Мікола, не сорамна?

— Адкажам, калі спатрэбіцца, — Мыскавец выцягнуў з шафы нейкую папку і зрабіў выгляд, што паглыбіўся ў чытанне.

У Корзуна гарэлі вушы. Счырванелы, як бурак, угнуўшы галаву, ён моўчкі пісаў пратакол. Скончыўшы, працягнуў паперу Цішыніну на подпіс.

— Я нічога падпісваць не буду, — заявіў Цішынін.

Корзун пакінуў пратакол на стале і сказаў Мыскаўцу:

— Самі адпраўляйце яго ў малпоўнік. Мне трэба ісці, у мяне яшчэ справы.

Выходзячы, ён ціха сказаў Цішыніну:

— Прабачце, Павел Іванавіч.

На наступны дзень Корзун зайшоў у кабінет да інспектара па кадрах, працягнуў яму ліст паперы. Прачытаўшы яго, той здзіўлена ўтаропіўся ў Міколу:

— Ты што, забыў пахмяліцца? Што ты напісаў?

— А ты што — не бачыш? Рапарт. Там жа чорным па белым напісана: прашу звольніць мяне па асабістым жаданні.

— Ды гэта я бачу. Але ж ты працуеш толькі паўгода. Чаму ты вырашыў звольніцца? Што здарылася?

— Проста не хачу служыць, і ўсё.

— Не, так не пойдзе. Давай ты пачакаеш яшчэ паўгодзіка, а? А то мне начальства ў каршэнь усыпле, што ў мяне ёсць супрацоўнікі, звольненыя да года службы. А, можа, пасля яшчэ і перадумаеш, га?

— Не, чакаць я не буду, рапарт назад не забяру. І не перадумаю. Ніколі. Разумееш — ніколі.

Мікола выйшаў на ганак. Ён з палёгкаю ўздыхнуў, пастаяў у задуменні, нечаму ўсміхнуўся і пакрочыў па вуліцы да шматпавярховак.

# Гэтая сістэма не ведала любові



Крысціна БАНДУРЫНА

**Неба падаецца такім далёкім і неабсяжным, калі ты маленькая, а аблокі на ім — вялікімі ды імклівымі. Яны ляцяць так хутка — толькі паспявай сачыць. Глядзіш на іх, шукаеш знаёмыя малюнкі і яшчэ не ведаеш, што яны, гэтыя спрытныя камякі ваты, забіраюць з сабой час.**

Івось табе ўжо 10, 18, 28… Здаецца, толькі адсвяткавалі Новы год, як ужо вясна: кветкі, святы і… COVID. Зачыняеш вокны і дзверы, засынаеш, прачынаешся — а ўжо лета. Распусцілася, адквітнела, запякло. Паловы года, лічы, няма. Дзе, калі і што было?..

Кожны наш цяперашні дзень, дзень барацьбы — з эпідэміяй каранавіруса, з хлуснёй і бяспраўем, — можна лічыць за месяц, а то і год, па шчыльнасці падзей, па напружанасці і вымаганні эмоцый. І таму мне падаецца, што тэкст, напісаны пару тыдняў таму, я чытала даўно-даўно — але ён дагэтуль актуальны. Балюча актуальны.

Я маю на ўвазе той пранізлівы ліст, які культуролаг Юлія Чарняўская напісала Святлане Ціханоўскай. Не бяруся меркаваць, які пасыл туды закладвала сама Юлія Вісарыёнаўна, але для мяне гэта тэкст пра любоў і страх, пра адчай і цярпенне, смеласць, стрыжань, годнасць, уменне браць на сябе адказнасць і трываць удар. Ісці за любімымі, быць з імі да канца, да апошняй кроплі — жыцця, сіл, страху.

Гэта тэкст пра час, якога ў нас няма.

Я не ведаю, як так атрымалася, што мы сталі жыць у антыўтопіі, але мы ў ёй жывём. Няма патрэбы апісваць гэты свет: кожны, хто хоць раз адкрываў Оруэла ці глядзеў «Галодныя гульні», ведае, пра што ідзе гаворка. Цікава іншае: як у гэтай антыўтопіі з'яўляюцца героі. У нас ужо быў свой калектыўны Уінстан Сміт, цяпер жа, відаць, настаў час Дагні Тагарт. Што праўда — той Дагні Тагарт, якой пакуль яшчэ патрэбны Джон Голт.

Сёння жанчыны ідуць у палітыку, выходзяць у публічную прастору, лезуць у аўтазакі, страчваюць працу, пражываюць штодзённасць за сябе і за сваіх блізкіх. Маці, сёстры, жонкі, каханыя, сяброўкі, людзі, якім не знайшлося і, верагодна, не знойдзецца месца ў цяперашняй Канстытуцыі… Кожнай з нас баліць за кагосьці: за сябе і за тых, каго мы любім, — а мы ўмеем любіць.

Мы зведалі гэта на сабе: тыя хвіліны, што мы праводзім разам, не маюць цаны, таму што нават не заўтра, а проста цяпер нас могуць выкрасці з вуліцы і пасадзіць за краты, пазбавіць магчымасці гаварыць, бачыць, быць побач.

І проста цяпер нас можа не стаць.

Мне страшна. Быць не сабою; не там, дзе хочацца быць; гаварыць не тое, што думаю; рабіць так, як загадаюць; хавацца; знаходзіць апраўданні; рабіць менш, чым магу зрабіць; разлічваць, што нехта зробіць за мяне… Я не ведала, што для мяне самой мусіць быць дастатковым дзеяннем. Не ведала, пакуль сама не выйшла на вуліцу.

…Некалькі дзён мы не маглі ўбачыцца — з розных прычынаў. За паўгадзіны да сустрэчы яна пазваніла мне і сказала, што не прыедзе: таму што з усіх бакоў ідуць — мірныя людзі, якіх «цісне» АМАП. Па голасе было чуваць, што яна напужаная, — і я зразумела, што ўсё сур'ёзна.

Аналізуючы цяпер, з адлегласці, нашу размову, я здзіўляюся: так не бывае — але ў той момант мяне затапіла пяшчотай і страхам, нястрымным жаданнем абняць яе і трымаць як мага бліжэй да сябе. І першым парывам было ехаць. Як была, не сабраўшыся, ехаць туды, каб… Каб што? Быць побач. Каб абараніць і падтрымаць, калі трэба. Каб разам выбрацца.

Але я зразумела, што не паспею. Не паспею даехаць з іншага канца горада. А калі і паспею, то магу не прабіцца і не знайсці. І таму адзінае, што заставалася, — сачыць за сітуацыяй здалёк: па фотаздымках, відэа і стрымах.

Мне вельмі знаёмы гэты стан: цела дзервянее, ты застываеш, напружваючы па максімуме слых і зрок, каб не ўпусціць ні адной дэталі, ніводнага гуку. А ўнутры ў гэты час усё падобна да пякучай вадкай лавы, якую немагчыма выплюхнуць вонкі. Так было кожны раз, калі мой п'яны бацька пачынаў скандаліць. Я не магла спаць: мне фізічна неабходна было ведаць, што мама жывая. Пакутліва было чуць абра́зы, крыкі, грукат, я захлыналася крыўдай, але не магла не слухаць — гэта была гатоўнасць у любы момант улезці ў бойку, каб абараніць.

…Атрымаўшы паведамленне з кароткім, але такім чаканым «усё добра», я нарэшце змагла рухацца. Напружанне ўнутры патрабавала выйсця. «Я проста выйду на вуліцу», — думала я.

Доўгія-доўгія ланцужкі жоўтых і чырвоных агеньчыкаў на «Праспекце Пераможцаў». Гудзенне не сціхала да самай Нямігі. Упершыню гучныя гукі, якія вечна мяне палохалі, падаваліся музыкай, і музыка гэтая выклікала ўва мне шмат любові і ўдзячнасці.

ДАІшнікі перакрывалі праспект. У жываце варушыўся мурашнік нерваў. «Мо хіба картэж які», — наіўна супакойвала я сябе, пакуль ішла да Палаца спорта. Рэдкія мінакі спакойна рухаліся насустрач мне, уздоўж дарогі прагульваліся парачкі, на кожны гудок аўтамабіля людзі ўсміхаліся адно аднаму, быццам ведалі нешта таемнае, што нельга прамаўляць уголас. Анічога не выдавала на тое, што праз некалькі соцень метраў, на іншым баку моста людзей кідаюць у аўтазакі.



За натоўпам не было відаць АМАП.

Калі хваля людзей крыху схлынула, я ўбачыла два аўтазакі на Плошчы Свабоды. Людзі беглі, штурхаючы мяне плячыма. Я бегчы не стала, але імпульсіўна, разам з астатнімі, паскорыла крок — і праз некалькі метраў спынілася.

Найважнейшы момант таго вечара і, можа быць, адзін з самых важных момантаў майго жыцця — калі я вырашыла, што не буду ўцякаць. Калі я зразумела, што менавіта да гэтага і ішла: быццам блізкі чалавек усё яшчэ там — і я ішла, каб быць побач. Быццам я не баюся — я больш не баюся таго, што мяне схопяць, затрымаюць, будуць біць. Момант, у які я канчаткова зразумела, што мне страшна іншае: я баюся страціць сваіх любімых.

У гэтае самае імгненне у Верхнім горадзе пачалі крычаць «Жыве Беларусь!», і я, забыўшы пра тое, што рызыкую быць схопленай, застыла ля парапета: ніколі яшчэ гэтае месца, запоўненае людзьмі і машынамі, не было такім прыгожым, ніколі яшчэ словы не былі такімі важнымі для мяне…

Вядомая ва ўсім свеце чорная ўніформа павінна была выклікаць у людзей павагу і страх. Убачыўшы зграю АМАПа, ніякай павагі я не адчула. Так, гэта быў страх, але іншы страх, асаблівага роду — які працінае наскрозь, калі ты бачыш напятыя постаці ды пустыя вочы і разумееш, што людзі насупраць цябе гатовыя на ўсё. Яны на сваёй тэрыторыі, і гульня ідзе па іх правілах…

Гэтая сістэма ніколі не ведала любові, і таму метадычна цісне любыя яе праявы там, дзе бачыць, разлічваючы на тое, што з ёю — любоўю — будзе гэтак жа, як з логікай, мараллю і сумленнем.

Але рэч у тым, што гэта, можа быць, адзінае ў свеце, з чым гульня немагчымая. З любоўю не гуляюць. Ёю немагчыма падмануць, запалохаць, раз'яднаць. Любоў — гэта тое, што дапамагае перамагчы страх, што прымушае аб'ядноўвацца, хацець, ісці, трываць, чакаць і перамагаць.

…У нас абіраюць надзею на змены і веру ў лепшае. Мне таксама падавалася, што яны перамогуць, што яны мацнейшыя. Прарваўшыся праз пастку АМАПа на Нямізе, я пайшла да Кастрычніцкай, яшчэ не ведаючы, што метро не працуе. У кавярнях на Леніна людзі спакойна елі свае сушы, пацягвалі віно з прыгожых бакалаў, усміхаліся адно аднаму. Аддзеленыя ад мяне шклом, яны зноў стваралі адчуванне іншай краіны, двух паралельных сусветаў. Там людзі ўпэўненыя, што законы працуюць…

Праспект жыў. Ланцуг быў няшчыльны, хаатычны, але трывалы: людзі прыходзілі і сыходзілі, заставаліся — па абодва бакі дарогі. Насупраць мяне праз дарогу стаялі нават ля міліцэйскай машыны, і я з трывогай чакала, што пачнуць «браць».

Метро не працавала. Таксі не выклікалася. Знаёмыя, якіх я сустрэла, расказалі, што на праспекце выключалі святло і хапалі ўсіх, каго маглі…

«Усё пачынаецца з любові», — сказаў савецкі класік. Мяркую, што гэтая фраза магла прэтэндаваць на дэвіз лета-2020. Любоў штурхае нас на змаганне: за сябе, за тых, каго мы любім, за змены і найлепшае, чаго заслугоўваем мы самі, чаго заслугоўваюць нашыя блізкія. За найлепшы час, які мы можам пражыць разам, не баючыся штодзень і штохвіліны страціць адно аднаго.

Калі я была маленькая, неба падавалася мне далёкім і недасяжным. Цяпер яно нізкае і вельмі цісне на плечы. Хтосьці з нас ужо выпрастаўся, а кагосьці гэта толькі чакае. Мы розныя, але цяпер мы разам. І я жадаю нам усім толькі аднаго: каб заканчвалася ўсё таксама любоўю.

На іншае часу няма.

# Кнігі нобелеўцаў пра дыктатараў і дыктатуры

**Гэтыя творы можна аднесці да кірунку, які літаратуразнаўцы ў заходняй традыцыі вылучаюць як «dictator novel».**

### Мігель Анхель Астурыяс, «Сеньёр прэзідэнт»

Гісторыя Лацінскай Амерыкі багатая не толькі на шматлікія жорсткія дыктатуры, але і на славутыя літаратурныя творы пра дыктатараў. У сваім рамане ў жанры магічнага рэалізму, напісаным у 1946 годзе, аўтар паказвае сутнасць дыктатуры і яе ўплыў на жыцці асобных людзей. Фігура самога дыктатара ў творы прысутнічае і выяўляецца як бы ўскосна, праз дэталі, чуткі, меркаванні. Яе прататыпам лічаць прэзідэнта Гватэмалы 20-х гадоў, а ўласна ягоную дыктатуру — штуршком да напісання твора.

### Марыа Варгас Льёса, «Свята Казла»

Раман перуанскага пісьменніка разгортваецца вакол падзей у Дамініканскай Рэспубліцы, дзе быў забіты дыктатар Рафаэль Трухільё. У сваім творы Льёса, з аднаго боку, пераплятае розныя пункты гледжання (жанчына, змоўшчыкі і інш.), а з іншага — розныя часавыя і сюжэтныя лініі, каб шматбакова адчуць існаванне дыктатарскага рэжыму ў розных яго праявах. Раман прасякнуты і шэрагам скразных праблем, сярод якіх і пытанні іерархіі па гендарнай прыкмеце.

### Габрыэль Гарсія Маркес, «Восень патрыярха»

Раман, як і іншыя творы Маркеса, адметны сваёй атмасферай, а дыктатар, персона якога звычайна ўяўляецца жорсткай і страшнай, у творы надзвычай абсурдны і нягеглы. Кніга распавядае пра жыццё дыктатара, які трымаў уладу каля сотні гадоў, ад чаго ператварыўся ў суцэльны міф. Лічыцца, што свайго галоўнага персанажа Маркес стварыў як увасабленне не аднаго, а многіх дыктатараў Лацінскай Амерыкі.

### Сінклер Льюіс, «У нас гэта немагчыма»

Пэўна, што матывы, прынамсі прататыпы, аўтараў ЗША і Еўропы адрозніваліся ад лацінаамерыканскіх. Так, раман Сінклера Льюіса з'явіўся ў кантэксце ўздыму фашызму і нацызму ў Еўропе. У творы апісваецца магчымасць узнікнення дыктатуры, аналагічнай дыктатуры Гітлера ці Мусаліні. У кантэксце назвы цікава адзначыць, што Адорна (які пакінуў Нямеччыну) ў сваім «Даследаванні аўтарытарнай асобы» фактычна даказаў наяўнасць усіх неабходных падставаў для ўзнікнення аналагічнага рэжыму.

### Кадзуа Ісігура, «Не адпускай мяне»

Гэтая кніга японскага пісьменніка была ўключаная ў спіс 100 найлепшых англамоўных раманаў (з 1923 па 2005 гады), а некаторыя, магчыма, бачылі яе экранізацыю. Кніга з'яўляецца антыўтопіяй і расказвае не столькі пра канкрэтнага дыктатара, колькі пра дыктатуру антыўтапічнай сістэмы, якая спараджае бяспраўных клонаў з мэтай донарства органаў, і тых, хто змагаецца за сваё жыццё ў такой сістэме.

**Кірыл Стаселька**

**budzma.by**

ПРЭМІІ

## Міжнародная прэмія імя Івана Франка

**Ва ўкраінскім Драгобычы адбылася пятая ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэата Міжнароднай прэміі імя генія ўкраінскай нацыі Івана Франка.**



Сёлета вышэйшую ўзнагароду ў галіне гуманітарных навук атрымаў доктар гістарычных навук, прафесар кафедры гісторыі Украіны Палтаўскага нацыянальнага педагагічнага ўніверсітэта імя У. Г. Караленкі Ігар Сярдзюк. Узнагарода была прысуджана за манаграфію «Маленькі дарослы: дзіця і дзяцінства ў Гетманшчыне XVIII стагоддзя».

Дырэктар Міжнароднага фонда імя Івана Франка Ігар Курус адзначыў, што акрамя грашовай узнагароды ўладальнік прэміі атрымаў залаты медаль і дыплом: «У гэтым годзе дзякуючы Максіму Казіцкаму, Міхайлу Цымбалюку, Міраславу Хамякову і Андрэю Дулібяніку фонд бонусаў склаў 170 000 грыўняў (блізу 16 000 беларускіх рублёў. — Рэд.). Канешне, нам ёсць куды расці, але мы цвёрда рухаемся да сваёй мэты і хочам, каб Міжнародная прэмія імя Івана Франка была самай прэстыжнай навуковай прэміяй сучасных гуманітарных працаў».

Старшыня міжнароднага журы — прафесар Львоўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Івана Франка, доктар філалагічных навук Ярaслаў Гарасым падкрэсліў, што ў 2020 годзе на прэмію было пададзена 19 работ: «Усе працы намінантаў адзначаны высокім узроўнем прафесіяналізму, глыбінёй даследаванняў ды інтэлектуальным уплывам на развіццё сучаснай гуманітарнай навукі, а перамогу справядліва атрымала даследаванне, якое, выкарыстоўваючы словы Івана Франка, «ушаноўвае свайго аўтара і нашу навуковую літаратуру».

У цырымоніі ўзнагароджання прынялі ўдзел члены міжнароднага журы, намінанты, навукоўцы з Аўстрыі, Польшчы, Украіны, французскія навукоўцы, дзяржаўныя чыноўнікі, грамадскасць і родзічы Івана Франка.

Міжнародная прэмія імя Івана Франка была заснавана Міжнародным фондам імя Івана Франка ў 2015 годзе. Ён быў заснаваны ўнукам украінскага пісьменніка Раландам Франка.

## Букераўская прэмія

**29-гадовая Марыка Лукас Рэйневелд з Нідэрландаў стала самай маладой у гісторыі лаўрэаткай Міжнароднай Букераўскай прэміі — за раман «The Discomfort of Evening» («Дыскамфорт вечара»).**

На англійскую мову раман пісьменніцы пераклала Мішэль Хатчынсан. Па правілах Міжнароднай Букераўскай прэміі яе грашовая частка — 50 тысяч фунтаў стэрлінгаў — дзеліцца напалову паміж аўтарам і перакладчыкам.

Адзначаецца таксама, што «Дыскамфорт вечара» быў абраны з шорт-ліста, які складаўся з шасці твораў. Адборам пераможцы займалася журы з пяці суддзяў.

Кніга распавядае пра дзяўчынку Яс, якая жыве на хутары ў артадаксальнай хрысціянскай сям'і. Старэйшы брат дзяўчынкі знікае без вестак, і яна апісвае, як сям'я пачынае ад гора распадацца.

Слета цырымонію ўручэння Міжнароднай Букераўскай прэміі перанеслі з траўня на жнівень, яна прайшла ў онлайн-фармаце.

Букераўская прэмія з'яўляецца адной з самых прэстыжных у англамоўнай літаратуры. Яна прысуджаецца з 1969 года. Першапачаткова для яе атрымання аўтару неабходна было пражываць у адной з краін Садружнасці нацый (Вялікабрытанія і былыя калоніі), Ірландыі або Зімбабвэ. У 2013 годзе Фонд Букераўскай прэміі вырашыў прысуджаць яе, не зважаючы на грамадзянства пісьменніка. Адзіная ўмова — кніга павінна быць напісаная на англійскай мове і апублікаваная ў Вялікабрытаніі.



Міжнародная Букераўская прэмія ўручаецца з 2015 года.

## «PEN Ackerley Prize»

**Элісан Лайт стала лаўрэаткай прэміі «PEN Ackerley Prize» (2020 год) за «ўдумлівы, рухомы і прыгожа напісаны» «Радыкальны раман».**

У шорт-ліст прэміі ўвайшлі яшчэ дзве кнігі Эдварда Парнэла і Джорджа Сіртэса.

«PEN Ackerley Prize» — адзіная літаратурная прэмія Вялікабрытаніі, прысвечаная мемуарнай і аўтабіяграфічнай літаратуры — была заснавана ў памяць пра Дж. Р. Акерлі, аўтара, літаратурнага рэдактара і свабодадумца.

«Я вельмі радая атрымаць прэмію і быць у такой добрай кампаніі: мае калегі-намінанты, суддзі, і атрымаць яе ад арганізацыі, якая клапоціцца пра пісьменнікаў і агітуе за свабоду слова», — прызналася Элісан Лайт. А старшыня журы прэміі Пітэр Паркер адзначыў: «У трох кнігах сёлетняга шорт-ліста былі асвяжальна розныя падыходы да мастацтва мемуараў, хаця ў іх ёсць агульная лінія: сям'я і страты. Усе тры кнігі маюць тыя якасці, якія спавядаў сам Акерлі: яны абсалютна шчырыя і, перш за ўсё, вельмі добра напісаныя. «Радыкальны раман» — гэта не толькі надзвычай шчырая гісторыя любоўных адносін і шлюбу паміж двума асобамі, якія прыйшлі ў левую палітыку вельмі рознымі шляхамі, але, да ўсяго, зрабіла важную ролю ў пераасэнсаванні спосабу прагляду і запісу гісторыі. Кніга падае жывую і смешную карціну менш камфортнага жыцця ў разбураным грузінскім доме ў Спіталфілдзе».

# «PEN America» — супраць Трампа

**Арганізацыя выступіла супраць палітыкі Белага дома, накіраванай на журналістаў, якія крытычна ацэньваюць дзейнасць прэзідэнта.**

Нядаўна адміністрацыя Трампа заявіла, што складае «дасье» на рэпарцёра «Washington Post» Дэвіда Фарэнтхолда ды іншых журналістаў, якія асвятляюць бізнэс прэзідэнта. Нора Бенавідэс, пэнаўскі дырэктар «Амерыканскіх праграм свабоднага выказвання думак», паведаміла наступнае: «Белы дом практыкуе адну з улюбёных тактык прэзідэнта Трампа: замоўчваць працу журналістаў, якіх ён не любіць. Такія нахабныя спробы запалохаць альбо дыскрэдытаваць прафесійных аўтараў, чыя праца заключаецца ў раскрыцці і адстойванні праўды, павінны быць спыненыя, але адміністрацыя ЗША, якая выкарыстоўвае дзяржаўную ўладу супраць свабоднай прэсы, мае больш магчымасцяў. Небяспека для журналістаў, якая заўважаецца паўсюдна, — адна з прычын, па якой «PEN America» падаў у суд на прэзідэнта Трампа ў 2018 годзе, і таму мы ўсе павінны працягваць выступаць у абарону свабоды прэсы».

# Францыя: расізм у літаратуры

**Праўнук брытанскай пісьменніцы Агаты Крысці пераназваў французскае выданне яе дэтэктыўнага рамана «Дзесяць негрыцят» — з-за... расізму. Цяпер вядомы твор будзе мець назву «Іх было дзесяць».**

Нашчадак пісьменніцы Джэймс Прычард падтрымаў грамадскую ініцыятыву, спасылаючыся на жаданне самой А. Крысці. Кніга ўпершыню была апублікавана ў 1939 годзе.

Дж. Прычард адзначыў, што назва звязана з дзіцячай лічылкай, напісанай не Агатай Крысці.

Паказальна, што і стваральнікі «Сімпсанаў» заявілі, што белыя акцёры больш не будуць агучваць каляровых персанажаў.

# Міжнародная літсалідарнасць з Беларуссю

**Яшчэ 13 жніўня Саюз беларускіх пісьменнікаў звярнуўся да Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады (EWC) з ініцыятывай выступіць у абарону мірнага пратэсту, заклікаць да актыўнага пашырэння інфармацыі ў еўрапейскіх СМІ, арганізацыях і партыях пра задушэнне свабоды слова, гвалт і катаванні ў дачыненні да мірных дэманстрантаў у Беларусі.**



Прэзідыум Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады аператыўна распаўсюдзіў зварот да літаратараў Еўропы і свету з заклікам да салідарнасці з народам Беларусі.

«Мы знаходзімся ў пастаянным кантакце з членам EWC, Саюзам беларускіх пісьменнікаў, і навіны, якія мы атрымліваем, выклікаюць вялікую трывогу і смутак, — заявіла нямецкая пісьменніца Ніна Георге, старшыня EWC. — Нашы незалежныя крыніцы паведамляюць пра жорсткі міліцэйскі гвалт на вуліцах і пра яшчэ больш сур'ёзныя злоўжыванні ў турмах, уключаючы псіхалагічныя катаванні і бязлітасныя пабоі. Усё гэта накіравана супраць беларусаў, якія ажыццяўляюць свае правы на свабоду выказвання меркаванняў, на свабоду сходаў і патрабуюць рэалізацыі сапраўды дэмакратычных прынцыпаў у сваёй краіне. Мы заклікаем урады Еўразвязу не бяздзейнічаць, не маўчаць, а аказваць моцны ціск на аўтарытарны рэжым Аляксандра Лукашэнкі, каб пакласці канец гэтаму гвалту і абараняць каштоўнасці, на якіх заснаваны Еўрапейскі Саюз».

«Беларусь — частка Еўропы. Не пакідайце беларускі народ на адзіноце ў яго намаганнях пабудаваць сапраўды дэмакратычную краіну. Усе мы павінны выкарыстоўваць самы магутны дэмакратычны інструмент: нашае слова», — падсумавала Ніна Георге.

Еўрапейская Пісьменніцкая Рада (EWC) — федэрацыя 44 нацыянальных арганізацый прафесійных пісьменнікаў і літаратурных перакладчыкаў, прадстаўляе больш за 160 тысяч літаратараў з 34 краін Еўропы, найперш з Еўрасаюза, а таксама Беларусі, Ісландыі, Нарвегіі, Турцыі, Швейцарыі і Чарнагорыі. Федэрацыя была заснаваная ў 1977 годзе ў Берліне пад назвай Еўрапейскі Пісьменніцкі Кангрэс. З 2010 года існуе пад цяперашняй назвай са штаб-кватэрай у Брусэлі, шчыльна супрацоўнічае з культурніцкімі праектамі Еўракамісіі, ЮНЭСКА, Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці пры ААН. Саюз беларускіх пісьменнікаў з'яўляецца праваздзейным сябрам EWC з 2010 года. З постсавецкай прасторы у Еўрапейскую пісьменніцкую раду, акрамя СБП, уваходзяць толькі літаратурныя арганізацыі краін Балтыі.

Пасля заявы Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады многія краіны свету далучыліся да заклiку салідарнасці з Беларуссю: Федэрацыя еўрапейскіх выдаўцоў, Асацыяцыя пісьменнікаў Іспаніі, SYNDIKAT (пісьменніцкая арганізацыя аўтараў дэтэктываў, якая аб'ядноўвае 750 чальцоў з Нямеччыны, Аўстрыі і Швейцарыі), Нямецкі прафсаюз «Verdi», другая па колькасці сяброў арганізацыя ў Нямеччыне (каля 3 мільёнаў чальцоў), Французскі анлайн-часопіс «Actualitte», Нямецкі партал для кніжнай прамысловасці «Börsenblatt», Аб'яднанне венгерскіх аўтараў, «Autorenwelt», усе 6 нарвежскіх аб'яднанняў літаратараў, а таксама 10 культурніцкіх інстытуцый Даніі і Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны.

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

**У падрыхтоўцы старонкі выкарыстаны матэрыялы litgazeta.com.ua, englishpen.org, novostiliteratury.ru, BFM і humanrightsact.org.uk.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Выехаць нельга застацца

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Аднойчы ад аднаго знаёмага я пачуў гісторыю пра дзеда, які жыве дзесьці ў Заходняй Украіне і ў якога ёсць аж пяць пашпартоў розных дзяржаў. За сваё жыццё ён паспеў пабываць падданым Аўстра-Венгрыі, Другой Рэчы Паспалітай, Закарпацкай Украіны, СССР і, нарэшце, незалежнай Украіны. Жыў сабе чалавек, а зямля, на якой стаяў яго дом, адыходзіла то да адной, то да другой дзяржавы.**

Падобную гісторыю мелі і шматлікія жыхары заходняй часткі нашай краіны, якія, нарадзіўшыся ў «панскай» Польшчы, у 1939 годзе сталі грамадзянамі Савецкага Саюза. Многія з гэтых людзей пасля заканчэння Другой сусветнай вайны пакінулі свае дамы і выехалі ў «сацыялістычную» Польшчу. Аднак здараліся выпадкі, калі частка сваякоў рэпатрыіравалася ў суседнюю



Іван Сапоцька, 1944 г.

дзяржаву, а другая заставалася «за жалезнай заслонай».

Аб праблеме рэпатрыяцыі польскага насельніцтва з тэрыторый, далучаных да СССР у верасні 1939 года, савецкае кіраўніцтва пачало задумвацца адразу пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Ужо ў лістападзе 1945 года ў Варшаве была падпісана дамова паміж польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення і ўрадам БССР аб эвакуацыі беларускага насельніцтва з тэрыторыі Польшчы і перасяленні польскіх грамадзян з БССР.

Масква рабіла стаўку на «польскіх патрыётаў» з «камітэту» і дзеля гэтага штучна павышала статус гэтага органа. Да таго ж савецкае кіраўніцтва разумела, што палякі, якія заставаліся на тэрыторыі заходніх абласцей БССР і УССР, з'яўляліся патэнцыйнай апорай антысавецкіх атрадаў Арміі Краёвай, байцы якой не маглі пагадзіцца з перасоўваннем усходняй польскай мяжы і працягвалі змагацца за «Другую Рэч Паспалітую». У выніку першай хвалі рэпатрыяцыі ў 1944–1946 гадах з БССР выехала больш за 200 тысяч былых польскіх грамадзян.

Другая хваля рэпатрыяцыі прайшла ў 1955–1959 гадах і была звязаная з «хрушчоўскай адлігай». У траўні 1955 года памочнік Хрушчова У. Лебедзеў з МЗС Польшчы атрымаў ліст, у якім, у прыватнасці, адзначалася, што «ў сувязі з ваеннымі і пасляваеннымі цяжкасцямі, значная колькасць асоб, якія адпавядалі крытэрыям, абумоўленым Дагаворам ад 1945 года, не змаглі скарыстацца з магчымасцяў выезду на радзіму, што прывяло да ўзнікнення праблемы падзелу сямей».

15 лістапада 1956 года У. Гамулка і Ю. Цыранкевіч асабіста паехалі ў Маскву і спрабавалі дамовіцца з савецкімі ўладамі аб дазволе грамадзянам польскага паходжання выехаць на радзіму. Палякаў можна было зразумець. Яны страцілі «крэсы» на ўсходзе, але атрымалі «крэсы» на захадзе. Нямецкае насельніцтва адтуль збегла, і яго трэба было замяняць палякамі з-за Бугу. Савецкі бок пайшоў насустрач польскім таварышам, і ў 1956 годзе з СССР выехалі каля 40 тысяч палякаў. А 25 сакавіка 1957 года паміж урадамі Польскай Народнай Рэспублікі і СССР была падпісана новая дамова аб рэпатрыяцыі з тэрыторыі Савецкага Саюза насельніцтва польскай і яўрэйскай нацыянальнасці, якія да 17 верасня 1939 года мелі польскае грамадзянства.

У каментарыі да дадзенага дакумента, у прыватнасці, адзначалася, што «асобы, якія жадаюць рэпатрыіравацца, павінны да 1 кастрычніка 1958 года звярнуцца ў раённыя ці гарадскія аддзелы міліцыі і напісаць адпаведную заяву». Польскую нацыянальнасць можна было пацвердзіць з дапамогай савецкіх пашпартоў, даваенных польскіх дакументаў, метрыкальных запісаў, пасведчанняў, атрыманых у гарадскіх ці сельскіх саветах. Тое ж самае датычылася і пацвярджэння польскага грамадзянства да 17 верасня 1939 года. У выпадку малалетніх пацвярджэннем былі дакументы бацькоў. У Дагаворы таксама падкрэслівалася, што галоўнай умовай рэпатрыяцыі з'яўляецца жаданне асоб да ўз'яднання сямей.

Польскі бок, каб спрасціць справу рэпатрыяцыі, некалькі разоў спрабаваў дамовіцца з Масквой аб адкрыцці ў Мінску Генеральнага консульства ПНР (такое дзейнічала ў Кіеве), аднак савецкі бок на гэты крок не пайшоў. Менавіта таму жыхарам БССР трэба было накіроўваць свае дакументы ў Бюро паўнамоцнага прадстаўніка польскага ўраду па справах рэпатрыяцыі палякаў у Амбасадзе ПНР, якая



GŁÓWNY PEŁNOMOCNIK
RZĄDU R. P.
do spraw ewakuacji

L. dz. 8839

Warszawa, dn. 28. XII. 45 1945 r.

Do
Urzędu Pełnomocnika do spraw ewakuacji
w Baranowiczach

W związku z podaniem obywatela polskiego, narodowości polskiej, Jana Sopocki z dn. ...
zam.: ...
wzywam do kraju jego rodzinę, a mianowicie: Józefę i Irenę Sopoćko
zam.: obw. Mołodeczno ...
Wyżej wymienionych należy niezwłocznie zarejestrować na wyjazd do Polski
i skierować do ...

Główny Pełnomocnik
(–) W. WOLSKI

Адказ упаўнаважанага прадстаўніка па рэпатрыяцыі ў Баранавічах на выезд Ірыны і Юзэфы ў Польшчу



ВОИНСКАЯ ЧАСТЬ
ПОЛЕВАЯ ПОЧТА
№ 51822

«1 декабря 1945 г.
№ 132

УДОСТОВЕРЕНИЕ

Гражд. Сопотько Ивану Ивановичу
состоит с «12» ... 1943 года на действительной военной службе в Польской Армии
в должности стар. лейтенанта
Выдано для получения гражд. Сопотько Юзефа
и членами его семьи льгот, установленных Кодексом о льготах для военнослужащих и военнообязанных РККА и их семей.
Удостоверение действительно по «31 декабря 1946 года

Командир части
Нач. Штаба

Пасведчанне Івана Сапоцькі, афіцэра польскай арміі

знаходзілася на вул. А. Талстога, 30 (цяпер вул. Спірыдонаўка) у Маскве.

Адной з такіх грамадзянак БССР, што спрабавалі ў 1958 годзе выехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Польшчу, была Юзэфа Іванаўна Сапоцька з вёскі Сурынты Маладзечанскага раёна. Яе брат Іван (Ян) Сапоцька з ліпеня 1943 года служыў у Народным Войску Польскім у 1-й Варшаўскай танкавай брыгадзе імя Гerояў Вестэрплятэ ў званні паручніка.

Пасля заканчэння баявых дзеянняў Іван вырашыў застацца ў Польшчы, і ў снежні 1945 года накіраваў на імя галоўнага ўпаўнаважанага польскага ўраду па справах эвакуацыі польскага насельніцтва ў Баранавічах прашэнне аб дазволе выезду ў Польшчу яго сёстрам Ірыне і Юзэфе. Праз некаторы час дзяўчыны атрымалі дазвол на «эвакуацыю» з БССР.

Аб тым, якая няпростая міжнародная сітуацыя была тады, сведчыць Пастанова гарадскога суда ў г. Еленя Гура ад 30 кастрычніка 1946 года, якім Івану Сапоцьку было дазволена не прадстаўляць у дзяржустанову выпіску з метрыкі, таму што «мястэчка Краснае ў Маладзечанскім павеце, Віленскага ваяводства, дзе Сапоцька быў хрышчоны, цяпер знаходзіцца на тэрыторыі Савецкай Расіі (так у дакуменце. — **І.М.**), і паездка туды нямагчымая ў сувязі з неўрэгуляванымі міжнароднымі адносінамі паміж краінамі».

Хутка ў Польшчу прыехала Ірэна Сапоцька, а... Юзэфа засталася ў БССР. Чаму так адбылося, цяпер сказаць цяжка. Мабыць, хтосьці перашкодзіў старэйшай сястры далучыцца да сям'і. А можа, яна банальна не паспела сабраць патрэбныя дакументы.

Хутка Ірына атрымала грамадзянства ўжо сацыялістычнай Польшчы і выйшла замуж. А Юзэфе Іванаўне давялося чакаць амаль 10 гадоў на чарговую хвалю рэпатрыяцыі. У красавіку 1958 года жанчына накіравала «пакет» дакументаў у Амбасаду ПНР. Здзіўляе, што ўжо праз некалькі тыдняў з польскай дыпустановы прыйшоў адказ, які напэўна расчараваў Юзэфу Сапоцька. У лісце, у прыватнасці, адзначалася, што ў адпаведнасці з умовай ад 25 сакавіка 1957 года Юзэфа Сапоцька не мае права на рэпатрыяцыю, бо... з'яўляецца беларускай па нацыянальнасці. Хутчэй за ўсё, у савецкіх дакументах нацыянальнасць жанчыны была запісана як беларуская. Таму супрацоўнікі бюро па рэпатрыяцыі адмовілі Юзэфе Іванаўне ў праве на выезд на жыхарства ў Польшчу. Не дапамаглі нават дакументы з пацвярджэннем таго, што частка сям'і ўжо жыве ў Польшчы. Вось так, па жывому, была падзелена адна з заходнебеларускіх сямей. А такіх сямей былі сотні.

Тлумачэнне такіх паводзін польскага боку мы знаходзім у стэнаграме размовы тагачаснага міністра ўнутраных спраў Польшчы В. Віха з яго савецкім калегам М. Дударавым. Паляк падкрэсліваў, што ў 1958 годзе паток перасяленцаў пачалі змяншаць, таму што польскія ўлады не спраўляліся з наплывам суайчыннікаў з-за ўсходняй мяжы і не маглі іх забяспечыць усім неабходным. У гарадах месца для рэпатрыянтаў не было, бо не хапала жылля і рабочых месцаў. Адзінае месца — гэта вёска, але і там было шмат праблем. Напрыклад, не хапала свабоднай зямлі.

Савецкі бок таксама спрабаваў кантраляваць працэс рэпатрыяцыі польскага насельніцтва з БССР. У Маскве разумелі, што масавы зыход можа прывесці да апусташэння заходнебеларускіх вёсак, і хто тады будзе падымаць народную гаспадарку?! Да таго ж савецкія ўлады спрабавалі перашкодзіць асобам яўрэйскай нацыянальнасці выкарыстаць ад'езд у Польшчу як шанец пазней эміграваць у Ізраіль.

Усяго падчас другой хвалі рэпатрыяцыі з БССР у ПНР перасялілася каля 100 630 чалавек. Перасяленцы ў асноўным размяшчаліся на заходніх тэрыторыях Польшчы і былі працаўладкаваныя ў сельскай гаспадарцы. Падчас рэпатрыяцыі 1955–1959 гадоў у ПНР прыехала шмат будучых знакамітасцяў, у тым ліку і ўраджэнец Лідчыны Чэслаў Выджыцкі, больш вядомы як Чэслаў Немен.

А што ж з Юзэфай Сапоцька? У сярэдзіне 1960-х гадоў яна звярнулася ў АВІР Маладзечна з просьбай аформіць для яе сястры Ірыны запрашэнне для візіту ў БССР. Ці ўбачыліся беларуска Юзэфа і полька Ірына, сёння ўжо ніхто не ведае.

# Смейцеся, «адмарозкі», смейцеся!

Алег НОВІКАЎ

**Жарты на плакатах беларускіх дэманстрантаў кшталту «Гэта ўсё фаташоп», «Дзеду не наліваць» выклікаюць усмешку. Між тым, менавіта такіх усмешак кожная ўлада павінна баяцца больш за ўсё.**



Пратэсты ў Хабараўску, 2020 год



Сербскі «Отпор»

Рэвалюцыі — справа сур'ёзная. Успомніце рэвалюцыянераў ХХ стагоддзя — Леніна, Маа, Фідэля Кастра або Чэ Гевара. Іх партрэты наўрад ці здольныя выціснуць усмешку. І паглядзіце на цяперашнія пратэсты ў той жа Беларусі, каб канстатаваць: замест злавесных пахмурных рэвалюцыянераў мы, як правіла, бачым вясёлых людзей.

І гэта вельмі трывожны сігнал для любога ўрада. Возьмем сербскі прыклад. У канцы 1990-х гадоў прадэмакратычны рух Сербіі «Отпор» быў усяго толькі мікраскапічнай групоўкай з 20 студэнтаў, якія, праўда, былі настроеныя на рашучыя дзеянні. Аднак замест таго, каб зладзіць дзяжурны пікет супраць аўтарытарнага рэжыму Слабадана Мілошавіча, яны ўзялі пустую бочку з-пад нафты і прылялілі на яе фатаграфію гаранта. Затым яе ўсталявалі ў цэнтры найбуйнейшага гандлёвага раёна Бялграда ды паставілі побач бейсбольную біту. Неўзабаве на вуліцы выстраіліся дзясяткі чалавек, кожны з якіх чакаў сваёй чаргі, каб ударыць «Мілошавіча» — чалавека, якога многія не любілі, але якога большасць баялася публічна крытыкаваць.

Прыкладна праз 30 хвілін да той бочкі прыехала паліцыя, якая аказалася перад пытаннем, што з гэтым рабіць. Адзінае, што яны прыдумалі, — арыштавалі бочку. Здымак двух паліцэйскіх, якія цягнуць бочку да паліцэйскай машыны, стаў лепшай фотасесіяй у Сербіі. Мілошавіч і яго сябры сталі пасмешышчам нацыі, а назва «Отпор» — намінальным найменнем супраціву. Хутка сам «Отпор» з невялікай студэнцкай тусоўкі ператварыўся ў нацыянальны рух, які налічваў больш за 70 тысяч чальцоў. Гэта стала пралогам краху Мілошавіча, які, напэўна, нават не мог уявіць, што яго рэжым здольны абрынуць жарт з бочкай.

На вопыце Сербіі, «арабскай вясны» і яшчэ шэрагу апошніх рэвалюцый або пратэстаў палітолагі намагаюцца сфармуляваць асноўныя пагрозы, які нясе смех аўтакратам і дыктатарам. Перш за ўсё, гумар, натуральна, разбурае сакральнасць і аўтарытэт улады. Напрыклад, у Егіпце прэзідэнта Махамеда Мурсі прадставілі ў ролі героя «Супер Марыё». У Хабараўску дэманстранты вельмі часта малююць Пуціна ў ролі героя папулярнага мультсерыялу South Park.

Па-другое, сатыра дазваляе не даць пратэстам «здзьмуцца», электрызуе натоўп. Гэтую фішку заўважылі і актыўна выкарыстоўвалі маладыя іспанскія левыя з руху Los indignados. Сатырычныя тэатральныя паказы, флэшмобы і, здавалася б, спантанныя воплескі, спевы і танцы сталі адметнымі рысамі руху. Як прызнавала прэса, яны дапамаглі знізіць напружанасць і падтрымаць энтузіязм актывістаў на працягу двух гадоў (столькі часу працягвалася кампанія, арганізаваная Los indignados).

Нарэшце, праявы гумару руйнуюць шаблонныя вобразы апазіцыі, якія фарміруе афіцыёз. Пратэстоўцы, якія смяюцца, менш за ўсё выглядаюць агентамі замежных разведак або нацэленымі на гвалт радыкаламі. У гэтай логіцы дзейнічалі аўтары праекта Red Sunday (Чырвоная нядзеля) у Тайландзе ў часы наступу рэакцыі. Яны злучылі паўсядзённую дзейнасць (напрыклад, абеды, закупкі, заняткі спортам) з палітычным пратэстам. Такім чынам іх флэшмобы не выглядалі як звычайная палітычная акцыя пратэсту, за выключэннем таго, што іх удзельнікі выкарыстоўвалі чырвоны колер.

Адным з самых запамінальных флэшмобаў Red Sunday быў калектыўны сеанс аэробікі ў найбуйнейшым грамадскім парку Бангкоку ў ліпені 2010 года. Каля 400 удзельнікаў былі апранутыя ў чырвоную спартыўную форму, яны зрабілі адмысловы макіяж, каб нагадаць публіцы пра нядаўнія рэпрэсіі. Абсалютны непрафесіяналізм танцораў выклікаў у публікі смех і дапамог прыцягнуць увагу да тэмы паліцэйскага гвалту. Падобныя шоу стварылі прастору для палітычнай актыўнасці ў часы роспачы і нармалізавалі акты супраціву — асабліва з боку сярэдняга класа.

Прыклады выкарыстання гумару дэманструюць, што такога кшталту пратэст можа заахвоціць людзей уяўляць сабе іншыя палітычныя рэаліі. Гэтая здольнасць уяўляць іншае — надзвычай важная для сацыяльных зменаў. Людзі могуць быць палітычна пакорлівымі толькі тады, калі не бачаць альтэрнатывы, і — як вынік — змены ўяўляюцца як немагчымыя.

І самае важнае. Палітолагі таксама фіксуюць дзіўны эфект выкарыстання гумару для самой улады. Атрымліваецца, што за кошт смеху актывісты ставяць аўтакратаў перад невырашальнай дылемай: як рэагаваць на сцёб. Натуральна, урад можа расправіцца з тымі, хто іх высмейвае. Аднак гэта зробіць імідж адміністрацыі яшчэ больш недарэчным. Другая магчымая рэакцыя — ігнараваць сатырычных правакацый. Аднак у такім выпадку ўзнікае рызыка ўцягвання ўсё большай колькасці людзей у пратэстную масу.

Такім чынам, сутыкнуўшыся з актам нахабнага жартоўнага здзеку, дэспатычныя рэжымы трапляюць у пастку. Што б яны ні рабілі ў такой сітуацыі, яны прайграюць. Зрэшты, гэта заўважыла яшчэ Гана Арэнт, якая ў свой час пісала: «Найвялікшы вораг улады — пагарда, а смех — самы надзейны спосаб выклікаць яе».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

«Вам трэба ўплыў, спадар Пуцін? Вам хочацца, каб у Расіі быў уплыў у свеце? Тады станьце на абарону права і згоды ў Беларусі. Тым самым вы абароніце інтарэсы Расіі, ае ўплыў, яе імідж адказнай дзяржавы замест таго, каб пастаянна іх падрываць».

**Libération (Францыя)**

«Ціханоўская вымушаная была схавацца ў Вільні, у Літве, дзе працягвае заставацца сімвалам супраціву. Аднак разнастайная па сваім складзе апазіцыя не гатовая да выканання самых галоўных задач, і яе прадстаўнікі, верагодна, няздольныя нават узначаліць гарадскі савет Мінска. .

**The National Interest (ЗША)**

«Адсутнасць яснасці пазіцыі наконт Беларусі таксама грае на руку прарасійскім сілам ва Украіне, якія ўжо прапагандуюць дружалюбныя Крамлю наратывы пра Беларусь. Дыпламатыя не можа быць сінонімам бязлівасці. Што тычыцца беларусаў, то хатнія заданні яны мусяць рабіць самастойна. Аднак не варта пакідаць братні народ. Калі нашаму ўраду зноў не хапае мужнасці, мы можам павучыцца ў краінаў Балтыі».

**«Газета» (Украіна)**

«Падзеі ў Беларусі, а таксама магчымасць таго, што гэтая краіна акажацца на няпэўны час пад уплывам Расіі, патрабуюць дзеянняў з боку Захаду і Украіны. Надышоў час дзейнічаць, а не вагацца. Варта сказаць адкрыта: для гэтага трэба, каб Еўрасаюз пераасэнсаваў сваё агульнае стаўленне да нашага рэгіёна. На практыцы гэта азначае, што трэба даць Беларусі, Грузіі, Малдове і Украіне ясны сігнал, што сяброўства ў Еўрасаюзе і ў NATO для іх магчымае, калі будзе распрацаваны ясны план па падрыхтоўцы да ўступлення, і гэты план будзе рэалістычным».

**Financial Times (Вялікабрытанія)**

«З дыпламатычнага пункту гледжання, адзіна магчымы варыянт — непрыкметна зблізіцца з Лукашэнкам праз кагосьці, каму ён будзе давяраць, напрыклад, былога еўрапейскага лідара, які пайшоў з палітыкі. Гэты эмісар дапаможа распрацаваць Лукашэнку стратэгію сыходу — са зручным выхадам на пенсію ў аддаленым месцы (былы кароль Іспаніі падкажа) і імунітэтам ад судовага пераследу. Такое рашэнне для ідэалістаў падаецца непрымальным, але задумайцеся пра патэнцыйна катастрафічныя альтэрнатывы. Але нават гэтая дыпламатыя амаль безнадзейная».

**The Daily Telegraph (Вялікабрытанія)**

«Беларускі кіраўнік Лукашэнка можа цешыцца: з прычыны спрэчных прэзідэнцкіх выбараў Еўрасаюз мае намер ўвесці санкцы супраць Беларусі, але, відавочна, не супраць яго асабіста. Гэтым ён абавязаны перш за ўсё Германіі».

**Die Welt (Германія)**

# Рэфармуй — не рэфармуй...

Алег НОВІКАЎ

**Улада абяцае паступовыя рэформы, якія, паводле яе разлікаў, павінны як мінімум улагодзіць абстаноўку. Аднак, як сведчыць гісторыя, падобныя манеўры часта мелі непрадказальны вынік.**


Фота www.iz.ru

Хаця анансаваны Лукашэнкам пакет канстытуцыйных рэформаў вядомы толькі ў агульных контурах (улады абяцаюць узмацненне заканадаўчай галіны ўлады і мясцовага самакіравання), палітолагі актыўна спрачаюцца пра больш канкрэтныя дэталі магчымага будучага палітычнага ладу Беларусі.

Дамінуе меркаванне, што нас чакае нешта накшталт аналагу расійскай палітычнай мадэлі, якая дапускае адносна сумленныя выбары і прысутнасць умеранай апазіцыі ў парламенце. Хутчэй за ўсё, у Асноўным законе будуць таксама прапісаныя гарантыі прававога імунітэту для кіраўніка пасля завяршэння яго кадэнцыі. Таксама ў тэксце будучага варыянта Канстытуцыі варта чакаць замацаванне геапалітычнага выбару на карысць Масквы.

У прынцыпе, у прыкладна тых самых межах збіраліся рэфармаваць свае сістэмы і шмат камуністычных элітаў некаторых усходнееўрапейскіх краін у другой палове 1980-х гадоў. Прызнаючы бесперспектыўнасць аўтарытарнай сацыялістычнай мадэлі, камуністы былі зусім не супраць, каб трошкі адкруціць гайкі, каб гарантаваць сабе далейшую прапіску ва ўладных кабінетах.

Пры гэтым камуністамі-рэфарматарамі была дапушчана стратэгічная памылка. Спакуса чарговай «адлігі» ўжо не прыцягвала людзей. Грамадства патрабавала кардынальных зменаў. У выніку, калі працэсы асцярожнай дэмакратызацыі стартавалі, камуністы хутка гублялі над імі кантроль. Наадварот, пад ціскам грамадства даводзілася самім радыкалізоўваць палітычную павестку.

Зрэшты, недзе такія рэформы нават не паспелі стартаваць. Напрыклад, у Чэхаславакіі да канца 1989 года ў нетрах дзяржапарату і спецслужбаў саспела разуменне непазбежнасці пераменаў і запыт на мяккі транзіт улады ад сталіністаў-артадоксаў да менш адыёзнай часткі кіруючай наменклатуры. Але ўсе схемы такога транзіту былі пахаваныя цунамі шматтысячных дэманстрацый студэнтаў у лістападзе 1989-га. На дзясяты дзень пратэстаў больш за палову дэмаралізаваных чальцоў Цэнтральнага камітэта кампартыі сышло ў адстаўку. Яшчэ праз тыдзень быў сфарміраваны ўрад нацыянальнай згоды з удзелам апазіцыі.

Цікавую фішку для таго, каб застацца ва ўладзе, прыдумалі польскія камуністы. У адпаведнасці з пагадненнямі круглага стала — дамовы паміж урадам і апазіцыяй, — пасада прэзідэнта Польшчы на бліжэйшыя шэсць гадоў рэзервавалася за іх лідарам генералам Войцэхам Ярузэльскім. Пры абранні ніжняй палаты — Сейма — уводзіліся гарантаваныя квоты для партыі камуністаў, яе сатэлітаў і афіцыйных каталіцкіх арганізацый. За імі рэзервавалася 65% месцаў у ніжняй палаце (299 мандатаў). Пры гэтым 35% дэпутатаў (161 мандат) абіраліся на альтэрнатыўнай аснове. Толькі Сенат павінен быў абірацца цалкам дэмакратычна.

Аднак уся гэтая хітрая прававая канструкцыя павалілася на выбарах 4 чэрвеня 1989 года. Яны завяршыліся пераканаўчай перамогай кандыдатаў ад прафсаюза «Салідарнасць». Апазіцыя атрымала амаль усе месцы ў сенаце і ўсе мандаты дэпутатаў Сейма, якія абіраліся на альтэрнатыўнай аснове. Вынікі выбараў паставілі пад пытанне легітымнасць камуністычнага рэжыму. Апошні камуністычны прэм'ер-міністр так і не здолеў сфарміраваць урад, перадаўшы гэта права дэмакратам. Што да Ярузэльскага, то ён заставаўся прэзідэнтам да снежня 1990 года, калі яго змяніў Лех Валенса.

**Сыходзячы з досведу трансфармацыі сацыялістычных краін, можна сцвярджаць, што паўмерамі вырашыць палітычны крызіс наўрад ці атрымаецца**

Канфузам скончыліся і спробы ўсходненямецкіх камуністаў застацца ва ўрадавых кабінетах за кошт саступак. Гэтыя саступкі ў асноўным тычыліся правілаў выезду ў Заходнюю Германію для грамадзян ГДР. Для гэтага ўсходнім немцам быў патрэбны дазвол уладаў. Таму ўлетку 1989-га тысячы грамадзян ламануліся ў іншыя ўсходнееўрапейскія краіны ў надзеі патрапіць адтуль у ФРГ праз заходненямецкія дыпламатычныя ўстановы.

Каб збіць калектыўную моду на эміграцыю, увечары 9 лістапада ў прамым эфіры тэлебачання прадстаўнік ураду ГДР абвясціў новыя правілы выезду і ўезду з краіны. Згодна з прынятым рашэннем, з наступнага дня грамадзяне ГДР маглі вольна атрымаць візы для неадкладнага наведвання Заходняга Берліна і ФРГ. Натхнёныя навіной, сотні тысяч усходніх немцаў, не чакаючы прызначанага тэрміну, накіраваліся да мяжы і пры поўнай апатыі памежнікаў прарваліся на той бок кардону. Берлінскі мур разбурыўся, а разам з ім пачаўся і дэмантаж ГДР.

Цікавую камбінацыю распрацавалі ў 1989-м улады Балгарыі. Тут вырашылі нічога не змяняць, акрамя кіраўніка кампартыі Тодара Жыўкава. Апошні сапраўды быў сімвалам старога рэжыму, і займаў пасаду фактычнага кіраўніка краіны з 1954 года. Паводле разлікаў улады, адстаўка Жыўкава павінна была задаволіць запыт грамадства на перамены. Аднак змена шматгадовага кіраўніка краіны не супакоіла балгараў, а наадварот, прывяла да стыхійнай лібералізацыі грамадскага жыцця, масавых мітынгаў і фарміравання новых палітычных сіл. У чэрвені 1990 года ў краіне прайшлі першыя свабодныя выбары з 1931 (!) года. Іх выйграла партыя сацыялістаў (так называліся былыя камуністы), аднак ініцыятыва засталася на баку дэмакратаў, якія кантралявалі вуліцу і мясцовыя муніцыпалітэты. Хутка ўрад сацыялістаў быў вымушаны падаць у адстаўку, нягледзячы на дэпутацкую большасць.

Як бачым, спробы супакоіць грамадства за кошт касметычнага рамонту палітычнай сістэмы могуць мець непрадказальныя наступствы — у тым ліку для іх аўтараў. Сыходзячы з досведу трансфармацыі сацыялістычных краін, можна, хутчэй, сцвярджаць, што падачкамі і паўмерамі вырашыць сістэмны палітычны крызіс наўрад ці атрымаецца. У лепшым выпадку, гэта будзе толькі адтэрміноўка.

## ЗАМЕЖНЫЯ ПАЛІТЫКІ ПРА БЕЛАРУСЬ

**Аляксандр Квасьнеўскі, экс-прэзідэнт Польшчы:**



«Калі альтэрнатывай будзе суверэнная Беларусь з Лукашэнкам ці адсутнасць суверэнітэту Беларусі ў сувязі з канцом Лукашэнкі, наш выбар павінен быць ясным — суверэнная Беларусь. Але галоўнае пытанне — жаданне і воля беларускага народа. На працягу доўгага часу беларускі народ не быў занадта актыўны на арэне барацьбы за дэмакратыю, але ўсё, што мы бачылі ў мінулым месяцы, у апошнія тыдні, паказвае, што беларусы хочуць аднаго — яны хочуць сумленных і свабодных выбараў. І Еўропа павінна цалкам падтрымаць гэтую ідэю, таму што гэта — адна з галоўных, фундаментальных каштоўнасцяў еўрапейскай супольнасці».

**Лінас Лінкявічус, міністр замежных спраў Літвы:**



«Я мяркую, што [у Расіі] зробяць усё, каб яе [Беларусь] хутчэй далучыць нейкім чынам. У што яны гэта загорнуць, паглядзім. Але тут усё адбываецца на нашых вачах. (...) Беларускі народ не павінен адчуваць сябе пакінутым. Мы павінны даць ім магчымасць быць сярод дэмакратычных дзяржаў. Калі яны вырашаць правесці рэформы, то яны вызначана могуць чакаць больш цеснага супрацоўніцтва з ЕС, якое прынясе карысць грамадству».



**Хайка Маас, кіраўнік МЗС Германіі:**

«Як і Еўрасаюз, мы не прызнаем вынікі выбараў. Калі ўсё Лукашэнкі не адрэагуюць, у далейшым будуць уведзеныя санкцыі. Я патрабую ад Лукашэнкі пайсці на перамовы з апазіцыяй, правесці паўторныя выбары і неадкладна спыніць затрымліваць мірных пратэстуючых і ўжываць гвалт, каб ён паважаў правы чалавека і свабоду прэсы».

**Дзмітрый Кулеба, міністр замежных спраў Украіны:**



«Прапанова Лукашэнкі стварыць беларуска-ўкраінскую саюзную дзяржаву, якую ён высунуў у 2014 годзе, успрымаецца з іроніяй, паколькі Украіна даўно парвала з саюзным мінулым і любымі яго варыяцыямі. Мне цяжка ўявіць гэтую «саюзную дзяржаву» не таму, што я не бачу Беларусь вельмі блізкай краінай, а таму, што я не разумею, навошта нам для гэтага рабіць саюзную дзяржаву. Існуе адзіны спосаб у нейкай меры рэалізаваць ініцыятыву Лукашэнкі — калі і Украіна, і Беларусь стануць чальцамі Еўрапейскага саюза».



**Юрый Луйк, міністр абароны Эстоніі:**

«Лукашэнка гуляе ў жорсткую і небяспечную гульню на беларуска-польскай і беларуска-літоўскай мяжы. Пры гэтым ён спрабуе ўцягнуць у канфлікт Расію: Масква не гатовая бясконца падтрымліваць Лукашэнку, улічваючы ў тым ліку яго антырасійскія заявы да выбараў. Аднак, мяркуючы па кантактах Масквы і Мінска ў апошнія дні, Расія хоча цалкам выкарыстоўваць перыяд слабасці Лукашэнкі, які адчувае сябе крыху больш упэўнена за кошт хаця б фармальнай падтрымкі Масквы».

# Міністэрства абароны

## Якая роля арміі ў задушэнні мірных акцый пратэсту

Дзяніс ІВАШЫН

**У межах гэтага журналісцкага расследавання былі вывучаныя кадры сотняў відэаматэрыялаў, безліч фотаздымкаў, зробленых падчас масавых вулічных пратэстаў па ўсёй Беларусі ў жніўні і верасні 2020 года. Даследаваныя дзясяткі сведчанняў наўпроставых відавочцаў. У выніку можна з упэўненасцю сцвярджаць: апроч супрацоўнікаў органаў Унутраных спраў, у тым ліку байцоў спецпадраздзяленняў, унутраных войскаў, у жорсткім задушэнні масавых пратэстаў непасрэдна ўжываюцца сілы і сродкі Узброеных сіл (УС) Беларусі.**



Фота зводнай групы з двума бронеаўтамабілямі «Цмок» на скрыжаванні вуліц Гарнавых і Гагарына, 11 жніўня 2020 года. Фота autogrodno.by

Варта асабліва зазначыць, што Узброеныя сілы Беларусі цалкам інтэграваныя з фарміраваннямі 20-й агульнавайсковай арміі і, меркавана, 1-й танкавай арміі УС Расійскай Федэрацыі ў расійска-беларускую Адзіную рэгіянальную групоўку войскаў (сілаў). Разам з Расіяй створаная адзіная сістэма супрацьпаветранай абароны, Беларусь уваходзіць з РФ ва ўсе мажлівыя вайскова-палітычныя хаўрусы, супольная абарона тэрыторыі так званага «Саюзнага Гасударства» ўхваленая ў адзінай вайсковай дактрыне.

Шматлікія прадстаўнікі вышэйшага камандавання УС РБ фігуруюць у матэрыялах па вызначэнні патэнцыйных агентаў уплыву Расіі як выпускнікі расійскіх вайсковых ВНУ. Шмат хто з іх скончыў, перадусім, Вайсковую акадэмію Генштаба УС РФ. Сярод іх і начальнік Генштабу УС РБ — першы намеснік міністра абароны Беларусі Аляксандр Вальфовіч і камандуючы Сіламі спецыяльных аперацый Вадзім Дзенісенка.

Відавочна, задзейнічанне сілаў і сродкаў беларускіх Узброеных сіл для задушэння мірных пратэстаў не было аднабаковай ініцыятывай рэжыму Лукашэнкі. У гэтым кантэксце рэгулярныя рэйсы расійскіх спецбортаў у жніўні і верасні, у тым ліку Міністэрства абароны Расіі ў Беларусь, могуць быць сведчаннем скаардынаваных дзеянняў вышэйшага вайскова-палітычнага кіраўніцтва Беларусі і Расіі. Пацвярджэнне Пуціным гатоўнасці выкарыстаць на просьбу Лукашэнкі сфарміраваны рэзерв расійскіх сілавікоў толькі дадаткова павялічвае верагоднасць гэтага.

Першым пра выкарыстанне Узброеных сілаў у межах забеспячэння праваахоўных дзеянняў заявіў 12 жніўня начальнік УУС Брэсцкага аблвыканкама Аляксандр Астрэйка. Ён пацвердзіў факт выкарыстання ў Брэсце 10 жніўня падраздзяленняў 38-й асобнай паветрана-дэсантнай брыгады, якая структурна ўваходзіць у Сілы спецыяльных аперацый УС РБ. Вайскоўцы гэтага армейскага фарміравання былі задзейнічаныя нібыта толькі ў межах ачаплення той тэрыторыі, на якой, цытуем словы Астрэйкі, «ужо быў аднаўлены парадак, а таксама для фізічнага кантролю, каб не даць іншым правапарушальнікам туды вярнуцца і наноў праводзіць нейкія дзеянні».

Цікава, што, паводле сведчанняў Астрэйкі, рашэнне пра мабілізацыю байцоў 38-й брыгады ён ухваляў асабіста. Аднак вядома, што Узброеныя сілы РБ падпарадкоўваюцца Міністэрству абароны, але не МУС. Гэта цалкам розныя ведамствы са сваёй іерархіяй і структурай камандавання.

17 жніўня ўжо начальнік УУС Гродзенскага аблвыканкама Вадзім Сіняўскі заявіў, што зафіксаваная ў Гродне падчас пратэстаў вайсковая машына з кулямётам на даху выкарыстоўвалася ў якасці прыкрыцця, а сама зброя была зададзеная нібыта халастымі патронамі. Як і ў выпадку з Астрэйкам, міліцэйскі чыноўнік даў тлумачэнні за дзеянні абароннага ведамства, да якога не мае аніякага дачынення.

Базавай інфармацыяй, на якой грунтуецца гэтае расследаванне, з'яўляюцца факты выкарыстання сілаў і сродкаў УС РБ у Гродна. Нягледзячы на намаганні дзяржслужбоўцаў схаваць праўду, гэтыя факты цалкам раскрываюць мэтанакіраванае задзейнічанне сілаў і сродкаў беларускай арміі для задушэння мірных пратэстаў.

### Ідэнтыфікацыя і выяўленне

У межах гэтага расследавання сілавікоў, якія арганізоўвалі гвалтоўныя затрыманні з дапамогай транспартных сродкаў, сярод якіх былі бронеаўтамабілі, — называем байцамі зводнай групы. Паводле сведчанняў відавочцаў, часта яны былі апранутыя ў чорную форму з балаклавамі, без знакаў адрозненняў і пазнакаў. Аднак нават нягледзячы на надпісы прыналежнасці да атраду міліцыі асаблівага прызначэння, гэта не абавязкова маглі быць байцы АМАПу.

Выкарыстанне зводных групаў для задушэння мірных акцый пратэстаў стала асабліва характэрнай праявай карнай дзейнасці сілавікоў перадусім у Гродна. У першыя дні пратэстаў, калі адбываліся найбольш жорсткія катаванні пратэстоўцаў, досыць часта ў зводных групах фіксаваліся адразу па два бронеаўтамабілі.

Было вырашана здзейсніць іх ідэнтыфікацыю і вызначэнне прыналежнасці да пэўнага сілавога ведамства. Варта зазначыць, што шмат хто блытае іх з расійскімі браневікамі «Тыгр» ці расійска-беларускімі «ЛісПМ», якія маюцца на ўзбраенні Унутраных войск МУС РБ, і якія таксама застасоўваюцца для разгону пратэставых акцый.

Вызначана, што ў складзе зводных групаў у Гродна выкарыстоўваюцца кітайскія бронеаўтамабілі CS/VN3 Dajiang (大江, кіт. «Вялікая Рака»).

### CS/VN3 Dajiang («Цмок»)

Упершыню лёгкабраняваныя машыны CS/VN3 Dajiang былі прадэманстраваныя на кітайскай выставе ўзбраенняў Zhuhai Air Show у 2014 годзе. Яны серыйна вырабляюцца з 2013 года прадпрыемствам Chongqing Tiema Industries Group Co. (Завод №256, г. Чунцын у цэнтральнай частцы Кітая), якое ўваходзіць у кампанію China North Industries Group Corporation (CNGC, больш вядомая з скаротам Norinco). Пэўная колькасць гэтых бронеаўтамабіляў маецца на ўзбраенні Народнай арміі абароны Кітая і Народнай збройнай паліцыі КНР.

На ўзбраенне беларускай арміі яны паступілі ў 2017 годзе, ім надалі ўласную назву «Цмок» (па-руску «Дракон»). Выяўленыя не менш за дзве партыі паставак гэтых браневікоў, якія ў Беларусь з Кітая былі дастаўленыя кітайскім транспартным самалётам кампаніі Air China Cargo ў чэрвені 2017 года, а таксама ў студзені 2018 года.

Характэрна, што Беларусь стала першай краінай, у якую Кітай распачаў экспарт гэтага бронеаўтамабіля. Пастаўкі ажыццяўляліся паводле пагаднення паміж Міністэрствам абароны Беларусі і Міністэрствам нацыянальнай абароны Кітая па наданні бескаштоўнай вайскова-тэхнічнай дапамогі.

Для патрэбаў Узброеных сілаў РБ яны былі значна дапрацаваныя. У Беларусь быў пастаўлены перадусім штурмавы варыянт гэтых бронеаўтамабіляў, прызначаных у тым ліку для выканання задачаў у гарадскіх умовах. Яны прызначаныя для хуткага разгортвання і правядзення спецаперацый.

Паводле слоў намесніка міністра абароны па ўзбраенні Сяргея Сіманенкі, агулам з Кітая планавалася паставіць у Беларусь да 30 гэтых машын.

«Цмокі» маюць браню 4-га класа, якая вытрымлівае кулю калібрам 7,62 мм і траплянне аскепкаў. Кузаў выраблены ў выглядзе бронякапсулы, яна можа абараніць ад падрыву фугасу ў некалькі кілаграм у тратылавым эквіваленце. Броняшкло вытрымлівае траплянне кулі калібрам 5,45 мм. У браневіку могуць размясціцца да 9 чалавек у поўным баявым экіпіраванні. Маса «Цмока» складае 8700 кг, ён абсталяваны рухавіком з магутнасцю 245 л.с. і аб'ёмам 7 л, здольны разганяцца да 120 км на гадзіну, пры гэтым на 100 км спажывае прыблізна да 30 літраў паліва.

На даху бронеаўтамабіля размешчаная адмысловая паваротная платформа для 12,7-мм буйнакалібернага кулямёта НСВТ.

Спачатку «Цмокі» паступілі ў батальён аховы 361-й базы аховы і абслугоўвання цэнтральных органаў вайсковага кіравання (ЦОВК) для праходжання даследніцкіх выпрабаванняў па вызначэнні тэхнічных характарыстык, заяўленых заводам-вытворцам, і для тэставання машыны ў палявых і гарадскіх умовах. Упершыню выкарыстанне гэтых браневікоў беларускай арміяй было зафіксавана падчас расійска-беларускіх супольных стратэгічных вучэнняў «Захад-2017», а таксама супольных аператыўных вучэнняў «Шчыт Саюза – 2019».

У першую чаргу гэтыя бронеаўтамабілі выкарыстоўваюць Сілы спецыяльных аперацый, а таксама вайсковыя часткі ЦОВК. Вызначана, што ў гродзенскі гарнізон браневікі «Цмок» паступілі на ўзбраенне адной з частак ЦОВК, а менавіта ў 250-ы асобны батальён аховы і абслугоўвання (250-ы АБАА, в/ч 97035) камандавання і кіравання Заходняга аператыўнага камандавання (ЗАК). Таксама пэўная іх колькасць можа знаходзіцца і ва ўзбраенні 22-й асобнай роты спецыяльнага прызначэння, якая дыслакуецца ў тым жа вайсковым гарадку, што і 250-ы АБАА (пункт сталай дыслакацыі — Гродна, вул. Славінскага, 2).




Пастаўка першай партыі «Цмокаў» з Кітаю, чэрвень 2017 г.

### Прыналежнасць бронеаўтамабіляў да МА РБ

Як правіла, усе аўто зводнай групы разам з армейскімі браневікамі «Цмок» не маюць нумароў дзяржрэгістрацыі. Зроблена гэта, на думку аўтара, наўмысна, дзеля ўскладнення вызначэння прыналежнасці аўто да пэўных падраздзяленняў сілавых ведамстваў. Відавочна, паводле задумы, для сярэднестатыстычнага грамадзяніна зводная група павінна выглядаць у якасці сілаў і сродкаў адной сілавой структуры, а не адразу некалькіх. Да таго ж яўнае выкарыстанне вайсковай тэхнікі з нумарамі абароннага ведамства для, па-сутнасці, правядзення карных аперацый супраць мірнага насельніцтва можа значна падарваць давер да арміі, асноўная функцыя якой — абарона дзяржавы ад знешніх ворагаў.

Каб адкінуць усе сумневы, што ў тэроры супраць сваіх жа суграмадзянаў былі выкарыстаныя сілы і сродкі беларускай арміі, было здзейсненае выяўленне знакаў дзяржрэгістрацыі зафіксаваных у зводных групах бронеаўтамабіляў.

Кожны бронеаўтамабіль зводнай групы мае ўнікальную камуфляжную афарбоўку з выкарыстаннем трохколернай схемы. З дапамогай параўнальнага аналізу гэтага вайсковага маскавання ў фота зафіксаваных машынаў зводнай групы з фотаздымкамі і відэа адкрытага доступу, перадусім з параду войскаў гродзенскага гарнізону з 2018 і 2019 гадах, былі дакладна вызначаныя нумары дзяржрэгістрацыі бронеаўтамабіляў: МК 0717-0 і МК 0719-0.

Параўнальны аналіз фотаздымкаў і кадраў відэа, з дапамогаю якога былі выяўлены нумар дзяржрэгістрацыі аднага з «Цмокаў» у складзе зводнай групы — МК 0719-0. Аналагічным чынам быў вызначаны нумар і іншага бронеаўтамабіля

# абараняе не народ



Падчас вучэнняў «Шчыт Саюза – 2019». Фота mil.ru

Паводле дзяржстандарту РБ СТБ 914-99 «Знакі рэгістрацыйныя і знак адметны транспартных сродкаў», код рэгістрацыйнага знаку «0» замацаваны за наступнымі ведамствамі: Дзяржаўны памежны камітэт, Міністэрства абароны, Унутраныя войскі МУС, транспартныя сродкі КДБ РБ, замацаваныя на праве аператыўнага кіравання за в/ч 04152, а таксама тыя, што знаходзяцца ў штаце вайсковага часу. Серыя МК і МО — гэта Міністэрства абароны Беларусі.

30 жніўня два бронеаўтамабілі «Цмок» былі непасрэдна зафіксаваныя ля штабу ЗАК у Гродна, а праз тыдзень, 6 верасня, бранявік зводнай групы быў зафіксаваны ў выставе вайсковай тэхнікі і ўзбраення, прымеркаванай да гадавога свята Заходняга аператыўнага камандавання.

## Паляванне «Цмокаў» на людзей

Пасля ідэнтыфікацыі і вызначэння прыналежнасці бронеаўтамабіляў зводных групаў пяройдзем да не менш важнага пытання. Ці адпавядаюць рэчаіснасці заявы прадстаўнікоў МУС, а таксама вышэйшага вайскова-палітычнага кіраўніцтва Беларусі, што падчас «пацыфікацыі» пратэставай актыўнасці армейскія падраздзяленні выкарыстоўваліся выключна для прыкрыцця, а таксама фізічнага кантролю ачэпленай тэрыторыі?

Разгледзім наступную факталагічную і верыфікаваную базу доказаў, якая гэта цалкам абвяргае.

Выкарыстанне армейскага бронеаўтамабіля «Цмок», што засведчыў начальнік абласной гродзенскай міліцыі Вадзім Сіняўскі, было зафіксавана ў Гродне на другі дзень пратэстаў, 10 жніўня.

Аўтар гэтага расследавання асабіста атрымаў фотадоказы выкарыстання браневіка ў складзе зводнай групы, у якую ўваходзіў таксама мікрааўтобус Ford Transit і аўтобус МАЗ-256.

Увечары 10 жніўня, паводле сведчання аднаго з відавочцаў, які разам з сябрам знаходзіўся на паркоўцы ў сваім аўтамабілі непадалёк ад абласной філармоніі, проста на ходнікі заехаў бранявік і аўтазак. Байцы спецпадраздзяленняў намагаліся затрымаць людзей, якія там шпацыравалі. Людзі хутка разбегліся, і пляцоўка стала пустой, тады некалькі сілавікоў падбеглі да аўтамабіля відавочцы, пачалі тузаць за ручкі, аднак дзверы паспелі своечасова заблакаваць. Па аўтамабілі пачаліся ўдары дручкамі, ад аднаго з якіх было разбітае ветравое шкло і пашкоджана крыло. Відавочцу з сябрам удалося з'ехаць, яны не былі затрыманыя.

Значна менш пашанцавала гродзенскаму таксісту Аляксею Лапу. 11 жніўня ён скончыў сваю працу і прыехаў да сяброў да гіпермаркета «Алмі» на вул. Савецкіх памежнікаў. Раптоўна з бронеаўтамабіля і мікрааўтобуса, што праязджалі побач, выбеглі людзі ў чорным — і аналагічным чынам напалі на яго аўтамабіль Škoda Rapid.

Аляксею разам з сябрамі таксама ўдалося тады з'ехаць, аднак у выніку спецаперацыі з удзелам другога браневіка, у межах якой была перакрытая цэлая вуліца, машына была спыненая. Усіх людзей, хто быў унутры, груба дасталі, паклалі на асфальт і пачалі гвалтоўна збіваць. Енкі, крыкі і катаванні людзей зафіксавананыя ў відэа, якія зрабілі відавочцы. Аляксею зламалі нос і верхнюю сківіцу, у выніку катаванняў ён атрымаў і іншыя цяжкія цялесныя пашкоджанні. Працяглы час усіх затрыманых трымалі проста на праезнай частцы, а Аляксею, які згубіў шмат крыві, нават не аказалі медычную дапамогу.



Аўто сям'і Чараухаў, пашкоджанае байцамі зводнай групы. Фота svaboda.org

У выніку Аляксея ўсё ж даставілі пад канвоем у бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі, адкуль перавялі ў рэанімацыю Гродзенскай універсітэцкай клінікі, дзе ён быў прааперараваны. Паказальна, што падчас аперацыі ён быў прыкуты кайданкамі да аперацыйнага стала. З траўмамі галавы былі шпіталізаваныя і два іншыя пасажыры яго аўто.

Цынізмам ёсць тое, што ў дачыненні да Аляксея Лапы распачалі крымінальную справу па арт. 364 КК РБ нібыта за ўчыненне гвалту ў дачыненні да міліцыянта.

З правядзеннем гэтай спецаперацыі звязаны яшчэ адзін інцыдэнт, які стаў шокам для ўсёй Беларусі.

Падчас гвалтоўнага затрымання Аляксея Лапы байцы зводнай групы таксама здзейснілі напад на легкавік VW Passat, у якім ехала маладая сям'я Уладзіміра і Іны Чараухаў з дачкой. Сям'я вярталася дахаты і на вул. Паповіча патрапіла ў калону машынаў. Перад імі было некалькі аўтамабіляў і адзін армейскі бранявік. Яшчэ адзін бронеаўтамабіль знаходзіўся за імі. Яны пабачылі, што першы бранявік пачаў падразаць мікрааўтобус, які стаў паварочвацца бокам. Паводле словаў Уладзіміра, раптам на таксі Škoda Rapid (аўто Аляксея Лапы. — Заўв. аўт.), што стаяла наперадзе, выбеглі каля 6 чалавек у чорнай форме без пазнакаў і пачалі дручкамі біць шыбы.

Уладзімір вырашыў іх аб'ехаць і выехаў на сустрэчную паласу. Праз імгненне на іх машыну накінуліся байцы зводнай групы і пачалі біць таксама дручкамі па машыне, разбілі ветравое шкло, бакавая шыбы і люстэркі. Пасля гэтага ззаду адбыўся моцны ўдар — іх машыну пратараніў другі бранявік. Нагадаем, што маса бронеаўтамабіля «Цмок» — амаль 9 тонаў.

Юля Чарауха, 5-гадовая дачка Уладзіміра і Іны, знаходзілася на заднім сядзенні і была вельмі блізка да шыбы, якую разбілі сілавікі. У выніку яна атрымала сур'ёзнае раненне галавы, увесь яе твар быў заліты крывёю.

Яе бацька выйшаў з машыны, каб дастаць параненае дзіця, і атрымаў ад байца зводнай групы ўдар дручком па галаве, які рассек яму лоб. Апроч гэтага супрацоўнікі міліцыі затрымалі яго для разбіральніцтва.

Траўму галавы атрымала і Іна Чарауха, пазней яна разам з дачкой была шпіталізаваная. У бальніцы яе дачцэ наклалі на рану чатыры швы і дыягнаставалі рассячэнне правай скроневай частцы і ЧМТ.

У першыя дні пратэстаў зводная група была задзейнічаная ў аперацыях па затрыманнях людзей па ўсім горадзе. Непасрэдныя сведкі падзеяў фіксавалі гэтую групу ў шматлікіх лакацыях Гродна. Падаем кадр з відэафіксацыі транспартных сродкаў групы, уключна з бронеаўтамабілем «Цмок» (МК 0719-0), на пешаходнай зоне ў гарадскім парку Жылібера.

У відэа можна пабачыць, як байцы зводнай групы дэсантуюцца з браневіка «Цмок» (МК 0719-0) на прыпынку грамадскага транспарту на вул. Перамогі і пачынаюць затрымліваць людзей.

Адна з асноўных мэтаў і задачаў зводнай групы, апроч удзелу ў аперацыях «пацыфікацыі» мірнага насельніцтва, — безумоўна, спрыянне максімальнаму застрашванню людзей. Менавіта гэтым і можна патлумачыць наяўнасць армейскага бронеаўтамабіля ў яе складзе.

Менавіта дзеля запалохвання людзей на паваротную платформу на даху «Цмока» байцы групы ўсталёўваюць буйнакаліберны кулямёт НСВТ.

На фоне адкрытага тэрору сілавікоў супраць мірнага насельніцтва Беларусі пытанне, ці мог ён быць выкарыстаны для агню на паражэнне, цалкам рытарычнае.

## Падрыў нацыянальнай бяспекі

23 жніўня, 30 жніўня і 6 верасня вакол стэлы «Мінск — горад-герой» Мінабароны выставіла ачапленне нібы дзеля аховы Музея Вялікай Айчыннай вайны. Дадаткова жаўнеры абнеслі калючым дротам досыць вялікую тэрыторыю вакол. Таксама 6 верасня адзнакі ваеннага становішча з'явіліся на цэнтральнай, Кастрычніцкай плошчы Мінска. Прастору перад Палацам Рэспублікі атачыла таксама вайсковае ачапленне з калючым дротам, цалкам давяршаючы гэты адзін з самых знакамітых сімвалаў архітэктурнай таталітарнай эстэтыкі Беларусі.

Міністр абароны Беларусі Віктар Хрэнін падчас закрытай нарады з кіраўнікамі структурных падраздзяленняў МА, ГШ і ЗС не выключыў магчымасць пачатку грамадзянскай вайны і ваеннага канфлікту. Цытаты з яго прамовы апублікавала «Наша Ніва». Ён звярнуў увагу прысутных, што «можа, некаторыя гэтага хочуць, каб потым нас, мяне, абвінавацілі ў генацыдзе супраць уласнага народа, таму што калі ўжываецца зброя, гінуць мірныя людзі».

Усё гэта сведчыць, што рэжым Лукашэнкі імкліва набліжаецца да тыповай вайсковай хунты, што ўтрымлівае ўладу з дапамогай гвалту і тэрору сілавога блоку ў дачыненні да сваіх жа грамадзян.

Неправамоцнае выкарыстанне сілаў і сродкаў вайскоўцамі Мінабароны Беларусі супраць уласнага народа павінна стаць падставай да належнага расследавання і асуджэння ў дэмакратычнай Беларусі. Факты прымянення арміі супраць мірнага насельніцтва не толькі значна змяншаюць прэстыж службы ў ёй, але і катастрафічна падрываюць давер да яе. У выпадку ж скаардынаванасці сілавых дзеянняў у дачыненні да беларускага народа паміж рэжымам Лукашэнкі і Расійскай Федэрацыяй, для апошняй адкрываецца вельмі шырокі калідор магчымасцяў для гібрыднай ваеннай агрэсіі і акупацыі нашай краіны.



Фотафіксацыя зводнай групы аўтатранспарту сілавікоў на вул. Дарвіна ў Гродна 10.08.2020 г. Нумар дзяржрэгістрацыі бронеўтамабіля «Цмок» МК 0717-0



Выкадраванне з відэа t.me/autogrodnob

# Студэнцкі пратэст. Дасье ў карыкатурах

Алег НОВІКАЎ

**Хваляванні ў шэрагу сталічных ВНУ на мінулым тыдні кажуць пра вяртанне ў нашу палітыку такога моцнага чынніку, як студэнцкі пратэст. Як сведчыць гісторыя, часам у студэнтаў атрымлівалася зрынаць уладу.**




Першым зафіксаваным студэнцкім пратэстам сталі падзеі ў сакавіку 1229 года ў парыжскім універсітэце. Тады гарадскія ахоўнікі парадку забілі некалькі студэнтаў. У адказ універсітэт неадкладна абвясціў страйк і ў выніку дамогся прававой аўтаноміі ад гарадской улады.

Аднак сапраўдны выхад студэнцкага руху на авансцэну адбыўся ў ХХ стагоддзі, калі вышэйшая адукацыя перастала быць адзнакай эліты. Піянерамі сталі амерыканскія студэнты з Берклі (Каліфарнійскі ўніверсітэт). Тут на працягу 1964–1965 навучальнага года паўстаў рух «Вольнае слова» (англ. Free Speech Movement; FSM), які патрабаваў дазволіць палітычную дзейнасць на тэрыторыі ВНУ. Адміністрацыя ў сваю чаргу звярнулася па дапамогу да паліцыі.

2 снежня некалькі тысяч студэнтаў захапілі галоўны корпус. У адказ паліцыя ачапіла будынак і пачала затрымання. Каля 800 студэнтаў былі арыштаваныя. Прыкладна праз месяц універсітэт высунуў абвінавачанні супраць некаторых з іх, што прывяло да яшчэ большага пратэсту, які практычна заблакаваў працу Берклі. У выніку дырэкцыя адступіла. Яе кіраўнік сышоў у адстаўку, а студэнты атрымалі права на адкрытую дыскусійную пляцоўку.

Рух «Вольнае слова» стаў паваротным для руху за грамадзянскія свабоды ў 1960-х гадах. У тым ліку яго актывісты асуджалі паліцэйскі гвалт.

Вось як адзін з карыкатурыстаў таго часу, які сімпатызаваў студэнтам, іранічна адлюстраваў тое, як павінен выглядаць у вачах паліцэйскага ідэальны грамадзянін.

Нельга абмінуць і травеньскія падзеі 1968 года ў Францыі, якія пачаліся з леварадыкальных студэнцкіх выступленняў і выліліся ў масавыя беспарадкі. Бойкі з паліцыяй і захоп універсітэта абудзілі прафсаюзы, якія правялі ўсеагульную забастоўку з удзелам 10 мільёнаў чалавек. Пачаўся параліч уладных структур. У выніку крызіс прывёў да змены ўрада, адстаўкі прэзідэнта Шарля дэ Голя і, у больш шырокім сэнсе, да велізарных зменаў у французскім грамадстве. Травень 1968-га таксама запомніўся фантастычным творчым парывам яго ўдзельнікаў. У тым ліку быў прыдуманы цэлы плакатны стыль. Вось яго прыклад — плакат «Будзь маладым і маўчы».

У сакавіку 1968-га ў Польшчы студэнты выйшлі з аўдыторый супраць першага сакратара ППК Уладзіслава Гамулкі. Каб прадэманстраваць лаяльнасць Маскве, з санкцыі Гамулкі пачалася цэнзура польскай класікі, якая традыцыйна была накіравана супраць Расійскай імперыі. У выніку забароны спектакля па п'есе Адама Міцкевіча «Дзяды» ў сакавіку 1968 года ўспыхнулі студэнцкія хваляванні, якія міліцыя жорстка разагнала. Нягледзячы на рэпрэсіі, студэнты захавалі баявы дух. Гэта выяўляецца і ў малюнках з іх падпольных выданняў. Напрыклад, адзін з іх высмейвае тых, хто спадзяецца на пазітыў, без правядзення ў краіне рэформаў.




Слаўнай старонкай студэнцкага руху з'яўляецца паўстанне ў Афінскім Політэхнічным універсітэце, дзе студэнты выступілі супраць дыктатуры «Чорных палкоўнікаў». 14 лістапада 1973 года студэнты ўмацаваліся ў корпусах ВНУ і адкрытым тэкстам абвясцілі пра барацьбу з урадам. Ва ўніверсітэце пачала працу самаробная радыёстанцыя, якой удалося прыцягнуць увагу жыхароў горада да пратэсту. У адказ улады кінулі супраць студэнтаў танкі. Адзін з іх разбіў вароты ўніверсітэта. Пачаўся штурм, падчас якога былі забітыя 24 чалавекі і больш за тысячу параненыя. Аднак кіраўнік хунты быў адпраўлены на пенсію. Пасля гэтага дыктатура пратрымалася менш за год. Не прайшоў тады міма апісаных падзей і часопіс «Крокодил».




І, нарэшце, плошча Цяньаньмэнь, дзе з 15 красавіка па 4 чэрвеня 1989 года адбываліся калектыўныя акцыі за дэмакратызацыю, галоўнымі ўдзельнікамі якіх былі студэнты. 4 чэрвеня войскі адкрылі агонь па дэманстрантах і тых, хто спрабаваў блакаваць прасоўванне вайскоўцаў на плошчу. Ацэнкі колькасці загінулых вар'іруюцца ад некалькіх соцень да некалькіх тысяч. Да сёньняшняга дня гэтыя падзеі натхняюць кітайцаў на пратэсты. Таму на карыкатуры мастака рэсурсу Press World кітайскі лідар Сі Цзіньпін спрабуе перапісаць гісторыю расправы.









Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1522

Падпісана да друку 10.09.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.